**Лісты пра Свабоду.** (Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе.) — Радыё Свабодная Эўропа / Радыё Свабода, 2014. 314 с.

Заснавальнік і каардынатар сэрыі
*Аляксандар Лукашук*
Укладальнік *Валянцін Жданко*
Мастак *Генадзь Мацур*
Карэктар *Мікола Раманоўскі*

У выбраных лістах (2000–2014) з папулярнай радыёперадачы «Паштовая скрынка 111» слухачы выказваюцца пра ролю і месца Радыё Свабода ў сваім жыцьці.


FOL
ISBN 978-0-929849-66-9

# *Зьмест*

# *Патрэба душы*

Радыё Надзея, Радыё Памяць, Радыё Праўда, Радыё Вера, Радыё Сябар, Радыё Воля, Радыё Будучыня, Радыё Гонар, Радыё Жыцьцё, Радыё Мова, Радыё Гісторыя, Радыё Адукацыя, Радыё Сьвет, Радыё Асалода, Радыё Неабходнасьць, Радыё Шчырасьць, Радыё Падарожжа, Радыё Альтэрнатыва, Радыё Дапамога, Радыё Давер, Радыё Годнасьць, Радыё Задавальненьне, Радыё Выбар, Радыё Радасьць, Радыё Паветра, Радыё Крыніца, Радыё Аддушына, Радыё Бескарысьлівасьць, Радыё Цікавасьць, Радыё Мужнасьць, Радыё Абуджэньне, Радыё Падарунак, Радыё Прыемнасьць, Радыё Ўдзячнасьць, Радыё Разнастайнасьць, Радыё Павага, Радыё Званочак, Радыё Спагада, Радыё Сонца, Радыё Адвага, Радыё Бібліятэка, Радыё Аб’ектыўнасьць, Радыё Шчупак, Радыё Плён, Радыё Сьвятло, Радыё Ўсьмешка, Радыё Прафэсійнасьць, Радыё Змаганьне, Радыё Захапленьне, Радыё Роднасьць, Радыё Натхненьне, Радыё Знаходка, Радыё Сумленьне, Радыё Падтрымка, Радыё Сустрэча, Радыё Тэатар, Радыё Зрок, Радыё Палёгка, Радыё Веды, Радыё Вызваленьне.

У гэтым сьпісе, які складзены з прыхільных лістоў слухачоў за апошнія паўтара дзесяцігодзьдзя, роўна 60 ацэнак, столькі, колькі гадоў вяшчае Свабода.

Сьпіс мог быць даўжэйшы, і выказваньні былі ня толькі прыхільныя (яны, канечне, таксама прадстаўлены ў кнізе). Але большасьць — словы такой удзячнасьці, якая для нас, журналістаў Свабоды розных пакаленьняў, даражэйшая за нашы самыя высокія ўзнагароды, афіцыйнае прызнаньне і прафэсійныя дасягненьні.

Патрэбай душы назваў некалі Васіль Быкаў слуханьне Свабоды.

Свабода — сапраўды патрэба для большасьці нашых слухачоў, няважна, зь вялікай ці малой літары, у двукосьсі ці без.

Дзякуй, дарагія сябры, вам.

Гэта — ВАША СВАБОДА.

*Аляксандар Лукашук,*
*Радыё Свабода*

# 2000

*«Калі Беларуская Свабода пяройдзе на расейскую мову, палічу гэта абразаю і здрадаю»*

## *Алена Белахвосьцік, Рэчыцкі раён*

Вашы перадачы падабаюцца мне тым, што ў іх можна пачуць пра многія падзеі, пра якія чамусьці вельмі рэдка пішуць беларускія газэты. Але я ня згодная з вашымі карэспандэнтамі, якія ўсю віну за нашы беды ўскладваюць толькі на Лукашэнку. Ён жа вельмі стараецца для людзей. Гэта на месцах удзельныя князькі не выконваюць ягоных загадаў і твораць што хочуць. Што ён адзін можа зрабіць з усімі імі? Расказвайце болей пра гэта — пра самаўладзтва раённых ды абласных начальнікаў. У іх праўды ня знойдзеш. А Лукашэнка пра гэта ня ведае.

## *Ян Эмоцын, Глуск*

Як жа вы любіце Лукашэнку. Ніводнага кепскага слова на ягоны адрас. Няма таго каб сказаць проста і даходліва: узурпатар, цыган, злодзей, зьбіраецца прадаць Беларусь Расеі толькі дзеля таго, каб потым там атрымаць пасаду. Вось цяпер у Беларусі йдзе масавы крадзеж. Калі капалі бульбу, людзі начавалі ў полі, каб яе ўначы зладзеі ня выкапалі. Усё больш кватэрных злодзеяў. А чаму так? Узурпатар уводзіць свае звычаі ў жыцьцё беларусаў. Раней цыганы кралі коней, а пры Лукашэнку ўведзены звычай красьці людзей (узгадайце Ганчара, Заха-

ранку, Віньнікаву ды іншых). А вы не гаворыце пра гэта.

Вось вы кажаце, што ня трэба абражаць Лукашэнку. А што рабіць, калі на загад Лукашэнкі нас зьбіваюць на мітынгах, зьневажаюць? Вы зазірніце ў вёску й спытайце, хто такі Зянон Пазьняк. Вам адкажуць, што фашыст, што ў вайну паліцаем быў. (Хоць яго ў вайну й на сьвеце не было.) І спытайце, хто такі Лукашэнка. Пачуеце, што Лукашэнка, Шэйман, Латыпаў ды Чумакоў — сапраўдныя беларусы, якія хочуць далучыць Беларусь да Расеі, каб нам лепш жылося. Вось што робіць Лукашэнкава прапаганда, а вы зь ёй ейнымі ж мэтадамі ня хочаце змагацца.

## *Алег Бураў, Берасьце*

Вы на Свабодзе ня ўлічваеце некаторых беларускіх рэаліяў. Навіны ў інтэрнэце, можа, і цікава чытаць і слухаць дзесьці ў ЗША, Канадзе ці Аўстраліі, дзе кампутары ёсьць у кожным доме. Для нас жа гэта застаецца экзотыкаю, і колькі б вы ні гаварылі, бліжэй ня будзе. Студэнты зь Беларусі ў замежных унівэрсытэтах — гэта добра, але добра, здаецца, толькі для саміх гэтых студэнтаў. Штосьці ня чуў, каб пасьля вучобы яны вярталіся дадому й працавалі тут за мізэрныя грошы. Нашай уладзе, я лічу, такія зусім не патрэбныя, бо прыносяць з сабою дух свабоды, а гэта супярэчыць вядомаму выказваньню Лукашэнкі пра тое, што ён свой народ за цывілізаванымі краінамі не павядзе.

## *Ірына Барысевіч, мястэчка Парэчча, Гарадзенскі раён*

У перадачы «Праскі акцэнт» 5 сьнежня прагучала меркаваньне, што варта весьці вяшчаньне Свабоды для Беларусі на расейскай мове. Вельмі мяне гэта ўзрушыла. Каго хвалюе лёс Радзімы — той па-беларуску зразумее, нават калі й не размаўляе на нашай мове. А тыя, хто жыве ўспамінамі пра танную гарэлку й каўбасу, на якой мове ні гаварыце, слухаць ня будуць.

Я асабіста палічу гэта абразаю і здрадаю ў адносінах да мяне як да слухача. Кожны дзень паўтары гадзіны я слухаю інфармацыю на літаратурнай мове. Калі гучыць музыка ў перадачы «Вострая Брама», адчуваю гонар за сваіх продкаў, павагу да сваіх сучасьнікаў, якія ведаюць, хто яны і адкуль. А яшчэ адчуваю смутак і жаль. Надзея яшчэ не памерла, але жыцьцё праходзіць. Што я пакіну нашчадкам? Адумайцеся, людзі!

Да Бога зьвяртаемся на чужых мовах і просім Божае ласкі — таму й не заўсёды разумеем, што чуем у адказ. У пагоні за лёгкім хлебам пазычаем у суседкі ейную культуру, палітыку, норавы, аддаючы ўзамен зямлю крывічоў — спадчыну сваю і будучыню дзяцей нашых. Апамятайцеся, яшчэ ня позна.

## *Андрэй Кішкурнаў, вёска Судкова, Хойніцкі раён*

Сам я беларус, але пішу, размаўляю і думаю па-расейску. Хоць і вельмі шкада. Слухаю Радыё Свабода ўжо сем гадоў, і пераважна беларускую праграму. Ёсьць пра што падумаць, а галоўнае — пачуць слова праўды. У вёсцы аб'ектыўную інфармацыю пра падзеі ў краіне атрымаць вельмі цяжка. Недзяржаўныя газэты да нас не даходзяць, а на беларускай дзяржаўнай тэлевізіі ды радыё час спыніўся ў 1990 годзе, толькі палітычныя пэрсанажы іншыя. Ужо адно ўзгадваньне пра гэтыя сродкі інфармацыі наганяе тугу і маркоту.

## *Аляксей Паўловіч, Горадня*

***04.01.2000***

Радыё Свабода — незалежная радыёстанцыя, яна можа і павінна перадаваць тую інфармацыю, якую хавае ўлада. І найперш гэта зьвесткі пра злачынствы бальшавікоў. Трэба, каб штодня хвілін 10–15 была такая перадача. Нам ня так важна слухаць пра жаночае цела ці як хто страляў у ціры. Мы хочам ведаць сапраўдную гісторыю Беларусі, пра рэпрэсіі, пра тое, як бальшавікі гвалтам захоплівалі ўладу, заганялі сялян у калгаснае рабства; як Сталін рыхтаваў Другую ўсясьветную вайну…

Калі людзі будуць ведаць праўдзівую гісторыю, яны ніколі не прагаласуюць за камуністаў ці за Лукашэнку. Ці вы ня чуеце, як хлусьлівая

камуністычная прапаганда па 10–12 гадзінаў на суткі штодня цягне нас у мінулае, як расхвальвае расейскую кабалу?

Зноў жа — пра стукачоў трэба распавядаць, якіх шмат засталося ў нас па камуністах. Няўжо вы ня чуеце, як яны хваляць цяперашняе жабрацкае жыцьцё, як убіваюць у галовы людзям, нібы ў нас цяпер усё добра і вельмі добры Лукашэнка, за якога трэба зноў галасаваць? Расейскі гісторык Валкагонаў неяк сказаў, што ў СССР было 11 мільёнаў інфарматараў КГБ. Колькі стукачоў у беларускім КГБ — таямніца. Але паводле маіх зьвестак — кожны пяты жыхар Беларусі. Гэтыя даносчыкі ў беларускім КГБ захаваліся, як захаваўся і сам КГБ безь якіх-небудзь зьменаў. І яны вядуць, так бы мовіць, «растлумачальную работу» сярод людзей. Колькі разоў на працы, у чарзе ў магазыне ці проста ў натоўпе на кірмашы даводзілася чуць, як падазронага выгляду асобы распачынаюць палітычную дыскусію. Яны кажуць: «Вось, Пазьняк уцёк, а без Расеі мы не пражывем. Няма ў нас ані газу, ані нафты», ці «Добра, што Лукашэнка разагнаў Вярхоўны Савет, яны ўсё роўна нічога не рабілі».

Калі да працы сексотаў дадаць штодзённы падман, які льецца на нас з тэлевізара, дзяржаўных газэтаў ды радыё, то стануць відавочнымі сапраўдныя маштабы тае хлусьні, якой адурманьваецца народ. Гэтак і набіраецца той рэйтынг, якім хваліцца Лукашэнка. Лукашэнка абапіраецца на спэцслужбы, а спэцслужбы — на стукачоў. Прычым стукачы ёсьць і сярод начальнікаў, і сярод простых рабацяг.

## *Пётар Навіцкі, Рагачоў*

***31.08.2000***

Раней да мяне часам заходзілі паслухаць Свабоду нават мае суседзі. Але цяпер ужо ня ходзяць. І ведаеце чаму? Бо ўсіх раздражняе і стамляе музыка ледзь не пасьля кожнага сказанага слова. Як хацелася б сесьці й спакойна паслухаць пра становішча ў нас у Беларусі, пачуць навіны сьвету. А замест гэтага штохвіліны скрыгоча гэтак званая музыка. Пішу «гэтак званая», бо на кароткіх хвалях і дыктарскі тэкст не заўсёды добра пачуеш — зь цяжкасьцю ловіш кожнае слова. Якая ўжо там музыка.

Няўжо вы не разумееце, што ня дзеля музыкі ды іншых аздабленьняў слухаюць людзі Свабоду? Навошта ўскладняеце нам жыцьцё? Калі гэтак будзе працягвацца й далей, давядзецца мне сказаць вам «да пабачэньня».

## *Аляксей Калесьнікаў, Бабруйск*

***14.09.2000***

Даўно слухаю вашы перадачы. Сярод усяго армейскага дэфіцыту інфармацыі ваша радыё дапамагае мне даведвацца пра падзеі ў нашай краіне. У арміі нас ідэалягічна апрацоўваюць на занятках дзяржаўна-праўнае падрыхтоўкі і прымушаюць рэгулярна глядзець выпускі навінаў Беларускае тэлевізіі. Але вядома, якога кшталту там інфармацыя. Таму вельмі ўдзячны вам за тое, што вы ёсьць.

## *Тацяна Лебядзевіч, Заслаўе*

***14.09.2000***

Мне й раней пра вас распавядалі, але знайсьці патрэбную хвалю я не магла. І вось днямі прачытала абвестку ў «БДГ» пра вашы хвалі і дзякуючы гэтаму знайшла вас у эфіры. Прашу прабачыць за расейскую мову — пісаць і размаўляць на роднай мове гэтак, як гэта робіце вы, мяне, на жаль, не навучылі. Заслаўе побач зь Менскам, але чуваць беларускую Свабоду кепска, такое ўражаньне, што шумы ды іншыя перашкоды асабліва ўзмацняюцца падчас самых цікавых сюжэтаў.

Хачу сказаць вялікі дзякуй за вашу працу. Ад сябе абяцаю распавядаць усім знаёмым пра ваша існаваньне і пра тое, што вас варта слухаць, каб ведаць праўду.

## *Дзяніс Клямко, Баранавічы*

***26.10.2000***

Сумна вас слухаць, Беларуская Свабода. Што вы ўсё адным і тым жа людзям слова даяце — Лябедзька, Пазьняк, Вячорка, Грыб, Шушкевіч… І так даўно вядома, што яны думаюць і што скажуць. Няўжо вам не цікава, як пракамэнтаваў бы праблему ўціску незалежнае прэсы, да прыкладу, віцэ-прэм'ер Уладзімер Замяталін або як ставіцца да адкрыта антыбеларускіх праяваў расейскае палітыкі міністар замежных спраў Урал Латыпаў? Цікава было б таксама чуць іншых асобаў, якія рэальна кіруюць дзяржаваю.

# 2001

*«На службе нас правакавалі, каб высьветліць, хто слухае замежныя радыёгаласы»*

*Іван Лях, Менск*

***19.04.2001***

Ведайце, што вы губляеце прыхільнікаў. Вядома, наш народ вельмі цяжка падняць на змаганьне — мы ня Чэхія і нават не Ўкраіна. Але і вы робіце шмат памылак.

Кожнае слова Лукашэнкі для вас — нібы залаты зьлітак. Як жа вы далікатна да яго ставіцеся — бясконца цытуеце, аналізуеце, надаяце яму вагі. Вы ствараеце ўражаньне, нібы ўсё ім сказанае — вельмі каштоўнае. Ну чаму вы ня хочаце бачыць, што гэта проста выпешчаная панна наровіцца, капрызіць? Што ён вечна на ўсіх пакрыўджаны, што «зацыклены» на ўласнай пэрсоне?

Бяззубасьць вашых аўтараў проста засмучае. Калі бачыце, што перад вамі малаадукаваны калгасьнік — дык так яго і называйце. А вы жуйку жуяце, выштукоўваецеся, нібы гэта шэдэўр усясьветнай цывілізацыі. Абсмоктваеце кожнае ягонае слова, нібы Леніна на палітзанятках слухаеце.

Патрэбныя зусім іншыя журналісты, здольныя высьмейваць гэты беларускі фэномэн.

Часам думаю: ці ня вы вінаватыя, што заснуў наш народ? Ці гэта Лукашэнка вам плоціць, каб вы былі такой ляяльнай да яго апазыцыяй? Я хачу быць за вас, але для пачатку хацелася б высьветліць — за каго вы?

## *Зьміцер Панкавец, вёска Кастрыца, Барысаўскі раён*

***11.05.2001***

Чуў па Свабодзе, што ў школах аднаўляюць палітзаняткі. У нас такія заняткі ніколі й не зьнікалі. На іх нам распавядаюць пра заслугі Лукашэнкі, тлумачаць, чаму патрэбен саюз з Расеяй — маўляў, свае нафта і газ будуць. Распавядаюць, якія ў Беларусі дэмакратычныя парадкі.

А пра ўдзельнікаў апазыцыйных акцыяў кажуць так: «Пьяные отморозки собрались, им десять долларов дали, вот они и чёртом свищут».

Школа ў нас беларускамоўная, аднак пэўныя ўрокі — прыкладам, ангельская мова, чалавек і грамадзтва, аўтасправа — выкладаюцца па-расейску. Дык мы нядаўна клясай пастанавілі дамагацца, каб усе ўрокі выкладаліся па-беларуску. Напісалі дырэктару заяву. Пасьля гэтага беларуская мова гучыць часьцей.

А яшчэ пасьля гэтага выпадку мяне абмяркоўвалі на пэдсавеце. Прыйшлі да высновы, што я першы пайду зь відэльцам на Расею. А яшчэ мяне пачалі вінаваціць у фашызьме, бо мой прадзед Барыс Саснавец служыў у Беларускай Краёвай Абароне. Я гэтага факту ніколі й не хаваў — усім распавядаў, што прадзед ваяваў за беларускую Беларусь. Настаўнікі пачалі казаць, што я ўвесь у прадзеда — калі б мог, зараз жа прадаў бы Беларусь немцам. А яшчэ яны вельмі шкадуюць, што я жыву ня ў Менску.

Неяк яны ўбачылі ў мяне кнігу Франца Кушаля і пасьля гэтага пачалі лічыць мяне фашыстам. А я фашыстам ніколі ня быў, а аднаго разу нават пабіўся з РНЕшнікам, які прыяжджае ў вёску. Пабіліся мы за тое, што я назваў Гітлера і Сталіна псыхапатамі.

Вось так і жывём. Дзень за днём мне прыдумваюць у школе новыя мянушкі: то я ім польскі шляхціц, то нямецкі фашыст, то амэрыканскі шпіён. Ніяк ня могуць яны ўсьвядоміць, што я проста люблю Беларусь — і болей нічога.

Штодня а шостай гадзіне я цягнуся да свайго прымача, настройваюся на 612 кілягерцаў — і наступныя паўтары гадзіны мяне цяжка адарваць ад гэтага занятку. Слухаю ўсё, асабліва люблю «Вострую Браму» Сяргея Дубаўца…

Ня ведаю, як бы я зараз жыў, каб у мяне адабралі Свабоду. Калі слухаю вас, то мне здаецца, што мы — самая вялікая краіна сьвету, а беларусы — самы лепшы народ. Толькі гэты міт доўжыцца паўтары гадзіны.

А потым я выходжу на вуліцу вёскі і бачу п'яных аднавяскоўцаў, адзінай праблемай для якіх стала — дзе заўтра знайсьці чарку. І адчуваньне велічы ў мяне зьнікае. Але потым я зноў раскладваю свае думкі й прыходжу да высновы, што пакуль ёсьць у краіне такія людзі, як вы, ня згіне наш народ. І згадваюцца словы Янкі Філістовіча: «Усё пераменіцца, будзе вольнай Беларусь!».

## *Сьвятлана Мацкевіч, Маладэчна*

***08.06.2001***

Усё беларускае навокал нішчыцца, Беларусь рэальна ўсё больш ператвараецца ў расейскую правінцыю. Гінуць мова і культура, амаль вынішчаная нацыянальная школа. Часам апускаюцца рукі: плён твайго жыцьця, тваёй працы топчуць тыя, каму не дарагія ні гісторыя наша, ні незалежнасьць, ні будучыня.

У такія хвіліны ратуеш толькі ты, Радыё Свабода. Ты даеш сілы заўтра зноў ісьці на працу, вучыць дзяцей роднай мове і верыць, што гэтыя зярняты калі-небудзь узыдуць і спатрэбяцца новай Беларусі.

## *Мікіта Пазьняк, Наваградак*

***15.06.2001***

Я толькі-толькі закончыў дзявяты кляс, і цяпер перада мной цэлае жыцьцё. Але немагчыма пабудаваць сваё асабістае жыцьцё, калі ня будзе наша Радзіма вольнай, свабоднай і шчасьлівай. Я ўпэўнены, што калі кожны беларус будзе гатовы аддаць сваё жыцьцё за Радзіму, за свой народ, мову, культуру — мы ніколі ня зьведаем бяды.

Хачу выказаць вам вялікую падзяку за тое, што вы ёсьць. Для мяне — чалавека, які любіць сваю Радзіму, сваю мову, патрыёта — няма нічога лепш, чым чуць голас Свабоды.

## *Павал Воранаў, Гомель*

***12.10.2001***

Слухаю вас са студзеня 2001 году. Інфармацыя ваша тэндэнцыйная, накіраваная на падбухторваньне грамадзтва да псыхозу і рэвалюцыі. Супрацоўнікі вашай радыёстанцыі заражаныя фантазіяй прыходу да ўлады, і іхная фантазія ўжо перайшла ў фанатызм. Гэта небясьпечна, бо колькасьць вашых слухачоў вельмі шматлікая і ахоплівае ў значнай ступені ўсю Беларусь.

Якая вы апазыцыя — вы ж драпежнікі, небясьпечныя людзі і можаце стаць тэрарыстамі. Маладафронтаўцы дасьпяваюць да пагромшчыкаў.

Апазыцыя — гэта вораг Беларусі. Яна задумвае нядобрае і рвецца да ўлады, што прывядзе да хаосу, бойні, разьні, разрухі. Цяпер апазыцыя ў Беларусі фанатычная і непрымірымая. Яна застанецца такой, нават калі яе перастануць фінансаваць заходнія краіны.

## *Домна Лісоўская, Даўгаўпілс, Латвія*

***19.10.2001***

Паважаныя журналісты Свабоды, вы — мая радасьць. Кожны дзень мой пакой напаўняецца вашымі галасамі, і для мяне гэта стала штодзённай неабходнасьцю.

На жаль, апошнім часам добрых навінаў мала. Слухаю вашы паведамленьні пра тое, як балюча

перажывае сьвет трагедыю ў Амэрыцы — і хочацца закрычаць на цэлы сьвет: «Людзі, дзеці Божыя, што ж вы робіце! Ня помсьціце адзін аднаму, не памнажайце зла».

Няхай бы прэзыдэнт Амэрыкі Джордж Буш, перш чым пачынаць вайну, спытаў у папы Яна Паўла II, што рабіць, каб не нарабіць зла яшчэ большага. Бо можа стацца, што з гэтага зачараванага кола мы ня выберамся ніколі.

*Эдуард Клімовіч, Баранавічы*

***23.11.2001***

Лукашэнка — правадыр беларускага народу і ўсяго славянскага сьвету. Яго абагаўляюць і любяць па ўсёй сьвятой Русі — у Беларусі, Украіне і Расеі. Гэта сапраўдны трыбун трыадзінай рускай нацыі — беларусаў, маларосаў і вялікаросаў. На выбарах прэзыдэнта Бацька атрымаў большасьць галасоў, бо ён плоць ад плоці беларускага народу.

І мы, беларусы, за свайго бацьку вам, ЦРУшным наймітам, глотку перагрызём. Вашу Свабоду слухае менш як паўадсотка насельніцтва рэспублікі — дый тое маргінальная частка грамадзтва. Чым больш вы паліваеце брудам нашу Радзіму-Беларусь, тым страшней мы вас пакараем.

## *Ільля Копыл, Менск*

***30.11.2001***

Раз вашы нядобразычліўцы ня толькі слухаюць ненавісную ім Свабоду, але нават пішуць лісты, то гэта азначае, што вы на правільным шляху.

Вось некалькі тыдняў таму паслухаў я ліст Казіміра Нарковіча зь Берасьця, які напісаў, што ў савецкі час можна было слухаць любыя замежныя галасы — нібыта не было ніякай забароны. Паспрабую яму запярэчыць.

Першае, усё так глушылася, што трэба было ўвесь час прыхіляць вуха да самага радыёпрыёмніка і пастаянна круціць ручку настройкі. А другое, слухаць можна было толькі вельмі позна, калі дзеці кладліся спаць — каб яны выпадкова не прагаварыліся пра гэта ў школе.

Па-трэцяе, на службе нас заўсёды правакавалі, каб высьветліць, хто слухае замежныя галасы. Рабілася гэта даволі прымітыўна. Нампаліт, чытаючы нейкую лекцыю пра посьпехі ў пабудове «разьвітога сацыялізму», адрываўся ад напісанага тэксту і даверліва зьвяртаўся да нас: «Між іншым, я ўчора слухаў Радыё Свабода, дык там перадавалі цікавыя зьвесткі. Можа, яшчэ хто слухаў? Тады мне лягчэй будзе весьці размову». Але мы рабілі выгляд, што нас гэта ня тычыцца. У іншым выпадку размова са слухачом «варожага» радыё працягвалася б у кабінэтах начальнікаў.

Па-чацьвёртае, у кожным падразьдзяленьні быў інфарматар КГБ — асобага аддзелу, сэксот з нашага асяродку. Пад маёй камандай былі 24 афіцэры, і гэтага аднаго — сэксота — я ведаў.

# 2002

*«Свабоду слухаюць многія, але пісаць*
*баяцца: небясьпечна»*

## *Іван Даўжынскі, Жыткавічы*

***28.01.2002***

Сёлета давялося адмовіцца ад падпіскі на незалежныя газэты: зарплаты ледзь хапае на ежу. З абяцаных Лукашэнкам ста даляраў пакуль атрымліваю толькі сорак. Астатніх, напэўна, давядзецца чакаць да наступных выбараў. У гэтай сытуацыі Беларуская Свабода — адзіная магчымасьць дзеля таго, каб даведацца праўдзівыя навіны. Дзякуй Богу, што мой старэнькі «Акіян» пакуль не падводзіць і я штодня чую вашы дарагія майму сэрцу галасы.

## *Іван Скуцэня, вёска Працавічы, Слуцкі раён*

***08.02.2002***

Я ўжо 70-гадовы дзядуля, і для мяне Свабода — гэта маленькае акно ў белы сьвет. Асабліва пільна я сачу за тым, як стойкія хлопцы і ўдзень і ўначы абараняюць Курапаты. Глыбокая падзяка ім ад мяне. Гэта і мой боль, бо я — сын так званага «ворага народу».

Свае Курапаты ёсьць у кожным беларускім горадзе, толькі камуністы іх схавалі і засакрэцілі. Яны паступалі са сваім народам як бандыты, баючыся адказнасьці за ўчыненыя злачынствы.

## *Алесь Башко, Горадня*

***29.03.2002***

Вельмі слабыя вашы перадачы, як быццам (і гэта хутчэй за ўсё) ня наскія. Гэтым, мабыць, і тлумачыцца, што не чуваць на вашых хвалях галасоў Алеся Пушкіна ці Славаміра Адамовіча. Апошняга, праўда, пусьцілі нядаўна ў эфір прачытаць пра сваё перажытае. Але на шырокі камэнтар падзей і пра нараблёнае — а ні-ні, не пускаеце. А гэта ж асобы зь ясным сьветапоглядам і ўнутранай свабодай. І яны не запатрабаваныя.

Колькі ўжо разоў вам казалі, у тым ліку і з высокіх трыбунаў, пра вашы недахопы. Нешта не адчуваецца, што гэта НАША радыё. Ну вось, скажам, апошняя перадача пра падманутых укладчыкаў. Размова зь недасьведчанымі Леанідам Злотнікавым і Валерам Дашкевічам. Поўная прафанацыя. Людзі ня ведаюць нават элемэнтарнага, адкуль ногі растуць, а лезуць разважаць пра глябальнае і спэцыфічнае. Вы б яшчэ Фядуту паклікалі. Ён апошнім часам у вас таксама гучыць.

Увогуле, выснова мая такая: паўлазілі ў рэдакцыю розныя падазроныя асобы — і плятуць абышто не на карысьць беларушчыны. А вынікі — кажуць самыя за сябе.

## *Вера Касновіч, пасёлак Новагарадзейскі, Нясьвіскі раён*

***29.03.2002***

Я вельмі даўняя слухачка вашага (і майго) радыё. Нават калі нядаўна была ў гасьцях у сына ў Рызе — і там прачыналася раніцай з навінамі Свабоды і са Свабодай жа апоўначы засынала.

Вельмі хацела б (і ня толькі я, а і ўсё наша сяброўскае кола), каб у перадачы «Мэлёдыя дня» прагучалі творы слыннага сына нашай Радзімы — паэта і кампазытара Пётры Нядзьвецкага. На 3-м зьезьдзе беларусаў сьвету даведалася, што ён, на жаль, ужо адышоў з жыцьця. Пры жыцьці ён марыў, каб ягоныя песьні гучалі на Радзіме. Я маю нават прэзэнтаваныя ім касэты з запісамі ягоных словаў і музыкі.

Мы жывём надзеяй, што марш ягоны «Ідуць жаўнеры-беларусы» адродзіцца і наша войска мірным крокам будзе ісьці ў вольнае, сьветлае жыцьцё.

## *Іван Антановіч, Горадня*

***12.04.2002***

Добра, што ёсьць Свабода — незалежная, аб’ектыўная станцыя. Але мы не зусім задаволеныя вамі. Прычым гэта думка многіх маіх знаёмых. Нам ня вельмі патрэбныя перадачы пра тое, што ела і піла шляхта, як яна бавілася, альбо пра лысіны.

Хіба такія перадачы здольныя фармаваць беларускі нацыянальны дух?

Паводле нашых падлікаў, Свабода штотыдзень атрымлівае дзясятак лістоў. А вы, спадар Жданко, зачытваеце толькі два-тры. Прытым асобныя зь іх напісаныя стукачамі, якія пішуць, што раней, за камуністамі, было ўсё добра. А калі ў лісьце ў адказ іх абвергнеш, дык пра гэта спадар Жданко ня згадвае. У выніку многія настолькі незадаволеныя Свабодай, што гатовыя пісаць у Кангрэс ЗША.

На Свабодзе мала перадачаў на тэму сталінскіх рэпрэсіяў і злачынстваў камунізму. Між тым многія кнігі ў Беларусі забароненыя цэнзураю, і таму трэба чытаць іх па радыё.

Свабоду слухаюць многія, але пісаць баяцца. Ведаючы, што ёсьць цэнзура і рэпрэсіі, могуць пісаць пад псэўданімам — так бясьпечней. Я і сам так раблю.

## *Міхаіл Васілеўскі, Берасьце*

***19.04.2002***

Вы, Радыё Свабода, кажаце, што сваімі перадачамі даводзіце да слухачоў усебаковую інфармацыю. Але пакуль ад вашай інфармацыі маюць карысьць толькі спэцслужбы рэжыму, якія вынішчаюць самых разумных, актыўных і сьвядомых беларусаў. Вы дзейнічаеце як «наводчыкі».

Рэжым і далей будзе хлусіць і падманваць простых людзей, пакуль, эканамічна давёўшы краіну да поўнага краху, ня здасьць Расеі. А прафэсары тым часам будуць працягваць плакаць, што ім

плацяць паўстаўкі, пакуль іх канчаткова ня выкінуць на вуліцу.

Нават нам, простым рабацягам, відавочна, да чаго ўсё ідзе, а вось «вярхі» беларускія ня могуць аб’яднацца, каб выратаваць краіну. Якія ім яшчэ доказы патрэбныя? Інфармацыйная прастора ў Беларусі цалкам здадзеная Расеі; Акадэмія навук зьнішчаецца на вачах; Саюз пісьменьнікаў задушаны эканамічна; школьніцтва стала цалкам расейскамоўным; вышэйшая і сярэдняя адукацыя — таксама...

Колькі ўжо часу мінула, а беларуская апазыцыя так і не знайшла лекаў ад палітычнай «лейкеміі», якая апанавала Беларусь.

## *Васіль Пракопаў, Асіповічы*

***26.04.2002***

Мяне вельмі зьдзіўляе музычнае афармленьне вашых праграмаў. Часам можна чуць, як нейкі чалавек, дзеручы глотку, паведамляе, што ён «нарадзіўся тут». Мяркуючы па тым, якімі рытмічнымі выкрутасамі суправаджаецца ягонае паведамленьне, ён нарадзіўся ня тут, а, хутчэй за ўсё, недзе ў Афрыцы, ці, можа, на Кубе. Дык, можа, хай і сьпявае там, дзе існуюць такія рытмы.

А яшчэ вось ужо чацьверты месяц, як у вас гучыць так званая «Мэлёдыя дня». Штодня я спадзяюся, што, можа, хоць сёньня прагучыць штонебудзь людзкае. Але дарэмна: як і напярэдадні, вы даяце слухаць усё тую ж прымітыўную «папсу».

У сувязі з гэтым хачу запытацца: на што трацілі сілы і час Шырма і Цітовіч, зьбіраючы беларускія народныя песьні, калі яны не патрэбныя нават на Радыё Свабода?

## *Чэслаў Хвайніцкі, Смаргонь*

***17.05.2002***

Я юрыст, былы будаўнік камунізму, а цяпер пэнсіянэр. Радыё Свабода слухаю пастаянна і даўно, бо лепшага радыёвяшчаньня ў Беларусі проста няма. Мне падабаюцца ўсе перадачы — і «Вольная студыя», і «Вострая брама», і «Сьвет за вакном», а таксама «Палітычная геаграфія» і «Праскі акцэнт». Ня вельмі даспадобы «Мэлёдыя дня»: хацелася б чуць лепшыя беларускія творы і лепшых выканаўцаў, якія добра валодаюць беларускай мовай і паважаюць яе.

Вельмі цікавыя «Сучасныя мэмуары», што гучалі на радыё (Быкаў, Адамовіч, Мудроў, Барткевіч). Злучае мяне з Радыё Свабода мой старэнькі адрамантаваны прыёмнік «Акіян-209», і чутнасьць вельмі добрая.

Спадзяюся разам з вамі дачакацца адраджэньня беларускасьці й годнасьці нашага народу, абалваненага марксізмам-ленінізмам, скалечанага бальшавізмам, ужо ня здольнага самастойна ўвайсьці ў цывілізаваную Эўропу.

## *Анатоль Адаменка, Гомель*

***07.06.2002***

Я ваш сталы слухач. Жаданьня і часу для гэтага хапае: я інвалід першай групы, заўсёды дома. Апроч таго, жыву адзін. Для мяне вашы перадачы ды яшчэ газэта «Народная Воля», якую пастаянна выпісваю (нягледзячы на кошт) і чытаю — адзінае акно ў сьвет. Дзяржаўная радыёкропка ў маёй аднапакаёвай кватэры балбоча толькі дзеля зьверкі часу.

Часам думаю: ці дажывем мы да тых часоў, калі вашы перадачы можна будзе слухаць па звычайнай радыёкропцы, як у многіх гарадах Расеі? Канечне, я разумею, што гэта не ад вас залежыць. Але ўсё ж веру, што такі час настане.

Хачу выказаць вам шчырую падзяку за добрую справу, якую вы робіце, нягледзячы на розныя нязручнасьці — даносіце праўду пра наша жыцьцё і жыцьцё ў сьвеце і гэтым дапамагаеце нам хутчэй стаць і пайсьці праўдзівым шляхам.

## *Алег Куніцкі, Віцебск*

***21.06.2002***

Што ні месяц — жыцьцё ўсё цяжэйшае. А ўлады ўсё хлусяць пра нейкую стабілізацыю, каторы год кормяць абяцанкамі пра саюз з Расеяй. Цэны тым часам не зьніжаюцца, а ўвесь час растуць, у адрозьненьне ад заробкаў.

Добра, што хоць ты, Свабода, сярод гэтых патокаў уладнай хлусьні гаворыш праўду, не баючыся, што яна не спадабаецца высокім начальнікам. Ад гэтага неяк лягчэй на сэрцы, бо не зьнікае надзея, што засталіся яшчэ ў Беларусі сумленныя людзі, якія разумеюць, што адбываецца, і ведаюць, як з гэтай багны выбрацца.

## *Марэк Рэдзімскі, Гдыня, Польшча*

***28.06.2002***

Беларуская Свабода — беларускамоўная станцыя, і такі ж павінен быць прынцып у яе перадачах. Яе слухаюць многія такія ж, як я, слухачы, якія не размаўляюць па-расейску. У гэтым выпадку пераклад з расейскай — выгода для нас. І вялікі дзякуй вам за гэта.

Слухаю Свабоду на дваццацігадовай старэнькай «Lenie» (гэта польскі аналяг беларускага «Акіяна»). Калісьці, за камунай, няможна было слухаць Свабоду, але ўсе прымачы мелі кароткія хвалі, а зараз слухаць можаш, але радыёпрымачы кароткіх хваляў ня маюць. Вось такая сатыра: як няма старога радыё, то не патрэбная ніякая цэнзура — выбару ня маеш ніякага.

## *Марыя Леваценка, Сант-Ніклаас, Бэльгія*

***23.08.2002***

Ужо на працягу пяці месяцаў штодня адкладваю ўсе справы, сустрэчы на дзьве гадзіны, каб нішто мне не перашкаджала і не адцягвала ўвагі ад тых падзеяў, што адбываюцца на Радзіме. Пра іх я даведваюся зь перадачаў Свабоды. Я ўжо сем месяцаў за межамі Беларусі, а душа, сэрца, пачуцьці, думкі — усё засталося там. Дзякуючы вам не адчуваю інфармацыйнага голаду. Усё пачутае прапускаю праз сябе — то сьмяюся, то плачу, то спачуваю, то абураюся, то пратэстую, то ганаруся.

Зусім ня згодная з Ільлём Копылам, які крытыкуе сынхронны пераклад расейскамоўных удзельнікаў перадачаў. Лічу вашы дзеяньні слушнымі. Сорамна мусіць быць тым беларусам, якія на працягу свайго жыцьця так і не навучыліся карыстацца роднай моваю.

Беларуская Свабода ёсьць часткаю маёй сапраўднай краіны пад назваю Беларусь. Вы дапамагаеце мне сьвята верыць у перамены да лепшага — усяго беларускага грамадзтва, усёй краіны. Я спадзяюся, што дажыву да тых часін, калі кожны беларус будзе ганарыцца роднай моваю, а не саромецца размаўляць па-беларуску.

# 2003

*«Калі глушылка змоўкла, пачуўся вайсковы голас: “Слушать Радио Свобода запрещено!”»*

## *Якаў Зінчанка, вёска Іскра, Данецкая вобласьць, Украіна*

***09.03.2003***

Мне 25 гадоў, я інвалід 1-й групы з хваробай вачэй, таму пад маю дыктоўку вам піша мама. Некалькі гадоў таму выпадкова натрапіў на хвалю Беларускай Свабоды, і з таго часу мне вельмі падабаецца слухаць вашы перадачы. Потым мне ў рукі трапіла кніга на беларускай мове, і зь яе дапамогай, як мне здаецца, я вельмі някепска вывучыў беларускую мову. Часам мне нават падаецца, што я больш беларус, чым украінец. Напісаў нават вось такі кароткі верш на беларускай мове:

*Я вывучаю мову лясоў,*
*Мову вёсак і гарадоў,*
*Мову зялёнай травы і балот...*
*І дзень, і месяц, і год.*

З усіх вядучых мне найбольш падабаецца Алена Радкевіч. Яе голас здольны абудзіць добры настрой, нават калі на душы ня дужа радасна.

Жыву ў вёсцы з бацькамі. З прычыны хваробы нідзе не працую, але маю захапленьне — займаюся экалягічнай асьветай насельніцтва, належу да Ўкраінскай грамады аховы птахаў.

Даўно хачу набыць аўдыёкасэту зь беларускімі народнымі песьнямі або кнігу па экалёгіі на беларускай мове. Але ў нас нічога гэтага, на жаль, няма.

## *Мікалай Лясовіч, Менск*

***16.03.2003***

Я ўпэўнены, што Радыё Свабода іграе найважнейшую ролю ў жыцьці Беларусі, бо дае нам магчымасьць даведацца праўду пра падзеі ў краіне. А ад інфармаванасьці народу залежыць вельмі многае. Тым больш дзіўна выглядаюць відавочныя недахопы ў вашай працы. Гэтыя недахопы я лічу роўнымі злачынствам супраць свабоды інфармацыі.

Па-першае, сыгнал Беларускай Свабоды — самы слабы з усіх, што можна злавіць на кароткіх і сярэдніх хвалях. І гэта тады, калі Беларусь — апошняя дыктатура ў Эўропе. Калі містэр Дайн гэтага не разумее, то ён падманвае давер уладаў ЗША. Пасьля восьмай гадзіны вечара беларускую Свабоду ўвогуле амаль немагчыма прыняць, як пры глушылках.

Па-другое, у зрыве масавых акцыяў апазыцыі актыўную ролю іграе менавіта Беларуская Свабода, паколькі не дае інфармацыі пра месца і час збору людзей. Я слухаю Свабоду штодня, але толькі сёньня, 10 сакавіка, даведаўся, дзе будуць зьбірацца людзі 12 сакавіка. Інакш як наўмысным зрывам акцыі апазыцыі гэта назваць нельга. Відавочна, той, хто адказвае ў вас за гэта, — вораг Свабоды. Калі 12 сакавіка прыйдзе мала людзей,

у гэтым будзе значная ваша віна, а таксама плён дзейнасьці агентуры Лукашэнкі на Свабодзе. Ваш найважнейшы абавязак — шматкроць паўтараць інфармацыю пра тое, дзе і калі будуць адбывацца акцыі апазыцыі.

## *Андрэй Паско, Берасьце*

***23.03.2003***

Ваша перадача, спадар Жданко, мне падабаецца тым, што вы зачытваеце розныя меркаваньні, у тым ліку зацятых прыхільнікаў Лукашэнкі зь іхнымі недарэчнымі, а часам і бессэнсоўнымі аргумэнтамі. Гэтым вы вельмі адрозьніваецеся ад іншых сродкаў масавай інфармацыі.

## *Мікалай Волчык, вёска Зіновічы, Пружанскі раён*

***23.03.2003***

Той, хто думае, што Свабоду глушаць, памыляецца. Перашкодаў няма. Хто гэтым у свой час займаўся і дзе былі гэтыя аб’екты (так званыя глушылкі), мне добра вядома (вайсковы досьвед). А цяжкасьці з прыёмам можна патлумачыць проста: іншы раз іёнасфэра, магнітныя буры ўносяць свой расклад у распаўсюд сыгналу. А наогул, вашы тэхнічныя службы працуюць выдатна!

Сам я слухаю Свабоду з дапамогай прымача «Казахстан» з вонкавай антэнай і ацэньваю чутнасьць на пяцёрку з плюсам.

## *Іван Савіч, вёска Багданаўка, Лунінецкі раён*

***23.03.2003***

Слухаю вас ужо гадоў пяць-шэсьць. Не ўяўляю сабе без Свабоды ніводнага выходнага вечара. Канечне, жывучы ў вёсцы, ня кожны дзень ёсьць час слухаць радыё, асабліва на кароткіх і сярэдніх хвалях. А слухаць Свабоду ў FM-дыяпазоне, як я разумею, пакуль што марыць не прыходзіцца. Што зробіш, такі ўжо ў нас час настаў.

Але нішто не стаіць на месцы. А ў Беларусі час заўсёды адставаў ад рэальнасьці. Так было, напрыклад, пасьля падзелаў Рэчы Паспалітай, калі ў гарадах яшчэ паўстагодзьдзя галоўнай мовай заставалася польская. Так і зараз: мы адстаем ад часу, для нас гэта як норма.

## *Яўген Аляксандраў, Менск*

***20.04.2003***

Як жа так, няўжо вы ня ведаеце пра тое, што Свабоду зноў глушаць? Калі так, апішу тое, сьведкам чаго быў сам. Летась у сакавіку ўключыў я неяк прымач а 18-й гадзіне на хвалі 31 мэтар, каб Свабоду

паслухаць. Звычайна ў такі час на гэтай хвалі яе ў мяне чуваць было выдатна, гучна, якасна. А таго дня ў 18:10 пачуўся нейкі віскат, піск, мэханічны «сьпеў». Я адразу падумаў: пэўна, глушылка. Ды праз 10 хвілінаў «сьпеваў» глушылка зьнікла, а замест яе на тле галасоў аўтараў Свабоды пачуўся вайсковы голас мужчыны сярэдніх гадоў: «Слушать Радио Свобода запрещено. Повторяю: запрещено». Потым зноў пачаліся мэханічныя сьпевы.

Я такога не чакаў. Быў вельмі ўражаны. Але затое дакладна зразумеў: у гэтай краіне ўлады ў любы момант гатовыя пайсьці на скрайнія меры. Пазьней я час ад часу зноў чуў мэханічныя сьпевы, але ўжо бяз голасу вайскоўца.

## *Фёдар Аляксееў, Віцебск*

***27.04.2003***

Я часта слухаю Свабоду, «Голас Амэрыкі» і «Нямецкую хвалю». Але асабліва мне падабаецца Свабода. І вельмі шкада, што вашы перадачы даходзяць толькі да нязначнай колькасьці насельніцтва — да тых, хто мае транзыстарныя радыёпрыёмнікі.

Варта было б вам дамагацца, каб Свабоду трансьлявалі хаця б 2–3 гадзіны ў суткі па дзяржаўным радыё. Народ павінен ведаць праўду. А дзяржаўнае радыё — не асабістае Лукашэнкава, а агульнанароднае.

Нашаму народу самастойна пазбавіцца ад гэтага рэжыму немагчыма. За гады савецкай дыктатуры нас настолькі замардавалі, затуркалі, што мы ператварыліся, выбачайце за слова, у быдла. Словам,

трэба вам зьвярнуцца да міжнародных сілаў і дамагчыся, каб Свабода гучала на дзяржаўным радыё. А калі наш дыктатар баіцца праўды — значыць, яму ёсьць што хаваць ад свайго народу і ад усяго сумленнага сьвету.

## *Віктар Туравец, Ліён, Францыя*

***30.04.2003***

Калі я вымушаны быў зьехаць зь Беларусі, то ня думаў, што так цяжка будзе першыя тры месяцы безь беларускага слова, без інфармацыі, магчымасьці адчуваць сваё, роднае... А калі праз тры-чатыры месяцы зьявілася магчымасьць штодзённага спатканьня са Свабодай — гэта дало столькі сілаў, энэргіі, надзеі на лепшае!..

Натуральна, кепскія навіны ўспрымаюцца балюча, душа рвецца дамоў. Вельмі цяжка чуць пра нахабныя дзеяньні ўлады, здраду яе памагатых. І ўсё ж аптымізм перамагае. І самым прыемным у маім жыцьці застаюцца часіны, калі настройваюся на маю родную Свабоду. Вялікі дзякуй вам, што вы ёсьць, што робіце вельмі патрэбную справу.

## *Марыя Ёфэ, Ліда*

***11.06.2003***

Добра, што ёсьць на сьвеце Радыё Свабода. Увечары слухаю вас — і нібы акунаюся ў іншы сьвет, бяз гэтай афіцыйнай хлусьні, падману, крыва-

душнасьці. Няблага было б, каб болей было ў вас расповедаў пра тое, як жывецца нам, простым людзям. Як лічым капейкі да пэнсіі, прыніжаемся на рынку, латаем даўно зношаныя чаравікі, а часам і корпаемся ў сьметніках. Пра гэта ж болей ніхто не расказвае.

Паглядзіш беларускае тэлебачаньне — дык яны ўсё толькі пра клапатлівага Лукашэнку, які то бібліятэку будуе, то чыноўнікаў сваіх лае, то ў хакей гуляе. Першыя гады здавалася: малады, спрытны, спуску злодзеям не дае... А цяпер, як ужо дзевяць гадоў прайшло, бачыш: пустое ўсё гэта, адна паказуха. Жыцьцё ж да лепшага не мяняецца, усё толькі горш становіцца. Які толк ад гэтага ягонага спрыту ды лаянкі? Разумныя людзі даўно ўжо гэта зразумелі, але час мінуў: цяпер Лукашэнку проста так ад улады за вушы не адцягнеш. Напэўна, давядзецца дажываць пры ім.

## *Сяржук Буравы, Старадуб, Бранская вобласьць, Расея*

***13.07.2003***

Вас ня слухаюць людзі, якія прывыклі думаць самастойна, асэнсоўваць факты ўласнай галавой. Бо ў вашых перадачах факты практычна адсутнічаюць. Затое ёсьць агітацыя, ёсьць самабытная мова, ёсьць свая тэрміналёгія, зразумелая ў вузкіх, ідэалягічна падрыхтаваных для гэтага колах.

Ня слухаюць вас і людзі, ідэалягічна інакш арыентаваныя. Іхную ўвагу можа прыцягнуць толькі

новая фактычная інфармацыя Любыя аналітычныя камэнтары (нават на 100% справядлівыя) іх адштурхоўваюць.

Не складаецца ваша аўдыторыя і зь людзей, што жывуць у вёсцы. Там гаворыць на іншай мове — ня вашай. Сапраўдных беларусаў-калгасьнікаў у Беларусі ўлада не прыцясьняе. Сапраўдныя беларусы — падмурак рэжыму Лукашэнкі. Менавіта ён — сапраўдны беларус, ураджэнец вёскі, дзе размаўляюць на сапраўднай, дзейнай, жывой вялікабеларускай мове — трасянцы. Сапраўдны беларус, носьбіт гэтай мовы, далёкі ад ідэалаў дэмакратыі: ня будзе ён слухаць ваша радыё.

Вам неабходна скінуць ідэалягічныя путы, запрашаць на радыё людзей розных поглядаў, даваць ім час у эфіры. Запрашайце і прыхільнікаў Лукашэнкі — іх жа ад 25% да 60% насельніцтва.

Вам трэба ўлічваць інтарэсы той часткі насельніцтва, якая размаўляе па-расейску. А значыць, неабходныя расейскамоўныя перадачы. Гэта павялічыць аўдыторыю ў некалькі разоў. Людзей можна пераканаць толькі на іх мове, выкарыстоўваючы іхныя паняцьці ды штампы. Стварэньне ж уласных ідэалягічных паняцьцяў і штампаў вядзе да абасобленасьці і абмежаванасьці.

## *Рузана Зрэна, Адэса, Украіна*

***20.07.2003***

Выпадкова натрапіла на вашы хвалі ўвечары 22 чэрвеня. На сваім капеечным прымачы невядомай краіны паходжаньня я шукала Стакгольм, а знайш-

ла Беларускую Свабоду. Доўга не магла адарвацца. Большая частка вашай праграмы ў той вечар была прысьвечаная памяці Васіля Быкава, які яшчэ за некалькі гадзінаў да эфіру быў жывы. Уразіла тое, як хутка вы адклікнуліся на гэтую вялізную страту, як прафэсійна здолелі сабраць камэнтары і водгукі. Дзякуй за выдатную працу.

## *Дзьмітры Шчаглоў, Пінск*

***13.08.2003***

Мне 19 гадоў, я вучуся ў Пінскім філіяле Беларускага дзяржаўнага эканамічнага ўнівэрсытэту (перайшоў на трэці курс). Вельмі часта слухаю і Радыё Свабода, і дзяржаўныя СМІ. І зрабіў для сябе такую выснову наконт вашай працы: хто зь якой кармушкі корміцца, той таго і падтрымлівае. Ні на крок пры гэтым не адступаючы.

Калі Аляксандар Лукашэнка — закладнік сваёй камуністычнай ідэалёгіі, дык вы, Радыё Свабода, — закладнікі Захаду. Паспрабуйце сказаць што-небудзь у падтрымку беларускай улады, дык Захад самі ведаеце што зробіць з вамі. Таму ад вас не пачуеш ніводнага добрага слова на адрас улады. Але няўжо ў Беларусі ўсё так дрэнна? Паводле апошняй статыстыкі, яна сярод краінаў СНД займае першае месца ў шэрагу галінаў. І заробкі ў Беларусі не такія ўжо і нізкія. Да каго са знаёмых ні зойдзеш — дык ня скажаш, што людзі кепска жывуць.

# 2004

*«Свабоду мы слухалі ў казарме, цішком засеўшы ў "ленкомнаце". А "зампаліт" нас выявіў...»*

*Павал Калечыц, Менск*

***11.01.2004***

Здаецца, і праўду вы расказваеце пра наша гаротнае жыцьцё, а ўсё ж нечага ў вашых перадачах не хапае, каб верыць вам цалкам. Я доўга думаў, чаго, і, здаецца, здагадаўся. Вось вы крытыкуеце міністра ці якога-небудзь высокага начальніка — а чаму не даяце яму слова, каб апраўдацца ці патлумачыць? Я хачу, каб дзеяньні Шэймана тлумачыў сам Шэйман, а не Лябедзька і не адвакат Паганяйла. Тое ж і адносна розных падзеяў у раёнах і абласьцях. Хацелася б пачуць, што думае пра знойдзеную вашымі карэспандэнтамі інфармацыю старшыня райвыканкаму альбо абласны вэртыкальшчык. Бо іх людзі ня маюць магчымасьці чуць нават на дзяржаўным радыё і тэлебачаньні. Вось калі я змагу пачуць і супаставіць розныя пункты гледжаньня на тую ці іншую праблему, тады і ўсю праўду буду ведаць.

## *Міхаіл Дубнікаў, мястэчка Парэчча, Гарадзенскі раён*

***02.02.2004***

Вы на Свабодзе прысвоілі сабе права зь лёгкасьцю судзіць іншых, вышукваць усялякія недахопы. Але хто даў вам такое права? Выміце спачатку бервяно з уласнага вока, а потым ужо падказвайце іншым, як жыць... Вы пастаянна і нястомна корпаецеся ў бруднай бялізьне дзяржаўнай палітыкі, дзейнасьці Лукашэнкі. І хоць бы адзін раз назвалі аналітычныя лічбы: колькі ў якой краіне спажываюць энэргарэсурсаў дзеля сваіх спажывецкіх патрэбаў. Тады стала б ясна, хто больш вінаваты ў забруджваньні асяродзьдзя, у якім усе мы жывём. Чаму маўчыце, панове? Ды таму, што тыя, чыю дзейнасьць вы паказваеце ў выгадным сьвятле, купілі вас.

Мне 46 гадоў, сярэдняя тэхнічная адукацыя. Разьведзены, жыву ў сям’і роднага брата. Беспрацоўны, без матэрыяльнай дапамогі і любых іншых грашовых выплатаў. Калі б меў магчымасьць распарадзіцца хоць бы адным мільёнам даляраў, дык усё да апошняга даляра аддаў бы на стварэньне гарадка-комплексу для абяздоленых дзяцей.

## *Мікола Літвінчык, Бяроза*

***29.02.2004***

Учора, 15 лютага, Радыё Свабода дало магчымасьць нейкаму былому палітработніку, расейскаму шавіністу на расейшчыне абліваць брудам кіраўнікоў беларускай апазыцыі, што наведалі ЗША. Але мала таго — сёньня Свабода зноў дала свой эфір таму ж паўзуну шыпець у мікрафон, і гэта ананімна, без абʼяўленьня свайго прозьвішча... Першы раз я чуў, як лукашэнкаўскі прапагандыст усхваляў лукашэнкаўскія парадкі. Другі раз — як усхваляў русыфікацыю і зьнішчэньне беларускага этнасу.

Што гэта: Радыё Свабода стала трыбунай для Лукашэнкавых агітатараў? Мне агідна слухаць расейшчыну, хлусьню і бруд, якімі нікчэмнікі з так званага нацыянальнага тэлеканалу абліваюць найлепшых прадстаўнікоў беларускага народу. Звычайна не ўключаю БТ, калі магу пераключыцца на расейскі канал з Масквы. Было адно Радыё Свабода, дзе можна было пачуць жывое беларускае слова. Дык на табе! Той жа хлусьнёй і брыдотай на расейшчыне стала вызначацца і Свабода. Гэта мяне ўразіла і зьбянтэжыла.

## *Віталь Каралёў, Мёры*

***17.03.2004***

Свабоду я пачаў слухаць недзе на мяжы 1970–80-х гадоў. Але былі і даволі вялікія перапынкі. Добра запомніўся такі выпадак. Падчас службы ў войску ў 1984 годзе набылі мы транзыстарны радыёпрыёмнік і вечарамі, цішком засеўшы ў так званай «ленкомнаце», слухалі Беларускую Свабоду, «Голас Амэрыкі», Бі-Бі-Сі. Неўзабаве зьявіўся і другі прыёмнік, а кола слухачоў пашырылася. Але нядоўга тое працягвалася, таму што «зампаліт» роты выявіў нас і забраў прыёмнік. Ну і нацярпеліся мы тады страху.

За некалькі месяцаў да таго адзін латыш з нашай вайсковай часьці быў пакараны на пяць гадоў ці то за антысавецкую прапаганду, ці то за распальваньне нацыянальнай варожасьці — толькі за тое, што ў коле сваіх землякоў казаў, што Латвія павінна быць незалежнай і некамуністычнай. Але «зампаліт» нас ня выдаў — у «асобы аддзел» не далажыў. Для нас скончылася ўсё тым, што камандзір роты, калі быў у гуморы і побач не было вялікай колькасьці сьведак, жартам называў мяне «ворагам народу». Быў ён патомным вайскоўцам, украінцам па нацыянальнасьці. А ў нас было ўкраінска-беларуска-літоўскае зямляцтва, а не «дзедаўшчына», як звычайна ў тыя часы. Узвод быў найлепшы ў батальёне, а мне як намесьніку камандзіра ўзводу было лёгка дабіцца гэтага, абапіраючыся на сур’ёзных і блізкіх па мэнталітэце салдатаў. А камандзір узводу, фармальна выконваючы свае абавязкі бездакорна, у наша ўнутранае жыцьцё асабліва ня ўмешваўся.

Са Свабодай я застаўся і пасьля войска. На пачатку 1990-х гадоў купіў прыёмнік «Сэлена», які і сёньня даносіць ад вас сьвежыя праўдзівыя навіны, грунтоўную аналітыку, весткі пра падзеі ў краіне, якіх не паведамляе ні БТ, ні іншыя афіцыйныя мэдыі. У мінулым годзе я асьмеліўся ўпершыню падаць свае меркаваньні ў рубрыку «Званок на Свабоду». І аказалася, што ў мястэчку я слухаю Свабоду далёка не адзін. Паводле маіх апошніх назіраньняў, прыкладна ад 20 да 50 чалавек слухаюць больш-менш рэгулярна, прыкладна столькі ж — час ад часу.

## *Людміла Ліцьвінава, Менск*

***24.03.2004***

Няўжо камусьці мала расейскай мовы ў нашай краіне? Яна і так усё наша прыдушыла — няўжо трэба і гэта апошняе ў нас, беларускамоўных, адабраць? Тое, што радыё беларускамоўнае, для мяне вельмі важна. Ужо, напэўна, гадоў сем Беларуская Свабода для мяне асноўнае радыё, асноўная і самая цікавая крыніца інфармацыі. Бо гэта — сапраўды наша радыё. І тое, што яно беларускамоўнае, гэта як глыток сьвежага паветра. Увесь працоўны дзень знаходзісься ў асноўным у расейскамоўным асяродзьдзі. Пасьля працы таксама сваю мову мала чуеш — яе катастрафічна не хапае.

А слухачам, якія дрэнна ведаюць мову, хачу параіць: вучыце. Бо гэта ж, сказаць праўду, сорам і грэх — ня ведаць мовы сваёй зямлі. Калі хочам

мець будучыню як народ, як краіна, быць свабоднымі й незалежнымі, каб нашы дзеці мелі краіну і будучыню, трэба любіць і ведаць сваё.

## *Чэслаў Хвайніцкі, Смаргонь*

***11.04.2004***

Вельмі добра, што некаторыя праграмы Радыё Свабода паўтараюцца некалькі разоў. Гэта дае магчымасьць пачуць іх большаму колу слухачоў. А асобныя праграмы (для мяне гэта гістарычная тэматыка) хочацца слухаць і два, а то і тры разы. Люблю слухаць «Жывую мову», дзе спадар Бушлякоў навукова-папулярна тлумачыць, як правільна і прыгожа гаварыць па-беларуску. Прафэсійна, аб’ектыўна, гістарычна апраўдана камэнтуе лісты слухачоў Валянцін Жданко. Толькі мне здаецца, што трэба чытаць усе лісты. А калі не чытаць, то хаця б сказаць два словы пра зьмест. Нават калі піша чалавек, абалванены марксізмам-ленінізмам альбо скалечаны бальшавізмам. Няхай народ ведае, што ёсьць яшчэ ў нас такія людзі. Пачуць свае думкі па Свабодзе для іх — як бальзам для рэанімацыі. Вядома, запаўняць усю праграму такімі лістамі ня варта. Калі іх надта многа — накіроўвайце ў «Навінкі», няхай там чытаюць.

## *Казімір Нарковіч, Берасьце*

***05.05.2004***

Вельмі цяжка доўга слухаць вашы перадачы. Стыль і мэта іх цалкам накіраваныя на крытыку і зьнявагу прэзыдэнта Беларусі. Гэтым самым вы зьневажаеце і людзей, якія яго выбіралі. Я ніколі ня чуў на хвалях Свабоды, што Лукашэнка адбудаваў храмы, касьцёлы, школы, палацы. Колькі гаспадарак ён дапамог узьняць! Колькі таленавітых людзей атрымалі ад яго дапамогу! Вы шмат увагі надаяце балбатунам, крыкунам з розных рухаў і апазыцыі. А мы, простыя людзі, нічога ня ведаем пра тое, што яны зрабілі для Беларусі і для людзей. Каму яны што параілі, каму дапамаглі? Дзе ўмяшаліся і навялі парадак? Што датычыцца бруду і зьнявагі — гэта ўсё вельмі лёгка рабіць на вашых хвалях, гэтага я ня слухаю. Мне падабаецца слухаць на тэмы «Жывіце доўга», «Старонкі мінулага», апошнія навіны.

## *Лілія Васілеўская, вёска Трабы, Івейскі раён*

***12.05.2004***

Па магчымасьці кожны вечар стараюся слухаць вашы перадачы. А раніцай уключаю ваш жывы эфір — і гучыць МОВА. Цікава ўсё. Ёсьць іншы раз і заўвагі, парывае напісаць, выказаць меркаваньне. Але адразу сесьці за ліст, бывае, не выпадае, а пазьней ужо і неактуальна. Патрэба ж слухаць

Свабоду ўзмацнілася асабліва ў апошні час, калі ўвогуле немагчыма стала глядзець БТ і слухаць дзяржаўнае радыё (прычыны ўсім вядомыя). Вось таму Радыё Свабода — праменьчык сьвятла ў цемры неадукаванасьці і безгустоўнасьці.

...Што да нездавальненьня праграмай перадачаў суботы і нядзелі, якое нядаўна выказаў слухач, і адказу, што даў спадар Лукашук, дык тут усё цалкам зразумела: абодва маюць рацыю. Ведаеце, трэба разумець нас, слухачоў — такіх, якія слухаюць зраніцы і ўвечары ўсе гадзіны эфіру. Сапраўды, складваецца ўражаньне паўтораў. Але і тлумачэньне дырэктара гучыць вельмі пераканаўча: гэта яго «дзецішча».

## *Іван Сьцяпанаў, Берасьце*

***16.05.2004***

Мне 72 гады, і 49 зь іх я ня слухаў ні Свабоды, ні іншых заходніх станцыяў. А цяпер вось слухаю, і абураны тым, што вы вяшчаеце. Як я зразумеў, у вас адна мэта — усімі праўдамі і няпраўдамі дзе толькі можна выкопваць хоць бы самыя дробязныя нэгатыўныя факты з нашай рэчаіснасьці — ва ўгоду апазыцыі і вашых гаспадароў, якія шчодра за ўсё гэта плацяць. ...Вось нейкая жанчына на вуліцы крычыць: «Лукашэнка набудаваў спартыўных палацаў ды манэжаў — лепш бы нам гэтыя грошы аддаў». Але толькі дэбіл не разумее, якую карысьць прыносяць спартыўныя збудаваньні і спорт. Хіба мы не павінны ганарыцца сваімі спартсмэнамі? Мы што, горшыя за ўсіх у сьвеце?

І вось такая нэгатыўная інфармацыя ў вас — бесьперапынна. Чужы чалавек можа падумаць, што ў нас усё і ўсюды кепска. Нібы ў нас і няма нічога выдатнага. Вы ж не паведамляеце, што Беларусь пастаўляе на экспарт 80% трактароў, 90% грузавікоў, 75% тэлевізараў. Што мы выпусьцілі новы аўтобус… Вы разам з апазыцыяй толькі адно паўтараеце: зьніклі «палітычныя дзеячы», няма свабоды слова, арыштоўваюць невінаватых. Штогод спраўляеце хаўтуры па Ганчару, а ён, магчыма, выконвае заданьне апазыцыі і знарок схаваўся пад чужым імем дзе-небудзь у Бразыліі. А дзе ж, панове, ваша дэмакратыя, дзе прэзумпцыя невінаватасьці? Хто можа даказаць, што яны загінулі, а не ўцяклі, як Пазьняк у Варшаву ці Віньнікава ў Лёндан?

Вось вы паведамляеце: затрымалі Марыніча. А чаму ня кажаце, што ў яго знайшлі сто тысяч даляраў і пісталет у машыне? Што, язык не паварочваецца? Вось гэтак жа маўчыце і пра тое, за што затрыманыя ўдзельнікі Чарнобыльскага шляху. Непрыгожа ўсё гэта, спадары са Свабоды.

## *Георгі Стараселец, Драгічын*

***16.05.2004***

Я — інвалід 2-й групы. Не працую. Жыву з пэнсіі і з агароду, які апрацоўваю сам, зь сям’ёй. Мне каля 50 гадоў. З прычыны стану здароўя вельмі цяжка перамяшчацца ў прасторы, таму большую частку часу праводжу дома. Узровень нашай цывілізацыі не дазваляе мне адарвацца ад дому больш як на шэсьць гадзінаў.

У вольны час шмат чытаю і слухаю радыё. Беларускую Свабоду ўпершыню пачуў у 1975 годзе, але многія гады з-за глушылак слухаў рэдка. Добра было чуваць зімовымі вечарамі, калі прыём быў амаль безь перашкодаў. Калі маеце цытаваць мой ліст, то называйце мяне Георгіем Старасельцам. За сябе не баюся, але, магчыма, вас слухаюць нядобразычліўцы, якія могуць нашкодзіць маім блізкім. А гэта жонка, якая працуе ў дзяржаўнай установе; дачка — студэнтка сталічнага каледжу, якая вучыцца за дзяржаўны кошт, атрымлівае стыпэндыю, жыве ў інтэрнаце; і дачка-школьніца, якая добраахвотна-прымусова ўступіла ў піянэры.

Я вяду даволі замкнёны лад жыцьця. Асноўныя суразмоўцы — некалькі суседзяў-пэнсіянэраў. З аднагодкамі і маладзейшымі кантактую мала: далёка жывуць. Але пераканаўся, што ў большасьці тутэйшых — поўная абыякавасьць да таго, што адбываецца наўкол. Цікавяць толькі чарка ды сварка (прычым больш — першае). Тэлевізар я амаль ігнарую.

## *Аляксандар Літвінчык, вёска Дзешкавічы, Зэльвенскі раён*

***23.05.2004***

Жыву ў вёсцы. Бацькі памерлі, пакінулі хату. Пасадзіў малады сад. Ёсьць куры, сабака, кот. Заробкі ў калгасе — курам на сьмех. Моладзь звальняецца і едзе на заробкі ў Расею, але ж адтуль ня надта хто прывёз многа тых даляраў. Радыё Свабода

слухаю гадоў 18, помню перадачы Язэпа Барэйкі. Беларуская праграма была тады ў эфіры 30 хвілінаў. Ну, што яшчэ пра сябе? У мяне дома на сьцяне вісіць партрэт Франкліна Рузвэльта — адразу як зойдзеш. Упершыню адчуў сябе свабодным я ў 1986 годзе, калі атрымаў свой першы сапраўдны заробак у Берасьці на мэблевай фабрыцы — дзесьці 270 з гакам савецкіх рублёў. Раней вучыўся ў ПТВ у Бабруйску, стыпэндыі там не плацілі. Сёе-тое перападала ад бацькоў, але якія заробкі ў простых калгасьнікаў — добра што на білет дадуць. А тут адпрацаваў месяц — і такія грошы. А табе ўсяго 22 гады. Купіў тады і джынсы, і красоўкі, і на працу езьдзіў на таксі. З таго часу лічу, што свабода — гэта фінансавая незалежнасьць. І ніхто мяне ўжо не пераканае ў адваротным.

## *Мікалай Бусел, вёска Дуброва, Сьветлагорскі раён*

***23.05.2004***

Як і вы, прагну дачакацца часу, калі станцыя будзе зачыненая з прычыны непатрэбы. Але пакуль праца Свабоды ёсьць аб’ектыўнай неабходнасьцю дзеля праўдзівага інфармаваньня нашага грамадзтва пра яго самога і навакольны сьвет. Адначасна дзякую амэрыканскаму народу за ягоную падтрымку ідэяў дэмакратыі і свабоды, у тым ліку і ў Беларусі. Мушу зазначыць, што для багата каго зь беларусаў беларускія перадачы Свабоды ёсьць ці не адзінай магчымасьцю слухаць у роднай мове

навіны і аналітычныя матэрыялы. У адказ на ваша запрашэньне «заставацца з вамі» хачу прамовіць: «Гэта вы заставайцеся з намі!»

## *Аксана Новікава, Менск*

***23.05.2004***

Дзіўна, але я злавіла сябе на думцы, што мае пажаданьні могуць супадаць з пажаданьнямі на ваш адрас кіроўнага рэжыму, хоць і з розных прычынаў. Яны таксама хацелі б, каб вы як найхутчэй спынілі вяшчаньне на Беларусь! А калі яшчэ больш сур’ёзна, то ў новай свабоднай Беларусі я буду прасіць новыя ўлады, каб у сувязі з закрыцьцём (з прычыны таго, што адпала патрэба) Беларускай службы Радыё Свабода яе калектыў быў запрошаны ў Беларусь у поўным складзе, каб стварыць тут новае Радыё Беларусь!

## *Барыс Япішка, вёска Залядыньне, Янаўскі раён*

***23.05.2004***

Беларускую Свабоду слухаю амаль кожны дзень — увечары і раніцай. Я ўкраінец. Усе карэнныя жыхары нашай мясцовасьці — а гэта Янаўскі, Драгічынскі, Пінскі раёны — размаўляюць на палескім дыялекце ўкраінскай мовы. Палескі дыялект мог бы стаць і самастойнай мовай, але гэтаму

многія ўплывовыя асобы актыўна супрацьдзейнічаюць. Я слухаю Беларускую Свабоду болей, чым іншыя радыёстанцыі, таму што мне вельмі падабаецца, як вы шчыра і горача любіце беларускую мову і ведаеце яе лепш, чым я. Даспадобы мне і зьмест вашых праграмаў. Беларусь — шматнацыянальная дзяржава. Як на маю думку, дык дзяржаўнай мовай нумар адзін у Рэспубліцы Беларусь павінна быць беларуская, нумар два — расейская, нумар тры — украінская (палеская), нумар чатыры — польская, і гэтак далей.

## *Іна Аўчарэнка, вёска Варкавічы, Слуцкі раён*

***03.06.2004***

Я працую паштальёнам у вёсцы. Так здарылася, што ў красавіку адзін чалавек, які пераехаў з гораду ў дом сваёй маці, выпісаў «Народную Волю». Пакуль што гэта адзіная «Народная Воля» на маім участку. Пражыўшы больш за сорак гадоў, раней я ніколі не цікавілася палітыкай — ні ў савецкі час, ні потым. А тут прачытала адзін нумар газэты, у якой пра ўсе падзеі напісана ня так, як пра гэта гавораць начальнікі — і падзеі ў краіне пачалі мяне хваляваць. Я пачала зь нецярпеньнем чакаць наступнага нумару газэты. Сваімі ўражаньнямі падзялілася з мужам. Ён паказаў мне, як настроіцца на радыёстанцыю Свабода.

На першым часе Свабоду я слухала са сьлязьмі на вачах. Мая родная мова, якую я так кепска ведаю...

Гэтая музыка так соладка гучыць, і так запозьнена прыйшла любоў да яе! Гэта становіцца неабходным мне ў жыцьці.

## *Сяржук Мікуліч, вёска Куправічы, Івейскі раён*

***03.06.2004***

Многія жадаюць, каб патрэба ў вяшчаньні Свабоды на наш край як мага хутчэй зьнікла — у зьвязку з хуткім вызваленьнем ад рэжыму. Але, на мой погляд, у Беларускай Свабоды ёсьць такія моцныя перадачы, што яны будуць патрэбныя і канкурэнтаздольныя і пасьля вызваленьня. Увогуле, першы назоў нашага з вамі радыё — «Вызваленьне» — пры сёньняшняй акупацыйнай уладзе мне бліжэйшы, чым цяперашні. Што да зьместу, то мне здаецца, што сярод слухачоў Свабоды толькі нязначная колькасьць тых, хто ня ведае, што творыцца ў краіне. З гэтай прычыны можна было б і больш эфэктыўна выкарыстоўваць эфірны час: напрыклад, чытаць па радыё змагарныя вершы.

## *Міхаіл Дубнікаў, мястэчка Парэчча, Гарадзенскі раён*

***28.06.2004***

Мне 46 год. Пэрыядычна слухаю вашы галасы, паважаныя вы нашы беларускамоўныя апекуны. Пішу таму, што мой малодшы брат (44 гады) з усёй сваёй сям'ёй (пяцёра чалавек) слухаюць вас з надзеяй даведацца праўду зь першакрыніцы. Наіўныя, як першакляшкі. Выбачайце за жаданьне выкрыць вашу няшчырасьць, але для мяне вельмі важна ведаць матыў, якім вы кіруецеся. Які матыў разьдзьмутых трансьляцыяў пра сьмерць і пахаваньне 93-гадовага старога (Рэйгана)? І гэта ў той час, калі літаральна ад голаду і гвалту гінуць тысячы і тысячы дзяцей і падлеткаў. Які матыў запрашэньня Пуціна на юбілей з нагоды адкрыцьця 2-га фронту? Усім жа зразумела, што гэта тэатральнае відовішча, бачнасьць братэрства і адзінства тых людзей, якія насамрэч ёсьць ворагамі і супернікамі ў змаганьні за ўсясьветнае валадараньне.

## *Мікалай Лазук, Менск*

***13.09.2004***

Слухаю Свабоду з 1956 году. Тады яе глушылі — так што даводзілася слухаць глыбокай ноччу альбо з 5–6-й гадзіны раніцы. Але нават у вёсцы, дзе чутнасьць лепшая, можна было пачуць праз

глушылкі толькі сёе-тое. Але я лавіў кожнае слова, прыклаўшы вуха да «Сьпідолы» першых выпускаў.

А цяпер вось ужо некалькі гадоў слухаю Беларускую Свабоду.

…Навошта вы даяце магчымасьць лукашыстам скуголіць у вашым эфіры? Няхай тэлефануюць хоць сто разоў, пішуць хоць сто лістоў — ні ў якім разе ня трэба даваць у эфір іхнае мармытаньне. Няхай скуголяць па дзяржаўным тэлебачаньні ці радыё. А то вы як тыя Дон Кіхоты: яны з вас сьмяюцца, што вось праз Свабоду ўдалося зьняважыць апазыцыю ды пахваліць Лукашэнку. А вам колькі разоў давалі магчымасьць выступіць на дзяржаўным тэлебачаньні ці радыё? Ні разу!

## *Зьміцер Кузьміцкі, Швэцыя*

***30.09.2004***

Жыву я ў Швэцыі, кантактую зь беларусамі ў гэтай краіне. Для многіх з нас Радыё Свабода ёсьць адзінай крыніцай інфармацыі пра падзеі ў Беларусі, асабліва цяпер, калі на Бацькаўшчыне такія сур’ёзныя палітычныя зьмены. Чакаем вечара, а потым зьбіраемся разам, каб паслухаць ваша радыё, даведацца, што за гэты дзень адбылося ў Беларусі. Жыву я на самай поўначы Швэцыі, за палярным кругам, але з гордасьцю заяўляю, што тут чуваць родную мову Радыё Свабода. Мы, беларусы, жывучы ў Швэцыі, робім усё магчымае, каб спыніць самаўладзтва Лукашэнкі, ня даць яму зьдзекавацца

зь беларускай культуры, з Канстытуцыі. Праводзім пікеты, сустрэчы са швэдзкімі палітыкамі. Хочацца хоць неяк паўплываць на сытуацыю ў Беларусі.

## *Вера Холад, Пастаўскі раён*

***10.11.2004***

Вельмі цяжка цяпер працаваць настаўнікам. Прымушаюць хлусіць пра гісторыю, мову, культуру. А пачнеш гаварыць дзецям праўду — страціш працу. Іншага ж занятку ў вёсцы ня знойдзеш. Адзінае выйсьце — маўчаць тады, калі ня хочаш хлусіць. На шчасьце, сярод дзяцей нямала разумных, здагадлівых і кемлівых. Нядаўна даведалася, што некалькі старшаклясьнікаў вечарамі, як і я, слухаюць Беларускую Свабоду. Я зразумела гэта па іхных пытаньнях, якія яны задавалі на ўроку. Вядома, ні яны, ні я гэтага не афішуем. Але нашы прыватныя гутаркі досыць шчырыя, і мы абмяньваемся меркаваньнямі наконт пачутага. Мяне радуе тое, што якраз гэтыя вучні — лепшыя ў клясе. Не сумняюся, што праз год яны паступяць ва ўнівэрсытэты. І будучыня, я веру, за імі. А вам дзякуй за працу і за тое, што дапамагаеце выжыць сярод хлусьні й крывадушнасьці.

## *Уладзіслаў Лукашэвіч, Гомель*

***28.12.2004***

Радыё Свабода я пачаў слухаць у маладосьці, на пачатку 1980-х гадоў. Тады не было іншага спосабу даведацца праўдзівыя навіны. А на пачатку 1990-х я свой стары «Акіян» закінуў на гарышча: не было ў ім патрэбы, бо газэты і часопісы сталі цікавымі й праўдзівымі. Дый маскоўскае тэлебачаньне пачало паказваць рэальнае жыцьцё. А сёлета я зноў дастаў свой старэнькі «Акіян», занёс у майстэрню, і вось ужо некалькі тыдняў зь вялікім задавальненьнем слухаю вас. Мы нібы вярнуліся ў савецкае мінулае. Паглядзіш тэлевізар — аж млосна: адны посьпехі й перамогі, адзін палітык у кадры, ніякага іншадумства, ні слова пра апазыцыю… Дзякуй, Свабода, за тое, што кожны вечар прыходзіш у мой дом.

## *Эльжбета Ліберман, пасёлак Палескі, Лунінецкі раён*

***28.12.2004***

Мы з мужам і раней часта даводзілі родным і знаёмым, якія цікавыя праграмы ёсьць на вашым радыё. А цяпер робім гэта зь яшчэ большай ахвотай. Дзякуем, што вы ёсьць, што плённа працуеце. Мая асабістая падзяка спадарыні Судлянковай — за тое, што часта зранку можа ўзьняць настрой нейкай сьмешнай навіной, з чаго можна проста

парагатаць. Цяпер увесь час гучаць словы з гімну «аранжавай рэвалюцыі» ва Ўкраіне: «Мы — ня быдла, мы — не хахлы. Мы — Украіны донькі і сыны!» Вось бы дачакацца і нам свайго гімну! Няхай новы год паспрыяе гэтаму.

# 2005

*«За слуханьне “варожых галасоў” мяне нават са школы хацелі пагнаць — зь дзявятае клясы»*

## *Алена Фірко, Смаргонь*

***10.01.2005***

Раніцай кожнага дня я ўключаю прымач і чую знаёмыя пазыўныя. За тры гады майго слухацкага стажу гэтая мэлёдыя стала абавязковым і неадʼемным атрыбутам жыцьця. Нават ня ведаю, з кім ці з чым параўнаць тую вялізную ролю, якую вы адыгралі ў маім жыцьці. Бадай што з роляй Францішка Скарыны ці Сымона Буднага ў гісторыі Бацькаўшчыны. Тыя прынесьлі продкам сьвятло беларускай кнігі, вы ж далі мне сьвятло праўды. Вялікі дзякуй за своечасовую і абʼектыўную інфармацыю, за вернасьць нацыянальным ідэалам, за магчымасьць чуць лагодныя гукі роднае мовы, за адкрытую і прамую сувязь са слухачамі. Вы былі і ёсьць для мяне адзінай крыніцай праўдзівай інфармацыі, дадатковых ведаў аб беларускай гісторыі і нацыянальных традыцыях.

## *Уладзіслаў Хархардзін, Верхнядзьвінск*

***19.01.2005***

Я — з тых, каго называюць «шасьцідзясятнікамі». Цяпер на пэнсіі. Памятаю ўсіх нашых былых «правадыроў» — ад Сталіна да Гарбачова. Многія славутыя кнігі ў той час мне давялося, перш чым прачытаць, пачуць на радыёхвалях — «Архіпэляг ГУЛАГ», «Бадалася цяля з дубам» ды іншыя рэчы Салжаніцына. І толькі ў канцы 1980-х гадоў гэтыя кнігі сталі друкаваць у тоўстых часопісах. Я іх зьбіраў, пераплятаў — і так у мяне зьявіліся гэтыя кнігі. Сваю бібліятэку зьбіраю зь дзяцінства. Яна налічвае цяпер каля дзьвюх тысяч тамоў. І гэта адзіны скарб, які я нажыў за сваё жыцьцё.

Вельмі люблю нашых беларускіх пісьменьнікаў і паэтаў, а больш за ўсё Быкава, Барадуліна, Арлова. Але на асобным месцы для мяне — Уладзімер Караткевіч. Я ганаруся, што маю поўны збор ягоных твораў у 8 тамах. Да апошняга часу я карыстаўся расейскай мовай (па нацыянальнасьці я расеец, родам з Арла). А цяпер больш чытаю па-беларуску.

Свабоду слухаю з 1960 ці з 1961 году (дакладна ня памятаю). Спачатку — на расейскай мове. А на пачатку 1990-х пачаў слухаць Беларускую Свабоду. Спачатку ў мяне быў лямпавы прымач «Рэкорд», потым — «Сьпідола», а цяпер — старэнькі «ВЭФ-202», у якім мае сябры дадаткова ўсталявалі дыяпазон 19 мэтраў. Памятаю, як у савецкі час вашу станцыю глушылі. Улетку пачуць яе было практычна немагчыма. А вось з надыходам халадоў нешта можна

было пачуць. Я нават умудрыўся запісаць на магнітафон сэрыю перадач «Яны пяюць пад струнны гук», дзе сьпявалі Высоцкі, Акуджава, Галіч, Візбар, іншыя барды.

Цяпер (прыблізна зь лета мінулага году) вашу станцыю часам таксама немагчыма пачуць. Але гэта ня тыя глушылкі, што былі ў савецкі час. Тады ўключалі нейкую, так бы мовіць, «малацілку» — і яна «забівала» трансьляцыю. А цяпер зьяўляецца моцны трэск ці чутнасьць зьнікае зусім. На новым дыяпазоне 25 мэтраў з 18-й да 20-й гадзіны чутнасьць значна лепшая, чым была ў гэты час на дыяпазоне 19 мэтраў. На сярэдніх хвалях чуваць ня вельмі добра, але ўсё ж можна нешта пачуць. А паколькі я слухаю Свабоду практычна ад 18-й да 24-й гадзіны і ад 6-й да 8-й, то знаходжу магчымасьць пачуць усе вашы перадачы.

## *Мікалай Сьцеклін, Менск*

***14.02.2005***

Вас цяпер няма нідзе — ні на якіх хвалях, частотах і тэрыторыях. Вы так пачалі старацца, што загубілі радыё, ня вамі створанае. Калісьці Свабода прымалася цудоўна, а потым — усё горш і горш. Цяпер яе няма ўвогуле. Калі людзі перасьцерагалі, хваляваліся, што вас не чуваць, вы іх супакойвалі: то зіма на двары, то сонца замінае, то дрот на вуліцу яны ня выкінулі, то антэну не купілі… Я правёў апытаньне сярод знаёмых: вас ня чуюць нідзе, нават побач з чэскай мяжой.

Вашы былыя прыхільнікі гавораць цяпер пра вас з раздражненьнем, нянавісьцю і ня хочуць больш бессэнсоўных пошукаў у эфіры таго, чаго там няма. Віншую! Мая вам парада: адмоўцеся ад усяго вечаровага эфіру, пакіньце адну гадзіну раніцай. А на зэканомленыя грошы набудзьце нармальную частату і вярніце хаця б аднаго страчанага слухача. Паважаны спадар Жданко! Мала прафэсійна працаваць зь лістамі. Напружцеся, каб вас хоць хто-небудзь пачуў у эфіры. Калі ж мы вам не патрэбныя, то вы нам — тым больш. Беларусь адрэзана ад усяго сьвету, і ваша радыё ў гэтым таксама вінавата. На абвешчаных вамі частотах добра чуваць Лукашэнкава радыё, а ня вас.

## *Віктар Скараход, Менск*

***04.04.2005***

У мяне цяпер вялікая радасьць. Пасьля доўгага маўчаньня Свабоды на хвалях маёй «Сьпідолы» вось ужо два дні я зь вялікім задавальненьнем зноў маю магчымасьць вас чуць. Вы і «Народная Воля» для мяне — як веснавое паветра, настоенае на пахах маіх родных бягомльскіх лясоў. Лёс нашай Сьвятой Пакутніцы Беларусі паяднаў мяне з вамі навечна. Я ўжо папрасіў сыноў: як буду адыходзіць, каб вы, Валянцін, былі ў ліку блізкіх мне людзей і праводзілі мяне ў апошнюю дарогу пад гукі «Разьвітаньня з Радзімай». Нічога ня зробіш: пані Старасьць актыўна мяне цісьне.

## *Ільля Копыл, Менск*

***25.04.2005***

Зьвярнуў увагу на тое, што ўсё больш аўтараў лістоў на Свабоду баяцца падпісвацца сваімі сапраўднымі прозьвішчамі. Можа, і ня маю рацыі, але мне здаецца, што калі баісься падпісацца пад уласным лістом, то ці маеш маральнае права абвінавачваць апазыцыю, што яна слабая і неактыўная, што пасіўнае насельніцтва? Насельніцтва — гэта ж мы і ёсьць: рашучыя і баязьлівыя, мэтанакіраваныя і пасіўныя, пакорлівыя і незалежныя, сумленныя і махляры… Як жа нас, такіх розных, аб'яднаць, калі ў апазыцыі няма ні тэлебачаньня, ні радыё, ні газэт, ні памяшканьняў, калі супраць яе скіраваны ўсе сілавыя, карныя структуры? У мяне адказу на гэта няма. Дзяржаўныя мэдыі нас запэўніваюць, што мы жывем някепска і нават лепш, чым у суседніх краінах. І многія прымаюць на веру гэту хлусьню. Вы ж чулі, што ў Кіргізіі пэнсія ўсяго 9 даляраў. Няўжо мы адважымся на зьмену ўлады толькі тады, калі «дагонім» Кіргізію?

Калі летась у кастрычніку я займаўся агітацыяй за кандыдата ад БНФ, да мяне падыходзілі многія старыя людзі, каб паразмаўляць. І ад многіх я чуў: «На лепшае жыцьцё не спадзяюся. Дачакацца б зьмены дыктатарскага рэжыму, тады можна зь лёгкай душой і памерці». А што да псэўданімаў, то аднойчы сустрэўся мне мой даўні знаёмы, як і я, пэнсіянэр, маёр у адстаўцы. «Учора слухаў Свабоду, — кажа, — чуў твой ліст, і свой таксама». Я зьдзівіўся, бо яго прозьвішча ў перадачы не гучала. «Дык я лісты на Свабоду падпісваю

псэўданімам», — адказаў ён на маё зьдзіўленьне. А які псэўданім — не сказаў мне, пабаяўся. Хоць працавалі мы ў адным калектыве і ён нават быў маім начальнікам.

## *Генадзь Агафонаў, Віцебск*

***13.07.2005***

Нядаўна быў на сьвяце Божай Маці ў Будславе. І там напаткаў сапраўдных, рэальных слухачоў нашага з вамі агульнага радыё. Прытым з астатняга люду яны вылучаліся. Найперш роднай мовай, жвавай дапытлівасьцю і вольнымі поглядамі. Вось яно, кола сяброў, рассыпанае па ўсёй Беларусі. І менавіта вы, паважаныя супрацоўнікі Свабоды, яго абʼядноўваеце і натхняеце. Вы па-ранейшаму адзіная інфармацыйная прагаліна на абшарах Беларусі, якую я называю краінай «доўгай белай хмары».

## *Іна Аўчарэнка, вёска Варкавічы, Слуцкі раён*

***18.07.2005***

Мне спадабаўся новы сымбаль Радыё Свабода — палаючая паходня, якая асьвятляе шлях да свабоды і дэмакратыі. А рэклямныя каляндарыкі з новым раскладам вашых перадач я раздала сваім знаёмым і спадзяюся, што яны таксама стануць слухачамі Свабоды. Летняя праца і клопаты забіраюць поўна часу, але я ўсё роўна памятаю пра Свабоду.

## *Рыгор Ермаловіч, Ваўкавыск*

***18.07.2005***

Слухаю Свабоду амаль штодня на працягу многіх гадоў. Я ўжо немалады чалавек, мне 72 гады. Люблю свой край, сваю родную беларускую мову. Хочацца дажыць да тых дзён, калі наша краіна будзе вольнай і заможнай. Шчыры ўсім вам дзякуй за працу на карысьць беларускага народу, нашай роднай Бацькаўшчыны.

## *Ігар Земляны, Днепрапятроўск, Украіна*

***30.08.2005***

Я ўкраінец, але дзякуючы Свабодзе палюбіў і вывучыў беларускую мову. Слухаю Свабоду ўжо даўно, але пішу вам першы раз. Вашы перадачы мне вельмі падабаюцца: слухаю іх штодня — і раніцай, і ўвечары. Лічу, што вам, беларусам, трэба, аб'яднаўшы сілы, паўстаць супраць прыгнёту. Успомніце нашу ўкраінскую аранжавую рэвалюцыю ў лістападзе-сьнежні мінулага году — і самі рабіце высновы.

## *Сяргей Хмялінка, Менск*

***30.08.2005***

Упершыню пачуў вас у 1985 годзе. Але тады я больш слухаў расейскамоўныя станцыі — Бі-Бі-Сі, «Свободу», «Голас Амэрыкі», «Нямецкую хвалю» ды іншыя. Мяне тады за гэта нават са школы хацелі пагнаць — зь дзявятае клясы.

Цяпер маю вельмі мала часу, каб рэгулярна слухаць вас: справы, справы, справы… І толькі пасьля 11-й гадзіны ўвечары сёе-тое ўдаецца пачуць. Слухаю на сярэдняй хвалі 612 кілягерцаў. Але якасьць прыёму вельмі кепская — амаль нічога не чуваць. Я й антэну зрабіў, згодна з вашымі інструкцыямі. Але дарэмна. Толькі пасьля 23-й гадзіны чутна лепей.

На кароткіх хвалях, зразумела, чуваць лепш: якасьць добрая, асабліва пасьля паловы восьмай вечара. Але караткахвалевы прымач — у майго бацькі, а ён зьехаў жыць у вёску.

Хачу таксама даведацца, што гэта будзе за конкурс на Свабодзе ў блізкім часе. Чуў адным вухам, але не дачуў. Калі буду ведаць умовы, дык на нейкі час забяру караткахвалевы прымач у бацькі. А ўвогуле, вялікі дзякуй за вашы перадачы. Аднаго разу я нават патэлефанаваў вам і потым чуў свой голас у вашым эфіры. Супэр! Свабода — амаль што легенда зь дзяцінства, і тут — бац (!!!) — я на ёй!

## *Андрэй Паско, Берасьце*

***14.09.2005***

Беларуская Свабода вельмі патрэбна нашаму грамадзтву як крыніца альтэрнатыўнай інфармацыі. Бо калі ёсьць пазытыў, пра які дзяржаўныя мэдыі толькі і пішуць, то павінны гучаць і галасы крытыкі, пратэсту, асуджэньня. Гэтым і выпрабоўваецца пазытыў. На мой погляд, у гэтым і ёсьць вялікая гармонія Сусьвету. Працягвайце вашу працу. Пішу вам вельмі і вельмі рэдка, але слухаю па-ранейшаму амаль штодня.

## *Павал Чунько, Салігорск*

***19.09.2005***

Свабода мне ў асноўным падабаецца. Адчуваецца, што вы імкняцеся падаваць розныя пункты гледжаньня. Было б вельмі добра, каб вы давалі слова розным высокапастаўленым чыноўнікам — міністрам, супрацоўнікам Адміністрацыі прэзыдэнта, кіраўнікам прадпрыемстваў. Бо ім нават на дзяржаўных тэлеканалах ня надта часта слова даюць. А паслухаць іх хацелася б. І да вас тады было б больш даверу.

## *Леанід Асьцярожны, Магілёў*

***07.11.2005***

Беларуская Свабода для мяне стала промнем, вялікім пражэктарам у нашай інфармацыйнай цемры. Дзяржаўнае тэлебачаньне і радыё я рэдка ўключаю: паглядзеўшы ды паслухаўшы іх, хочацца памыцца, нібы цябе аблілі брудам. Такое ўражаньне, нібы іх не выхоўвалі, нібы яны не атрымлівалі адукацыю, а вырасьлі недзе ў жывёлагадоўчым памяшканьні. Многія нашы людзі ўсё разумеюць, але кажуць так: «Абы не было вайны!» Але ж, паважаныя суайчыньнікі, мы перажываем трагедыю яшчэ больш небясьпечную, чым вайна. Зьніжэньне маральнасьці і духоўнасьці, а зь імі — панаваньне п’янства, наркаманіі ды іншага… Падняць эканоміку можна за 5–10 гадоў. А каб падняць мараль і духоўнасьць, спатрэбіцца не адно пакаленьне. Гэтая навала разбурыла многія дзяржавы, у тым ліку і Савецкі Саюз.

## *Антось Тола, вёска Мікулічы, Баранавіцкі раён*

***05.12.2005***

Вельмі ўдзячны вам за дасланыя кнігі зь «Бібліятэкі Свабоды». Я ня толькі прачытаў іх сам, але і даў пачытаць сваім сябрам. А за гэта атрымаў у часовае карыстаньне прымач «Акіян-245», які вельмі добра прымае Свабоду. У мяне ёсьць уласны прымач

маркі «Фёрст Аўстрыя», але зь ім нямала клопату, ня дужа высокай ён якасьці. Некаторыя перадачы Свабоды я раней запісваў з прымача на дыктафон, які мне прывёз з Масквы і падараваў адзін сябра. Потым слухаў сам і даваў паслухаць іншым — асабліва падчас доўгага чаканьня аўталаўкі, калі зьбіраецца шмат знаёмых людзей.

Вакол майго хутару тры вёскі — Мікулічы, Парэчча і Саленікі. Пакупнікі з задавальненьнем слухалі расповед пра падарожжы Ягора Маёрчыка: усім цікава, як там жывуць у іншых беларускіх вёсках. Але калі я ўключыў «Званкі на Свабоду», да мяне наблізіўся мясцовы пэнсіянэр — мажнага стану дзядзька. Пачаў лаяцца, абзываць дысыдэнтам, махаць рукамі. Дыктафон упаў на асфальт і перастаў працаваць. Жанчыны, якіх была большасьць, заступіліся за мяне, пачалі ўшчуваць апантанага прыхільніка рэжыму.

Добра было б, каб Свабода хоць адну гадзіну працавала ў дзённы час — прыкладна ад 12-й да 14-й гадзіны. У гэтую пару большасьць вяскоўцаў па ўсёй Беларусі чакаюць аўталаўкі. Звычайна зьбяруцца ў адной хаце, адкуль відаць прыпынак. Хто вяжа шкарпэткі, хто спрачаецца пра кошты, якія галёпам апярэджваюць інфляцыю. А прымачы ў многіх ёсьць. Удзень на сярэдніх хвалях перашкоды ў эфіры амаль адсутнічаюць. У той час як пасьля 22-й гадзіны людзі ўжо сьпяць альбо глядзяць тэлебачаньне.

# 2006

*«Часам, слухаючы лісты, хочацца
сьмяяцца, а часам — плакаць»*

## *Мікалай Бусел, вёска Дуброва, Сьветлагорскі раён*

***02.01.2006***

Радыё Свабода даўно стала штодзённай неабходнасьцю ў маёй хаце. Маленечкі прымач стаіць проста на стале падчас сьнеданьня (так прасьцей настройваць частоты — заўжды пад рукой). На вялікі жаль, Радыё Свабода ёсьць адзінай станцыяй, якую можна рэгулярна слухаць, каб мець зьвесткі пра сваю радзіму. Бо я пазбаўлены магчымасьці набыць беларускую паштоўку, чытаць беларускую газэту, глядзець беларускае тэлебачаньне, чуць беларускае радыё. Становішча яўна ненармальнае. Вось чаму ваша пасільная праца ёсьць каштоўным фэномэнам у цяперашняй гісторыі Беларусі. Пэўным чынам вы выконваеце тую працу, што павінна было б выконваць дзяржаўнае радыё, але яно цяпер — чысты «агітпрап».

Што да мяне, то ня трэба мне іншых галасоў, калі толькі Радыё Свабода будзе мець якасныя частоты, хоць бы пару гадзінаў дзённых перадачаў ды больш разнастайныя (і даўжэйшыя) аналітычныя і культурныя праграмы ўвечары. З прычыны браку часу багата якія надзённыя ды істотныя тэмы альбо не закранаюцца, альбо маюць недастатковае раскрыцьцё. Хоць я разумею: шмат рэчаў залежыць не ад вас.

## *Іван Бычкоў, Магілёў*

***09.01.2006***

Такое можа здарыцца дзе заўгодна. Будзе ваш слухач дэманстратыўна пры людзях слухаць Свабоду — можа страціць прымач, ды яшчэ і аплявуху атрымае. Бо наш народ давярае толькі прэзыдэнту Аляксандру Рыгоравічу Лукашэнку. А ўсіх, хто супраць прэзыдэнта, называе апазыцыянэрамі ды іншымі нядобрымі словамі. Людзі лічаць так: прыйдуць да ўлады Пазьняк, Шушкевіч ды Кебіч — ня стане пэнсіяў, а цукар, гарэлка і віно зноў будуць па сьпісах ды талёнах, як на пачатку перабудовы. Так што ўсе, акрамя Лукашэнкі, гэта стаўленікі Захаду, а значыць, ворагі нашага народу. Свой дакладны і правільны адрас пісаць няма сэнсу, бо з прыняцьцём паправак у Крымінальны кодэкс за перапіску з вамі можна атрымаць два гады турмы.

## *Аляксандар Салагуб, Маладэчна*

***30.01.2006***

Для мяне вялікая радасьць уключаць прымач і слухаць слова Свабоды. Шчыры дзякуй за сумленную працу, за цікавыя перадачы. Але ёсьць адна невялікая парада. Можа, менш чытайце лісты прымітыўных недалёкіх слухачоў — апантаных абаронцаў рэжыму. У іх дастаткова трыбунаў у Беларусі. Ну, напрыклад, устаўляеце вы ў праграму пытаньне пра тое, чаму Мілінкевіч езьдзіў у Францыю, альбо чытаеце допісы адыёзных бабулек — прыхільніц

дзейнага прэзыдэнта. Калі вы гэта робіце, дык становіцеся падобнымі на нашы дзяржаўныя мэдыі — там увогуле, апроч прыхільнікаў Лукашэнкі, нікому слова не даюць.

## *Ян Савіцкі, Баранавічы*

***22.02.2006***

Слухачом Свабоды я застаюся амаль безь перапынкаў ужо больш за трыццаць гадоў. Зьмяняліся дыктары, сівелі і губляліся мае валасы, трушчыліся імпэрыі, а Радыё Свабода так і заставалася маім унівэрсытэтам. Зь яго пачынаецца дзень і на ім жа заканчваецца. Слухаючы Свабоду, уцякаеш ад жыцьцёвай марнасьці і панаваньня расейшчыны. Сілкуесься Свабодай і набіраесься моцы для творчасьці і дзейнасьці. Сваімі хвалямі яно злучае нашу беларускую сьвядомасьць.

Год таму я пазнаёміўся ў шпіталі з былым інжынэрам, які доўгі час працаваў на Баранавіцкай радыёстанцыі. У службовыя абавязкі яго, сярод іншага, уваходзіла глушэньне так званых «варожых галасоў».

На пачатку 1980-х гадоў на станцыі працавала каля дзесяці чалавек інжынэрна-тэхнічнай абслугі. Пры гэтым самі яны слухаць «варожыя галасы» не маглі: напэўна, па ідэалягічна-тэхнічнай задумцы. Іх абсталяваньне прымала толькі кодавыя сыгналы «пі-пі-пі». І трэба было, не марудзячы, на гэтыя сыгналы навесьці глушылку. Працай даражылі. Інжынэр (амаль за абібоцтва) атрымліваў 160 рублёў за месяц. Сяды-тады можна было разжыцца і

радыёдэталямі. Радыюс дзеяньня станцыі ахопліваў увесь Баранавіцкі раён, а таксама вялікую частку Гарадзеншчыны і Меншчыны... Гарбачоўская галоснасьць зрабіла непатрэбнымі глушылкі і КПСС. Баранавіцкая станцыя была ў большасьці закансэрвавана, штат скарочаны, а абсталяваньне часткова разукамплектавана і раскрадзена.

## *Эдвард Сямашка, Вільня*

***09.03.2006***

Кожны дзень слухаю Радыё Свабода, а таксама вашы, спадар Жданко, перадачы. Мне яны падабаюцца. Вельмі цікава паслухаць, як жывуць менавіта звычайныя, шараговыя грамадзяне Беларусі: што думаюць пра жыцьцё і як ставяцца да ўлады. Паверце, часам, слухаючы лісты, хочацца сьмяяцца, а часам — плакаць.

## *Аліна Васільчэня, Ваўкавыск*

***22.03.2006***

Паважаная Свабода! У Беларусі ты засталася адзінай крыніцай, зь якой можна пачуць праўдзівае слова. Перад выбарамі на людзей унутры калектываў быў вельмі моцны ціск. Ведаю гэта на прыкладзе Гарадзенскага абласнога шпіталя. Задоўга да выбараў мэдпэрсанал апрацоўвалі на так званых «інфармацыйных гадзінах»: адказныя за ідэалёгію асобы хвалілі рэжым, паказвалі фільмы

пра так званыя «дасягненьні» Беларусі ва ўсіх сфэрах жыцьця за апошнія дванаццаць гадоў. За месяц да выбараў выбарчы ўчастак падзялілі на маленькія ўчасткі, і за кожным зь іх быў замацаваны доктар. Ён нёс адказнасьць за вынікі галасаваньня на сваім участку. Сказана было так: калі на чым-небудзь участачку людзі прагаласуюць не за Лукашэнку, дык адказнага доктара могуць звольніць з працы.

І такая работа вялася ўсюды. Людзей палохалі высяленьнем з інтэрнатаў, тым, што Беларусьсю хочуць завалодаць ці то Польшча, ці то Амэрыка. Шмат якія людзі вераць таму, што паказваюць па тэлевізары. Прасьвету пакуль не відаць, бо нашы людзі падманутыя і запалоханыя.

## *Ганьнюта Пліпчук, Берасьце*

***29.05.2006***

Мне яшчэ няма 18 гадоў, але я лічу, што ўжо сёньня павінна вырашыць, як буду жыць. Ці буду я, як дурнаватая камсамолка, славіць Бацьку, кланяцца яму ў ногі за тое, што хоць абы-як, але жыву; ці, можа, буду жыць як чалавек: з адчуваньнем праўды й справядлівасьці ў сэрцы. Я буду ганарыцца, што жыву ў Беларусі, што мая радзіма належыць да эўрапейскіх краінаў ня толькі паводле геаграфічнага становішча. Мне не абыякавы лёс маёй краіны. Я не жадаю слухаць па тэлебачаньні й радыё, што стабільна-застойная Беларусь — гэта ледзь ня рай на грэшнай зямлі. Не хачу ідэалягічнай апрацоўкі на палітынфармацыях, бо маю сваю галаву на плячах, і ў ёй няма месца для савецкага маразму.

І калі, ня дай Божа, нічога ня зьменіцца, то мне давядзецца пакінуць Беларусь — паеду паступаць у Кіеўскі ўнівэрсытэт. …Можа, узрост у мяне такі, але паверце: я гатовая жыцьцё аддаць, каб толькі няшчасная мая Беларусь вярнула годнасьць, каб людзі былі шчасьлівыя, каб гонар свой адчулі.

Я вельмі-вельмі ўдзячная вам за тое, што вяшчаеце. Калі параўноўваць беларускія дзяржаўныя мэдыі й ваша добрае, сардэчнае радыё на роднай мове, то бачыш нават з заплюшчанымі вачыма, што Свабода — гэта самае дэмакратычнае, што ёсьць у нашай Беларусі.

## *Ірына Аўгуль, вёска Завідзіненты, Астравецкі раён*

***25.10.2006***

Беларускі мэнталітэт, на маю думку, мае адну яскравую асаблівасьць. Калі даць беларусам свабоду, дык яны будуць стаяць у разгубленасьці, ня ведаючы, што зь ёй рабіць. І пэрспэктываў на бліжэйшыя сто год я ня бачу. Аднак пры ўсім гэтым я ўсё часьцей чую аб праявах вальнадумства. Гэта цешыць. Я вельмі ганаруся і па-добраму зайздрошчу тым маладым людзям, якія прынцыпова размаўляюць толькі на беларускай мове. Я сама нарадзілася ў вёсцы і з маленства чула беларускую мову. І мне сорамна за тое, што я яе дасканала ня ведаю — а значыць, ня ведаю гісторыі й культуры сваёй радзімы. Але ў гэтым ня толькі мая віна.

Хачу сказаць вялікі дзякуй табе, Радыё Свабода, за тое, што з часам, як стала цябе слухаць (а гэта не

такі ўжо вялікі тэрмін — гады два), у маёй сьвядомасьці адбыўся пераварот, зьмяніліся многія каштоўнасьці. Таксама на мяне вялікі ўплыў аказала адна выпадковая (хаця я чамусьці ўпэўненая, што не выпадковая) сустрэча.

Мяне падвозіў адзін незнаёмы мне чалавек. З дынаміка даносілася беларускамоўная песьня — адна, потым другая, трэцяя… І ўсе — аб свабодзе. Здаецца, гэта было нешта з рэпэртуару Лявона Вольскага. А над лабавым шклом машыны былі прымацаваныя некалькі значкоў з гербам «Пагоня». Скажаце, што ж тут дзіўнага? Ды справа ў тым, што чалавек гэты быў у міліцэйскай форме. Машына, праўда, была не службовая, а яго асабістая.

…Я ўпэўнена, што менавіта песьнямі аб свабодзе можна хутчэй дастукацца да сэрцаў людзей, абудзіць іх ад сну. Думаю, Радыё Свабода павінна гэта ўлічваць — і даваць у эфіры болей песень: сапраўдных, глыбока кранальных, здольных аб’ядноўваць.

# 2007

*«Калі шэрым зімовым днём сыпле густы сьнег, а вецер завывае ў комінах, мне ўспамінаецца бацька і тое, як мы разам слухалі Свабоду»*

## *Васіль Кавалёў, Менск*

***05.02.2007***

Свабоду любяць усе, нават маленькія кузуркі. А тут гвалцяць цэлы народ — а ён маўчыць. Чаму? Няўжо мы так прыцярпеліся да несвабоды?

## *Андрусь Анцух, вёска Калодзішчы, Менскі раён*

***24.10.2007***

Я просты чалавек, працую на МАЗе ў філіяле аўтобуснага прадпрыемства. Усё сваё жыцьцё таксама змагаюся за свабоду — але крышачку ў іншай, чым вы, сфэры.

Свабода, як я яе разумею, гэта законнасьць, прынцыповасьць, Радзіма, родная мова, незалежнасьць. Мяне на працы нават і называюць Патрыёт, далі такую мянушку. Але яна мяне ня крыўдзіць — наадварот, натхняе на большую актыўнасьць у грамадзкім жыцьці.

Амаль штогод я наведваю «Басовішча». Уражаньні ад яго не перадаць словамі. Вось дзе сапраўдны беларускі народ — вольны й свабодны. Такіх людзей цяпер няшмат, хацелася б, каб іх было

больш. Там лунае сапраўдны беларускі дух. Там — лёгка і прыемна.

Яшчэ я стараюся выяжджаць на футбольныя матчы з удзелам беларускіх камандаў — калі гэтыя гульні за мяжой. Натуральна, даводзіцца доўга зьбіраць грошы на такія падарожжы. Калі ўбачыце па тэлевізары бел-чырвона-белы сьцяг на трыбуне, ведайце: гэта я ці мае блізкія сябры.

У мяне ёсьць сын, я назваў яго ў гонар нашага вялікага пісьменьніка Янкі Купалы. Выхоўваю яго ў беларускім духу. Яму толькі восем гадоў, але кнігу Ўладзімера Арлова «Адкуль наш род» ён прачытаў зь вялікай цікавасьцю.

## *Робэрт Багарадаў, Наваполацак*

***21.12.2007***

Да вайны і першыя два гады пасьля вайны бацька працаваў у сваёй Галалобаўскай школе. У 1946 годзе яго выклікалі ў Дрыбінскі аддзел НКВД і прапанавалі быць стукачом — гэта значыць дакладваць, пра што гавораць настаўнікі і сяляне. Ён не пагадзіўся. Пасьля гэтага яго пачалі пераводзіць зь вёскі ў вёску. Спачатку перавялі ў Карэбы. Калі захацеў пераехаць туды зь сям’ёй — накіравалі ў Дрыбін. Адтуль — у Расну. Так роўна 10 гадоў ён быў у паходах — вымушаны быў штодня хадзіць на працу за многія кілямэтры.

У Расьне ў 1953 годзе ён пачаў слухаць Свабоду і далучыў да яе і мяне. Ужо 54 гады я слухаю Свабоду — я, напэўна, самы даўні ваш слухач.

Тады ж бацька паказаў мне месца, дзе пахаваны сямёра аднавяскоўцаў, расстраляных Дрыбінскім НКВД ва ўласных халодных хацінах. Бацьку не расстралялі і не саслалі на Калыму — яму зрабілі Калыму ў Беларусі. Колькі кілямэтраў ён прайшоў за дзесяць гадоў і ў дождж, і ў траскучы мароз, па пояс у сьнезе. Аднаго разу нават ратаваўся ад ваўкоў на дрэве.

Настаўнікаў у той час прымушалі весьці агітацыю сярод калгасьнікаў, расказваць на сходах пра шчасьлівую калгасную вёску, хваліць правадыроў, хлусіць аб прыгнечанасьці і эксплёатацыі ў краінах капіталізму. Бацька ніколі не гаварыў пра гэта. Як ён мог хваліць сыстэму, якая зьдзекавалася са сваіх грамадзянаў і зь яго асабіста?

Бацька марыў дажыць да таго часу, калі Беларусь стане незалежнай і свабоднай краінай, калі будзе незалежны суд, а ў газэтах пачнуць пісаць праўду, а не хлусьню і непатрэбшчыну. Але дажыў ён толькі да перабудовы.

Мы, ягоныя нашчадкі, жывем у незалежнай краіне, але ўсяго астатняга яшчэ не хапае.

Гэты ліст я пішу на хутары Мураўішча, што паблізу вёскі Малое Сітна, дзе два гады працаваў стропальшчыкам «палітхімік» Павал Севярынец, пра якога столькі разоў расказвала Беларуская Свабода.

…Ціха на хутары. Толькі зрэдку чуецца пранізьлівы крык сойкі. Хутар з усіх бакоў акружаны лесам. Калі шэрым зімовым днём сыпле густы сьнег, а вецер завывае ў комінах хат і грукоча напалову адарванымі дошкамі і жэрдкамі па сьценах і дахах, мне іншы раз успамінаецца бацька і тое, як мы разам слухалі Свабоду...

# 2008

*«Засынаю і прачынаюся са Свабодай:*
*радыёпрымач стаіць у маім ложку»*

*Міхаіл Басевіч, Пінск*

***04.01.2008***

Засынаю і прачынаюся са Свабодай: радыёпрымач стаіць у маім ложку. І гэтак — усё сьвядомае жыцьцё. Лічу Свабоду адным з найбольш інфарматыўных, запатрабаваных сродкаў інфармацыі. І вось чаму. Калісьці, у студэнцкія гады, мы старанна вывучалі дыялектычны матэрыялізм. Галоўны пастулят яго — законы Гегеля аб пераходзе колькасных зьменаў у якасныя, аб адмаўленьні адмаўленьня, і галоўнае — аб еднасьці і барацьбе супрацьлегласьцяў. Толькі ў супрацьпастаўленьні поглядаў, у сутыкненьні розных думак нараджаецца ісьціна. А інакш любы грамадзкі лад пачынае жыць паводле, так бы мовіць, «адзіна правільнага вучэньня», а ў выніку — прыходзіць у заняпад.

У гэтым сэнсе значэньне Свабоды, якая нясе альтэрнатыўную думку, для Беларусі — неацэннае. Чалавек павінен слухаць розныя меркаваньні, аналізаваць іх, параўноўваць — і толькі тады рабіць уласныя высновы.

Зь вялікай увагай слухаю грунтоўныя камэнтары «Праскага акцэнту», навіны, а «Падарожжы Свабоды», «Званкі на Свабоду», лякянічны аналіз «Лістоў на Свабоду» — гэта жывы абмен думкамі, гэта — наша жыцьцё: непрычасанае, рэальнае, пра якое мы вельмі рэдка чуем з афіцыйных сродкаў інфармацыі.

## *Язэп Вялейскі, Вялейка*

***04.01.2008***

*Так дзіўна гучыць: «Я пішу на Свабоду...»*
*Пішу на свабоду, і значыцца — дзе я?..*
*Віншую! Жадаю шчасьлівага году*
*Усім, у каго яшчэ тлее надзея.*
*Няхай вырастае у вартае нешта,*
*Каб зьнікла нарэшце такая нагода,*
*Каб жартам здаваўся дасьціпным і сьмешным*
*Сам выраз: «Ізноў я пішу на Свабоду».*
*Калі гэта станецца? Як гэта будзе?*
*Ды я не Касандра і не Настрадамус...*
*Але — нараджаюцца вольнымі людзі...*
*Чаму ж дажываюць да рабскага стану?*

## *Віктар Ерамеевіч, Менск*

***19.01.2008***

Дзяржаўныя СМІ не чытаю і ня слухаю. Зьневажае і раздражняе ня толькі зьмест са сталінскай ідэалягічнай начынкай, настальгія па СССР, але і намаганьні вядучых, выступоўцаў вымаўляць шыпячыя гукі мякчэй за жыхароў якой-небудзь Тамбоўскай губэрні.

У дні, калі немагчыма настроіць прымач на вашу хвалю (а такое здараецца), адчуваю духоўны голад і боязь застацца бязь сьвежай інфармацыі.

Вы не ўяўляеце, якую асалоду адчуваеш, калі пачуеш роднае свабоднае слова, знаёмыя вашы галасы… І нягледзячы на ўсе перашкоды ўлады

(этнацыд, моўную дыскрымінацыю), здабываеш упэўненасьць у неўміручасьці беларускай мовы і нашага народа.

## *Натальля Бордак, Нясьвіж*

***20.02.2008***

*Я за Свабоду свабоднай усьмешкі —*
*Прыкра лічыцца затлумленай пешкай.*
*Выбар, свабодны ад небясьпекі,*
*Толькі Свабода дае чалавеку.*
*Толькі свабодны ад рабства — шчыруе,*
*Рабства такім ужо больш не кіруе.*
*Будзь за Свабоду ад цемры, галечы,*
*Сьвечку лучы да запаленых сьвечак...*
*Ведай, што сьмерць напаткае калісьці —*
*Стой за Свабоду, якая ў калысцы.*

## *Васіль Гапуноў, пасёлак Летцы, Віцебскі раён*

***12.03.2008***

Па Свабодзе цікава слухаць найперш пра жыцьцё простых людзей. Напрыклад, вашы карэспандэнты езьдзяць па вёсках, сустракаюцца з жыхарамі, расказваюць, якія зьмены там адбываюцца. Такое слухаць заўсёды ахвота. А вось Міхась Скобла нам расказвае, што было ў 13 стагодзьдзі, пра герб «Пагоня». Міхась, мой бацька — інвалід 3 групы,

«чарнобылец». У яго ў роце — ніводнага зуба (такое наступства хваробы). У яго і ў такіх, як ён, улада нядаўна адабрала ўсе льготы. Цяпер вось зьбіраюцца будаваць новую атамную электрастанцыю. Ня дай Бог, што-небудзь здарыцца — хто будзе тушыць атамны пажар? Моладзь, якая бачыць, як улада абышлася зь «ліквідатарамі», туды не паедзе. Давядзецца ехаць чыноўнікам ды іхнім дзецям.

Нам сёньня лекі няма за што купіць, а вы па Свабодзе гістарычныя лекцыі чытаеце.

Гэтак жа і Тацяна Поклад доўга расказвае нам, як хораша жывецца людзям у Канадзе. Мы што, паедзем туды? У нас няма грошай нават да Менску даехаць, а вы нам — пра Канаду.

Не крыўдуйце, спадар Жданко, на крытыку, але напісаў я так, як думаю.

## *Павал Абрамовіч, Берасьце*

***11.06.2008***

Вы на ўсю Эўропу крычыце пра свабоду слова і выказваньняў у любых пытаньнях. Але гэта — суцэльная крывадушнасьць. Так, калі я патэлефаную вам і буду лаяць Лукашэнку ды ягоную дзейнасьць — вы гэтыя званкі агучыце да апошняй літары. Але варта толькі згадаць Лябедзьку альбо Мілінкевіча, расказаць пра іхныя непрыгожыя ўчынкі — напрыклад, як яны ў ЗША выпрошвалі санкцыі супраць Беларусі — усё: званок альбо не агучаць, альбо абрэжуць. Вось і ваша хвалёная свабода слова.

У навінах зь Беларусі ў вас — суцэльныя Казулін ды суды над парушальнікамі парадку падчас дэманстрацыяў. Але ж не сакрэт, што падлеткі, атрымаўшы ад апазыцыі некалькі даляраў, адмыслова парушаюць парадак, каб падставіць праваахоўныя органы, а сябе ўславіць як пацярпелых патрыётаў і даць матэрыял для працы Свабоды.

А вось пра масавыя пратэсты, якія адбываюцца ў Польшчы, Нямеччыне, Італіі, Вялікай Брытаніі, вы маўчыце. Як там паліцыя выкарыстоўвае пры разгоне газ, вадамёты, гумовыя кулі, як цягае за валасы дзяўчат па асфальце... Дзе ж тут ваша праўдзівая інфармацыя?

## *Марына Лапцэвіч, Ляхавіцкі раён*

***09.07.2008***

Кожны вечар слухаю Свабоду. Толькі ад вас можна даведацца праўду пра тое, што адбываецца ў Беларусі. Колькі наўкол несправядлівасьці, нялюдзкасьці. Ці дасылаеце вы свае матэрыялы на рэагаваньне? На падставе інфармацыі, якая гучыць у вас, многія чыноўнікі, міліцыянты, судзьдзі даўно павінны сядзець у турме, а не займаць высокія дзяржаўныя пасады.

Можа, у кіраўніцтве Беларусі проста ня ведаюць пра інфармацыю, якую вы агучваеце? Інакш рэагаваньне быць павінна. Ня можа быць, каб усё проста прапускалася міма вушэй.

## *Надзея Астроўская, вёска Лебедзева, Маладэчанскі раён*

***15.10.2008***

Слухаю Свабоду на працягу некалькіх гадоў. Заўважыла, што сярод тых, каго вы называеце даўнімі слухачамі і сябрамі Свабоды, ёсьць нямала вельмі цікавых, удумлівых людзей, якія фактычна сталі вашымі пазаштатнымі карэспандэнтамі. Ад іх можна пачуць і актуальны аналіз, і трапную заўвагу. Свабода нярэдка наладжвае розныя акцыі з уручэньнем падарункаў. Але пра тое, што вы ўзнагароджваеце няштатных аўтараў, чуць нешта не даводзілася.

Адна з найбольш важных для працоўнага чалавека ў Беларусі праблемаў — павальная кантрактная сыстэма. Менавіта з дапамогай яе ўлада трымае людзей у страху і падпарадкаваньні. Невыпадкова Аляксандар Мілінкевіч перад выбарамі абяцаў, што калі б ён стаў прэзыдэнтам, дык першым жа ўказам адмяніў бы гэтую сыстэму. На жаль, ваша радыё аддае гэтай тэме мала месца. А слухачы Свабоды зьвяртаюць на яе ўвагу. Дарэчы, людзі, якія пішуць вам, рызыкуюць. Яны ж гэтым самым адкрыта паказваюць, што зьяўляюцца апанэнтамі ўлады. А што ў нас часам здараецца з такімі асобамі, вам павінна быць добра вядома.

## *Мікалай Праўдзін, Менск*

***22.10.2008***

Агідна слухаць вашу Свабоду, дзе вы аднабакова асьвятляеце падзеі ў Грузіі, асуджаеце Расею. Вашы заакіянскія гаспадары шчодра фінансуюць вас. А вы за гэта ведзяце шалёную кампанію супраць так званага «дыктатара» Лукашэнкі. Я — не ягоны прыхільнік, а проста сумленны беларус (а калі больш дакладна — ліцьвін). Так, ён — мужык, так, ад сахі. Але кожны народ мае той урад, які заслужыў. І вы гэта цудоўна ведаеце. Альтэрнатывы Лукашэнку няма. Розныя Лябедзькі — драбяза ў параўнаньні з Лукашэнкам.

А наконт дыктатуры — нагадаю вам радкі з аднаго верша Пушкіна:

*Паситесь, мирные народы!*
*Вас не разбудит чести клич.*
*К чему стадам дары свободы?*
*Их должно резать или стричь.*
*Наследство их из рода в роды*
*Ярмо с гремушками да бич.*

Больш дакладна ня скажаш. Бо пераважная большасьць насельнікаў нашай плянэты — натоўп, а калі больш груба — статак, быдла, халопы.

Я — за дыктатуру закону, дыктатуру інтэлекту. Але, на жаль, такой дыктатуры на Зямлі ніколі ня будзе. Як можна стварыць рай, застаючыся ў пекле?

Я больш за трыццаць год слухаў варожыя галасы толькі дзеля таго, каб ведаць хоць якую праўду пра нас. Але ад учорашняга дня маё сумленьне не дазваляе больш рабіць гэта.

## *Капіталіна Рабцава, Мікалай Гошка, пасёлак Слаўнае, Талачынскі раён*

***05.11.2008***

Мы — былыя настаўнікі, у свой час шмат папрацавалі зь дзецьмі. Цяпер на пэнсіі. Можна было б неяк пражыць, калі б разам са старасьцю не прыйшлі да нас і цяжкія выпрабаваньні. Мы страцілі двох сваіх сыноў. Малодшы — Сяргей — быў студэнтам 4 курсу Менскага тэатральна-мастацкага інстытуту. Загінуў пры нявысьветленых абставінах падчас рок-канцэрту ў Менску. Яму было ўсяго 24 гады.

Думалі, што ня зможам перажыць гэтае вялізнае гора, якое нас напаткала. Але тады мы былі маладзейшыя і неяк змаглі прадоўжыць жыць і працаваць.

Ды лёс рыхтаваў нам новы ўдар. Два гады таму раптоўна памёр старэйшы сын Аляксандар — нечакана спынілася сэрца. Як такое перажыць старым і хворым? У выніку муж перанёс цяжкі інфаркт, а я зьлегла і цяпер прыкутая да ложка. Дзякуй Богу, што ня страцілі розум. Цікавасьці да жыцьця няма, але неяк жыць трэба да свайго дня...

Дык вось, жыць нам дапамагаеце вы, Радыё Свабода. Вашы прыгожыя галасы мы слухаем кожную раніцу. Адчуваем з вашых перадач дабрыню і ўважлівасьць да людзей, якім Свабода дапамагае ня толькі жыць, але і выжываць. Ведаем імёны і прозьвішчы ўсіх вашых супрацоўнікаў і вельмі ўдзячныя за ўсе перадачы.

На жаль, нядаўна нечакана сапсаваўся наш прымач. Адрамантаваць яго не змаглі. Купіць новы не па кішэні, бо вялікая частка нашых пэнсій аддаецца на лекі. Так шкада, што ня можам больш чуць вас.

## *Сяргей Балбасаў, вёска Старая Буда, Буда-Кашалёўскі раён*

***12.11.2008***

Мае ўлюбёныя праграмы на Радыё Свабода — «Паштовая скрынка 111», «Дом літаратара» і «Праскі акцэнт». Стараюся слухаць іх як мага часьцей, але не заўсёды гэта ўдаецца. Прычынай гэтаму — тое, што немагчыма 24 гадзіны на суткі заставацца ля прымача. Ёсьць яшчэ праца дый іншыя справы. Хоць часам вельмі хочацца быць з вамі як мага даўжэй.

## *Мікалай Цітовіч, Наваполацак*

***12.11.2008***

Вы зрабілі немагчымае: абудзілі беларускі народ, беларускую ўладу, далі людзям надзею на лепшы лёс беларускай мовы і культуры, а галоўнае — зацікавілі моладзь. Працуйце ў такім жа рэчышчы, вы патрэбныя беларусам.

# 2009

*«Спакойна і радасна на душы, калі ў роднай хаце на роднай мове гаворыць радыё»*

*Лявон Гуменьнікаў, Менск*

***14.01.2009***

Спакойна і радасна на душы, калі ў роднай хаце на роднай мове гаворыць радыё, а ты ў гэты час займаесься нейкімі сваімі хатнімі справамі. А перадачы ўсе вострыя, публіцыстычныя, цікавыя... Не разумею некаторых слухачоў, што тэлефануюць і са злосьцю ў голасе пытаюцца: калі вы ўжо перастанеце паклёпнічаць на беларускі народ? Гэта пустыя словы-штампы. Хай бы сказалі дакладна: дзе, калі, у якой перадачы чулі гэты паклёп. Натуральна, гучыць інфармацыя, мажліва, і ня вельмі прыемная для кагосьці. Але яна праўдзівая, адпавядае рэчаіснасьці. А паклёпам для некаторых яна ўяўляецца толькі таму, што ў прынцыпе ня можа прагучаць на афіцыйным беларускім радыё. Такія людзі прызвычаіліся верыць, што ў нас усё добра. Ёсьць асобныя недахопы, але іх, схаваўшы галаву ў пясок, можна і не заўважаць.

У некаторых мясьцінах, пра якія распавядае Свабода, даводзілася бываць і самому. На вёсцы шмат таленавітых, самабытных людзей, хаця, безумоўна, значная частка іх не асабліва разьбіраецца і арыентуецца ў падзеях. Але тыя шчырасьць і непасрэднасьць, зь якімі людзі гавораць пра набалелае,

падкупляюць і сьведчаць пра яшчэ не раскрытыя магутныя ўнутраныя сілы беларускага народу.

А вось перадача «Беларускае замежжа» выклікае дваістае ўражаньне. Яна дае шмат карыснай інфармацыі — як уладкавацца, што рабіць, з чаго пачынаць тым, хто стаў эмігрантам. Ёсьць сярод іх сапраўды выбітныя асобы, што пацярпелі тут у Беларусі і выехалі па палітычных матывах. Але колькі такіх, што абсалютна добраахвотна пры першай жа магчымасьці пакінулі Беларусь. Некаторыя з такіх (і я іх асабіста ведаю) былі героямі вашых перадач. Цяпер яны выдаюць сябе за палітэмігрантаў і кажуць, што ня вернуцца назад, пакуль тут будзе Лукашэнка. Дзіўна чуць гэта зь іх вуснаў. Канечне, вельмі добра прыехаць на ўсё гатовае і карыстацца тым дабрабытам, які ствараўся на Захадзе вякамі. Але хто тады будзе будаваць у нас такое ж самае жыцьцё, калі самыя лепшыя, якімі яны сябе лічаць, выехалі адсюль? Ну ўжо прыжыліся там, дык і жывіце. Але пры чым тут рэжым і пры чым Лукашэнка? Кожны сам выбірае свой лёс.

## *Людміла Краснасельская, Калінкавічы*

***14.01.2009***

Калі слухаю вашы перадачы, на душы становіцца цяплей і весялей. Адразу хочацца размаўляць з усімі на роднай мове. Успамінаюцца дзяцінства і бабуліна вёсачка. Зьяўляецца гонар за тое, што жыву ў такой цудоўнай краіне, як Беларусь.

## *Іна Аўчарэнка, вёска Варкавічы, Слуцкі раён*

***21.01.2009***

Мы з дачкой заўсёды зь вялікім задавальненьнем і цікавасьцю разглядаем новыя каляндарыкі Радыё Свабода. Дзякуй вам за іх. Вас часта слухае мой муж. Але ён, ведаеце, такі маўчун, што, думаю, ніколі вам не напіша.

А вось я ад палітыкі дарэшты адмовілася. Занялася вывучэньнем кніг Мірзакарыма Нарбекава.

Муж у камандзіроўках. Тэлевізар зламаўся, я сьлёзна папрасіла яго не рамантаваць. Па радыё слухаю толькі музыку, зрэдку. Вось так. Зіма, цёплая печка, цікавыя кнігі, пазытыўныя думкі, цішыня... Можаце трошкі пазайздросьціць...

## *Юры Чарноў, вёска Янавічы, Клецкі раён*

***28.01.2009***

Выдатна разумею, што на Радыё Свабода павінны быць свабода слова і перакананьняў, асьвятленьне розных падыходаў да актуальных праблем. Але, тым ня менш, лічу, нельга даваць слова розным камуністам (і апазыцыйнай ПКБ у тым ліку). Бо, як паказала гісторыя, усе камуністы нашай часткі Эўропы былі народжаныя ў Маскве — то бок служылі волі Масквы, а не сваім народам. А

камуністы беларускія нават больш рэакцыйныя, чым іхныя расейскія калегі.

Таксама трэба адкінуць усю псэўдадэмакратычную лібэральную мішуру і пачаць рэальна адраджаць беларускае грамадзтва. Удакладню: нельга дапускаць у эфір на радыё людзей, якія займаюцца палітыкай прафэсійна, якія адпрацоўваюць чужыя грошы дзеля чужых інтарэсаў. Гэтая псэўдадэмакратычная публіка душыць, замінае разьвівацца беларускаму вызвольнаму руху. Тыя дзялкі, якія за грошы служаць Расеі ды эўрабюракратыі, адурманьваюць беларускі народ і дапамагаюць акупацыйнаму рэжыму, праводзячы любыя выбары ды адмаўляючыся ад актыўнага байкоту. Іхная дзейнасьць, як сказаў спадар Зянон Станіслававіч Пазьняк, шкодная і супярэчыць інтарэсам беларускай нацыі. Беларусь — гэта асобная краіна з асобнай гісторыяй, і нам ня месца ў лібэральным Эўразьвязе, які неўзабаве стане бязбожным.

## *Мікалай Чарвякоў, вёска Запольле, Бялыніцкі раён*

***04.02.2009***

Вашы перадачы слухаю, калі ёсьць цікавасьць да жыцьця, калі крыху паляпшаецца здароўе. Мне ўжо 74 гады, і ўзрост, на жаль, часта нагадвае пра сябе. Але калі ўключаю прымач і знаходжу хвалю Свабоды, не магу адарвацца: для мяне цікавыя ўсе вашы праграмы.

## *Анастасія Весялуха, вёска Міжэвічы, Слонімскі раён*

***04.02.2009***

Прыемна ўсьведамляць, што існуе Свабода. Хацелася б, каб на вашых хвалях гучала больш культурніцкіх, асабліва літаратурных моладзевых праграм. У нас шмат таленавітай моладзі. Трэба даваць нам, маладым, больш магчымасьцяў дзеля самарэалізацыі і дзеля стварэньня новай, іншай рэчаіснасьці. Гучыць гэта, можа, занадта патасна, але па сутнасьці — справядліва.

## *Станіслаў Тунік, вёска Шупейкі, Сьветлагорскі раён*

***04.02.2009***

Вашы перадачы даюць магчымасьць пачуць іншы пункт гледжаньня на падзеі, якія адбываюцца ў сьвеце і ў Беларусі. Думаю, у нашых умовах гэта надзвычай важна. Мяркую, вам трэба больш уважліва падбіраць тэмы для дыскусіяў. Яны павінны тычыцца самых надзённых праблемаў простага чалавека. Бо што найперш цікавіць людзей? Цэны на харчаваньне, адзеньне, камунальныя паслугі. Колькі што каштуе ў суседніх краінах? У параўнаньні спазнаецца ісьціна.

## *Марыя Жукевіч, Горадня*

***18.02.2009***

Хоць уключаю прымач кожны дзень, але, на жаль, не заўсёды ўдаецца злавіць хвалю Свабоды і паслухаць вас. Але і тыя рэдкія перадачы, якія атрымліваецца пачуць праз шум і трэск, прыносяць мне вялікую радасьць, адчуваньне нечага свайго, роднага, блізкага. Люблю слухаць лісты і званкі на Свабоду. У іх адчуваецца стан людзкой душы, клопат пра будучыню, боль за недахопы ў нашым жыцьці, шчырая любоў да Бацькаўшчыны.

## *Уладзімер Луня, Ашмяны*

***18.02.2009***

Штодзённа малюся за вас і мілую Беларусь. Вельмі веру, што Бог пачуе мяне і заплаціць дабром за вашу такую патрэбную для Радзімы і для будучыні дзяцей і ўнукаў працу.

Вучыце праз свабоднае радыё ўсіх людзей веры ў Бога. Беларусы спрадвеку гаварылі: «Бяз Бога — ані да парога». І ў гэтым — народная мудрасьць і праўда.

## *Жанна Цыркунова, Менск*

***18.02.2009***

*Слухаць можна увесь час,*
*Што працуеце для нас.*
*«Падарожжы», «Атлянтыда»,*
*Ці як лёс куды раскідаў...*
*Ўсё цікава, пазнавальна*
*І, канечне ж, актуальна.*
*«Вольнай студыі» гасьціннасьць,*
*Аналітыкаў дасьціпнасьць,*
*І дыскусіі экспэртаў,*
*І гісторыі з канцэртаў...*

## *Міхаіл Басевіч, Пінск*

***18.03.2009***

Я — чалавек сталага веку: 8 ліпеня мне споўніцца 70 гадоў. Зь мінулага лістапада цяжка хварэю. Увесь студзень правёў у НДІ анкалёгіі ў Бараўлянах пад Менскам, перанёс апэрацыю. Цяпер вось праходжу курс хіміятэрапіі ў Пінскім анкадыспансэры. Вядома, што з такім дыягназам стан здароўя нездавальняючы.

Але як бы ні склаўся лёс, колькі жыцьця мне ні наканавана, дзе б я ні быў, я застаюся вашым шчырым прыхільнікам і аднадумцам. Як і раней, засынаю і прачынаюся разам са Свабодай. Нават у самы складаны час у Бараўлянах радыёпрымач быў са мной. Шкада толькі, што якасьць трансьляцыі ня вельмі высокая. Праўда, апошні час у Пін-

ску чутнасьць стала лепшай. А ў Бараўлянах пару разоў удалося злавіць Свабоду нават на сярэдніх хвалях.

## *Уладыслава Клебановіч, Івейскі раён*

***25.03.2009***

Мне ўжо 77 гадоў. Муж памёр. Мела двух сыноў, абодва ў розны час трагічна загінулі, пакінуўшы сем'і і дзетак. Жыцьцё цяжкое.

А тут яшчэ зламаўся мой стары прымач. Раней я кожны дзень слухала Радыё Свабода. У цёплыя дні нават адчыняла вакно, каб і іншыя людзі маглі вас слухаць, ведаць праўду. Таму я і мае знаёмыя, якія таксама любяць Свабоду, просім, калі гэта магчыма, прыслаць прымач, каб разам жыць беларускім духам. Бо Радыё Свабода — гэта духоўная сіла!

## *Аляксей Каралёў-Новікаў, вёска Бердаўка, Наваградзкі раён*

***06.05.2009***

Я цяпер далёка ад сваёй хаты, працую на дзялянцы ў прыватніка. Вось так вымушаны зарабляць на жыцьцё паэты навагрудзкай зямлі. Хваліцца асабліва няма чым. Жывём — як жывецца, адным днём і ночкай. Бо, як кажуць, «у паэта ў кармане — вош на аркане». Так было заўсёды, а пра цяперашні час няма што і казаць. Жыцьцё спартанскае, але

мы, сябры Радыё Свабода з нашай Ацьмінаўскай акругі, — аптымісты па жыцьці. Быць аптымістамі дапамагаеш ты, Свабода. А слухачоў тваіх з кожным годам становіцца больш. Радуе тое, што слухаць цябе пачынаюць і зусім юныя — 15–16-гадовыя школьнікі. Гэта ім я аддаў апошнія каляндарыкі з новымі хвалямі Свабоды.

## *Міхаіл Лукашэвіч, Берасьце*

***20.05.2009***

Вашы перадачы становяцца ўсё цікавейшыя, а маё жыцьцё — усё горшае і горшае. Нядаўна адрэзалі электрычнасьць і газ. Можаце ўявіць, як цяпер мне даводзіцца. На вуліцы цяплей, чым у маёй хаце. Такое вось жыцьцё.

## *Віталь Скіндэр, вёска Даманава, Івацэвіцкі раён*

***20.05.2009***

Мне 23 гады. Пісаць умею толькі па Брайлю. Скончыў 9 клясаў і на гэты момант займаюся музыкай. Напісаць вам гэты ліст дапамагла сястра. Спадзяюся, што пасьля таго як я ды іншыя слухачы раздадзім сваім сябрам вашы новыя рэклямныя каляндарыкі, аўдыторыя Свабоды павялічыцца. Радыё ваша слухаю пастаянна.

## *Капіталіна Рабцава і Мікалай Гошка, пасёлак Слаўнае, Талачынскі раён*

***03.06.2009***

Мы — старыя і хворыя настаўнікі-пэнсіянэры. Слухаем вас кожны дзень, бо гэта дапамагае жыць (калі толькі можна назваць жыцьцём такое існаваньне). Выпісваем і чытаем «Народную Волю». Мы — за ўсіх, хто аддае сваё здароўе, змагаючыся за свабоду.

Вялікая просьба да вас. Хочам атрымаць кнігу «Адзін дзень палітвязьня». За лёс усіх нашых палітвязьняў мы хваляваліся і дзякуем вам за тое, што ўбачыла сьвет кніжка пра іх.

## *Міхась Лебедзь, Менск*

***03.06.2009***

У выпадку перамогі над аўтарытарызмам, думаю, што ваша і наша Радыё Свабода калі і страціць сваю актуальнасьць як праект ЗША, дык паўстане ў новай ролі і з новай назвай як адзін з праектаў новай Беларусі. Зычу ўсім нам хуткай перамогі.

## *Уладзіслаў Хархардзін, Верхнядзьвінск*

***10.06.2009***

Слухаю Свабоду з дапамогай свайго старэнькага «ВЭФ-202». Кампутара ці лічбавага прымача ня маю. Мне ўжо споўнілася 70 гадоў. Магчыма, такія старыя, несучасныя слухачы вам і не патрэбны?

Жыву я, як кажуць, у глыбінцы. Радыё Свабода ды яшчэ газэта «Наша Ніва» — адзіныя для мяне сродкі сувязі са сьветам.

Набыць кнігі, якія мяне цікавяць, у нас немагчыма. Кнігарню ў пасёлку ўвогуле зачынілі: засталася ад яе толькі кніжная палічка ў магазыне «Культтавары». Да гэтага часу не магу набыць успаміны Васіля Быкава «Доўгая дарога дадому», а кнігі, выдадзеныя ў «Бібліятэцы Свабоды», у мяне толькі тыя, што падаравалі вы. Таму атрымліваецца, што Радыё Свабода для мяне — найлепшы сябар.

Дзякуй і за каляндарыкі. Частку іх я раздаў сябрам, а частку захаваў сабе. Дзякуючы вам, з выдадзеных Свабодай у розны час каляндарыкаў у мяне сабралася цэлая мастацкая галерэя рэпрадукцый твораў, якіх ня ўбачыш у іншых выданьнях.

## *Сьцяпан Зух, Смаргонь*

***05.08.2009***

Паважаны Валянцін Жданко! Радыёслуханьнем ды іншадумствам я заразіўся ой як даўно — яшчэ не было Бэрлінскага муру. Але і заплаціў я за свае погляды дорага. У 1948 годзе як вораг народу быў асуджаны да вышэйшай меры пакараньня. Якую потым, праўда, літасьціва замянілі — на пажыцьцёвыя варкуцінскія шахты. Але ўсё на гэтым сьвеце хутка мяняецца. Вось і радуюся цяпер ды дзякую Пану Богу, што дагэтуль хаджу па зямлі. І ўсё больш умацоўваюся ў перакананьні, што ёсьць яна, вышэйшая сіла, якая непазьбежна карае за зло і несправядлівасьць.

На жаль, вочы ў мяне ўжо слабыя, так што трэба адкладваць асадку ўбок. Усяму свой час. Але вы там, на Свабодзе, ведайце, што патрэбны многім людзям. Так трымаць!

## *Дзьмітры Ахрымук, Кобрын*

***19.08.2009***

Як заўсёды, з ахвотай раздаў знаёмым рэклямныя каляндарыкі Радыё Свабода. Зь імі мы часта дзелімся навінамі, пачутымі па вашым радыё. Шкада толькі, што ў многіх прымачы зламаліся. Занясеш у майстэрню, а там кажуць: «Выкінь яго, дзед. Хочаш, каб столькі гадоў тэхніка працавала?» А ня слухаеш Свабоду — жывеш як у бочцы, бо ня ведаеш праўдзівых навін.

## *Зьміцер Хведарук, Жодзіна*

***23.09.2009***

Нават у салдацкай казарме я працягваю заставацца сталым слухачом Свабоды. Штодня ў вольны час уключаю прымач і хаджу па памяшканьні ў пошуках месца з найлепшым сыгналам. Такім чынам можна пастаянна быць у курсе падзеяў у Беларусі і за яе межамі. А паколькі ў казарме такога панятку, як асабістая прастора, не існуе, то і ў хлопцаў зьяўляюцца новыя тэмы для размоў.

Праўда, у гэтай мясцовасьці сыгнал Свабоды даволі моцна глушыцца. Даводзіцца літаральна лавіць кожнае слова. Але ад гэтага і асалода, і стаўленьне да ўсяго пачутага зусім іншыя. Нішто ня спыніць голасу Свабоды. Увогуле, адчуваеш сябе нібы ў 50-х гадох. Тым больш што і ў войску многае з тае пары засталося нязьменным.

## *Яўгенія Карцава, Віцебск*

***23.09.2009***

Вялікі дзякуй за выданьне кніг у «Бібліятэцы Свабоды». Я слухаю радыё кожны дзень, і па шмат. Але дзе ты ўсё запомніш! А кніга — гэта зусім іншае. Можна пачытаць не сьпяшаючыся. Потым — яшчэ раз вярнуцца да прачытанага. А самае галоўнае — пераказаць унукам. Чытаць яны цяпер ня надта любяць (працуюць, вучацца — няма калі).

## *Алесь Касьцюковіч, Магілёў*

***23.09.2009***

У правінцыі становішча з альтэрнатыўнай культурай, літаратурай, музыкай — катастрафічнае. Спрэс афіцыёз ці расейшчына: кіч, папса ды трэш. Ня знойдзеш узораў альтэрнатыўнай думкі ў дзяржаўных структурах — паўсюль адна толькі так званая «чэсная» культура-халтура. Зрэдку прыедзе калі Акудовіч... Яго ды Чобата можна пачуць адно толькі ў вас.

## *Вольга Адамейка, вёска Беразінская, Маладэчанскі раён*

***30.09.2009***

Хацелася б, каб Свабода больш глыбока асьвятляла эканамічныя падзеі, па магчымасьці — з прыцягненьнем шырэйшага кола экспэртаў, у тым ліку і праўладных. Бо эканамічныя агляды атрымліваюцца ў вас часам троху аднабаковымі.

## *Анатоль Чачотка, Менск*

***30.09.2009***

Хацелася б, каб у вашых перадачах было больш шчырасьці. Іншы раз стараесься для «Званкоў Свабоды» як мага больш коратка выказаць сваё меркаваньне, а ў эфіры і гэта скарачаюць — пакідаюць толькі сказ ці два. Разумею важнасьць і

адказнасьць рэдагаваньня, але ці не занадта іншы раз страхуюцца рэдактары?

Яшчэ адна прапанова. У Беларусі заўсёды былі весьнікі свабоды. Пачынаючы ад слуцкіх змагароў і пазьней. На жаль, пра іх мала расказваецца. А то і ўвогуле нічога ня пішуць. Часта пра гэта гучыць у перадачах Міхася Скоблы. Але ж людзі ў яго асаблівыя — пісьменьнікі, мастакі… А былі ж і ёсьць звычайныя, шараговыя людзі — ці ня ў кожнай вёсцы або гарадку. Вось пра іх хацелася б пачуць: пра іх маўклівае ўпартае змаганьне за свабоду і дэмакратыю. Тут вялікія даўгія матэрыялы не патрэбны — гэта не для радыё. Галоўнае — праўда, шчырасьць, душа.

## *Алена Лягун, Пінск*

***07.10.2009***

Радыё Свабода я перастала слухаць амаль год таму. Мой старэнькі прымач стаіць у куточку. Зараз інфармацыі вакол нас столькі, што тыя навіны, якія гучаць увечары па Свабодзе, ужо ня хочацца слухаць другі раз. Адвярнула мяне ад радыё яшчэ і тое, што некалі я напісала да вас ліст, у якім спадзявалася расказаць пра слынную асобу нашай Бацькаўшчыны Раговіча — хроснага бацьку ўсіх фальклярыстаў Беларусі. Ягоныя песьні выконвае хор пад кіраўніцтвам Дрынеўскага. Ягоная «Літургія Яна Златавуста» вядомая многім царкоўным хорам. Зайдзіце ў БДУ і запытайцеся ў першакурсьнікаў, хто такія Раговіч і Ліцьвінка — і вам адкажуць.

Два волаты Беларусі, два сябры-паплечнікі рухнулі адзін за адным. Вы чулі, каб хор выконваў адну песьню ў дзесяці варыянтах? А я чула і бачыла. Народны хор палескай песьні пад кіраўніцтвам Раговіча цэлае другое аддзяленьне сьпяваў «Ой, жураўка, жураўка…»

Раговіч пахаваны ў Парычах Гомельскай вобласьці, і на ягоным помніку напісаны словы гэтай песьні.

Мне патэлефанавалі з радыё, і я сказала, што Раговіч памёр некалькі месяцаў таму. І ягоная сьмерць не ўпісалася ў вашы праграмы, бо было ўжо позна… Канечне, Раговіч і Ліцьвінка — не палітыкі-апазыцыянэры і не сваякі вядомых палітыкаў, каб іх успамінаць.

## *Эдвард Карбановіч, Менск*

***07.10.2009***

Слухаю вашы перадачы амаль 15 год. Радыё Свабода побач з «Нашай Нівай» ды «Народнай Воляй» для мяне — асноўныя крыніцы інфармацыі. З кожнай перадачы можна ўзяць нешта карыснае, пачуць штосьці цікавае.

Ёсьць прапанова: у аналітычныя перадачы кшталту «Экспэртызы Свабоды» запрашаць новых людзей. Бо адны і тыя ж экспэрты ўжо як бы «прыеліся». Можна паспрабаваць запрасіць і каго-небудзь з урадаўцаў — але з умовай, што гэта сапраўды талковыя адмыслоўцы і што яны ня будуць тупа гнуць лукашысцкую лінію.

## *Уладзімер Лугаўцоў, Менск*

***14.10.2009***

Слухаю Свабоду даўно, апошнія гады тры — штодзённа. Раней, калі яшчэ мог, з задавальненьнем хадзіў на прэзэнтацыі вашых кніг. Напамінам аб тым часе стаяць у мяне на паліцы «Быкаў на Свабодзе» і «Дуліна ад Барадуліна». Аднак апошнім часам мае вандроўкі вельмі кароткія — толькі з кійком каля дому. Таму ўсё, што магу сёньня — гэта чытаць «Нашу Ніву» ды слухаць Свабоду: пра прэзэнтацыю новай кнігі «Як?», пра разгон Ланцуга салідарнасьці на плошчы Каліноўскага, пра наведваньне Літвы Лукашэнкам... А тут зноў сексоты ў цывільным. І зноў яны вакол, і зноў іх цэлы натоўп. І яны ўжо нікуды адсюль ня зьедуць — застануцца тут. Дык як жа гэта вытрымаць? Ці ўбачу я, як Мірон уздымае бел-чырвона-белы сьцяг над Домам ураду? Няма адказу! Можа, знайшоў бы яго, калі б прачытаў кнігу «Як?». Але дзе мне яе здабыць?

## *Уладзь Шульжыцкі, Смаргонь*

***21.10.2009***

Радыё Свабода я стала слухаю клясы з восьмай. Але і раней, памятаю, круціў бацькаў «Мэрыдыян-235» і таксама шукаў альтэрнатыўныя навіны. Было і такое, што ня верыў Свабодзе, станавіўся шчырым «лукашыстам». Але чамусьці заўжды мяне цягнула на альтэрнатыву.

Я вучыўся ў ПТВ, калі па тэлевізары пачалі паказваць галоўным чынам адны сэрыялы — ніякай цікавай інфармацыі. І таму ўвечары, калі маці з бабуляй глядзелі чарговую мыльную опэру, я ішоў у іншы пакой і ўключаў Радыё Свабода. Параўноўваючы Свабоду і БТ, я на пачатку 2006-га году прапанаваў свае паслугі ў распаўсюдзе ўлётак Мілінкевіча. І цэлую ноч сядзеў каля прымача 19 сакавіка. Ехаць у Менск на плошчу Каліноўскага адвагі не хапіла.

На пачатку 2007-га я вырашыў надрукаваць і распаўсюдзіць невялічкія ўлёткі з частотамі Радыё Свабода. Па гэтых улётках мяне вылічылі і 24 красавіка 2007 году затрымалі. У пратаколе напісалі, нібы я лаяўся матам.

Вельмі ўдзячны Радыё Свабода за маральную ды інфармацыйную падтрымку. Дзякуючы ёй я ўсё ж трапіў тады на Чарнобыльскі шлях у Менск — хоць дзеля гэтага і давялося праехаць 40 кілямэтраў на ровары. Пасьля выхаду ў эфіры Свабоды гэтай гісторыі я прачнуўся знакамітым. Шмат хто ў Смаргонях, пачуўшы прозьвішча «Шульжыцкі», пытаўся, ці гэта ня той самы, што на Чарнобыльскі шлях на ровары паехаў.

Потым у маім жыцьці была праграма Каліноўскага і Гданьск, дзе я з прымачом адмыслова хадзіў у горы, каб знайсьці месца, дзе лепш чуваць Свабоду. На праграме Каліноўскага, на жаль, не ўтрымаўся. І зараз слухаю Свабоду зноў у родных Смаргонях. На прымачы «Грундзік» настроіў будзільнік на патрэбныя частоты і кожную раніцу прачынаюся пад знаёмыя пазыўныя.

Пры адсутнасьці інтэрнэту радыё для мяне зараз — адна зь нешматлікіх крыніц інфармацыі.

## *Валянціна Богуш, Менск*

***21.10.2009***

Наша сям'я вельмі даўно слухае Свабоду. Усе вашы паведамленьні своечасова даносяць сутнасьць падзей і ў рознай ступені дапамагаюць разабрацца ў жыцьцёвых пытаньнях. За гэта мы вам вельмі ўдзячныя.

Вы заслужылі давер, таму падтрымліваю вашы новыя пляны. І ўпэўнена, што вы іх цікава рэалізуеце. Асабліва дзякую вам за выдавецкія праекты. Для мяне кніга была, ёсьць і будзе самай вялікай каштоўнасьцю. Раней я мела вялікую хатнюю бібліятэку. Але ў сувязі з частымі пераездамі ад многага давялося адмовіцца.

Зараз асноўную перавагу аддаю кнігам (чытаю) і слухаю любімую Свабоду — разам з унукам.

## *Міхал Грамыка, Пінск*

***11.11.2009***

Быў і застаюся сталым слухачом вашых перадач. Найперш таму, што па Свабодзе можна пачуць шмат цікавых паведамленьняў. Праўда, іншы раз у праслухоўваньні здараюцца перапынкі — тады, калі па стане здароўя апынаесься на бальнічным ложку або калі замінаюць эфірныя перашкоды. Агульнае ж ураджаньне ад вашых перадач застаецца станоўчым. Адчуваецца, што на Свабодзе працуюць людзі з высокай прафэсійнай падрыхтоўкай.

Да гонару супрацоўнікаў радыё трэба аднесьці той факт, што рэдакцыя не ўхіляецца ад адказаў нават на «непрычасаныя» пытаньні, а дае на іх абгрунтаваныя, матываваныя, зьмястоўныя і добразычлівыя адказы.

Некалькі прапаноў. У сувязі з ужо недалёкімі выбарамі прэзыдэнта хацелася б часьцей чуць інтэрвію зь лідэрамі апазыцыйных партый, вядомымі палітыкамі.

І наконт асьвятленьня рэлігійнай тэматыкі. Перад сьвятамі пажадана распавядаць пра іхную гістарычную сутнасьць. Гэта трэба і моладзі, і нам, людзям ужо сталага ўзросту, якія ў савецкія часы ня мелі магчымасьці ўсьвядоміць сутнасьць рэлігіі, хрысьціянскіх сьвятаў.

## *Леанід Курпатаў, Ліда*

***18.11.2009***

Парадаў вам даваць ня буду. На мой погляд, такія, як я, людзі сталага веку раіць нешта Свабодзе ня здольныя. Бо мой сьветапогляд вельмі адрозьніваецца ад сьветапогляду больш позьніх пакаленьняў. Сёньняшняя моладзь кучкуецца з бутэлькамі піва ў руках. Хлопчыкі і дзяўчаткі, якім няма яшчэ і 18-ці, адкрыта паляць і жудасна брыдкасловяць. Проста слупянееш. І думаеш: куды гэта рухаецца дзяржава?

У нас каля паліклінікі вельмі прыгожа аздобілі калёнку — featured рознымі мэталічнымі выкрутасамі. А на самой калёнцы ўсталявалі кветку вадзяной лілеі.

Але мінула зусім мала часу — і пялёсткі гэтай прыгажосьці абламалі.

А што робіцца са сьценамі гарадзкіх будынкаў? Толькі пафарбуюць, адрамантуюць — зьяўляюцца незразумела якія надпісы... Якія тут і каму даваць парады? Хто іх будзе слухаць? Адзін мудры чалавек некалькі год таму сказаў, што нашы людзі хворыя. Пагаджаюся. Прычым дадам, што хваробы ў нас разнастайныя.

Днямі пачуў па Свабодзе, як адна жанчына хвалілася сваёй пэнсіяй — дзяржава ёй адваліла «аж» 470 тысяч рублёў. І пры гэтым яна папракала тых, каму налічылі толькі 280 тысяч. Але ці ж гэта грошы? Што 280, што 470 тысяч — гэта ж толькі каб выжыць. Годна жыць на іх немагчыма.

Добра было б, каб Радыё Свабода ў сваіх перадачах параўноўвала заробкі і пэнсіі людзей аднолькавых прафэсій у нас і на так званым «гнілым» Захадзе. Каб нашы людзі хоць крышачку абуджаліся ад «саветызму». Бо яны яшчэ сьпяць і вельмі доўга будуць спаць пад узьдзеяньнем дурнотнай прапаганды.

## *Георгі Пяцэвіч, вёска Вялікія Сьцяпанішкі, Мастоўскі раён*

***25.11.2009***

Вашы перадачы слухаю зь вялікім задавальненьнем. Асабліва падабаецца праграма «Падарожжы Свабоды», якую вядзе Зьміцер Бартосік. Раней яе няблага вёў Ягор Маёрчык.

Нядаўна зьявілася новая праграма «Званочкі», аўтар якой — Ян Максімюк. Таксама слухаю зь вялікім задавальненьнем. Шкада толькі, што мала часу ёй адвялі.

## *Яўген Мікітаў, Ворша*

***03.12.2009***

Цудоўна, што Радыё Свабода распавядае пра тое, як сёлета ў краінах, якія калісьці ўваходзілі ў адзіную фэдэратыўную дзяржаву — Вялікае Княства Літоўскае — адзначалі тысячагодзьдзе назвы «Літва». Тысячагодзьдзе першага напаміну пра Літву — вельмі вялікая дата. Паглядзіце, як сьвяткуюць яе ў цяперашняй Літоўскай Рэспубліцы. Маўчыць пра гэты юбілей толькі прэзыдэнт Лукашэнка. А безь ягонага дазволу ня пікне ні БТ, ні дзяржаўнае беларускае радыё, ні адна дзяржаўная газэта. Хоць шмат каму вядома, што Літва, ліцьвіны — гэта перш за ўсё пра нашу радзіму — Беларусь, пра прадзедаў сёньняшніх ліцьвінаў-беларусаў. Бо яны, ліцьвіны, гаварылі на старажытнай беларускай мове.

Ну, прысвоілі жамойты гэтую назву сабе, скарыстаўшы гістарычныяператрусы 20-га ды іншых стагодзьдзяў. Можа, мы, сёньняшнія ліцьвіны-беларусы, ня будзем адбіраць у іх гэтую назву, хоць па праву яна належыць нам.

Вялікі дзякуй Радыё Свабода за напамін людзям са слабой памяцьцю пра нашу слаўную даўніну — славянскую дзяржаву Літва.

## *Мікола Корбут, вёска Міхалёва, Бабруйскі раён*

***30.12.2009***

Наўкол пануе цемрашальства. Многія ўтаропяцца ў тэлескрыню — і больш нічога ня хочуць ведаць.

За апошнія 15 год мне ўдалося павялічыць аўдыторыю слухачоў Свабоды на 12 чалавек (не выпадае нават па адным чалавеку на год). Кропля ў акіяне!

Мая мара пра тое, каб Свабоду ў Беларусі слухала кожная другая сям'я, выглядае фантастычнай! Прынамсі, да такой я прыйшоў высновы.

А яшчэ мне вельмі шкада, што прыхільнікі дэмакратыі ня могуць ці ня хочуць усьвядоміць: гуляць з уладай у гэтыя гульні з так званымі «выбарамі» прэзыдэнта ў цяперашніх умовах — бескарысна. Лепш усе сілы, розум і кемлівасьць накіраваць на тое, каб гэтыя, так бы мовіць, «выбары» не адбыліся. Іншымі словамі, патрэбен байкот, пра што ўжо даўно гаварыў Зянон Пазьняк. Але зрабіць гэта цяжка, а ў нашай краіне практычна немагчыма.

# 2010

*«Як толькі заходзім у хату — бягом да прымача, каб добры дружа хутчэй зайшоў да нас»*

## *Ірына Аўгуль, вёска Завідзіненты, Астравецкі раён*

***06.01.2010***

Вялікі дзякуй за лісты, паштоўкі, каляндарыкі, якія ты, Свабода, рэгулярна дасылаеш мне. А асабліва хочацца падзякаваць за тое, што поўна і даступна расказваеш пра актуальнае і набалелае, прапануеш рашэньні многіх праблем, адказваеш на пытаньні, якія хвалююць. З тваёй дапамогай, любімая хваля, з дапамогай дакладнай і своечасовай інфармацыі ў мяне (і, веру, у многіх іншых тваіх слухачоў) складваецца аб'ектыўнае, нескажонае ўяўленьне аб становішчы ў нашай краіне, аб палітычнай, эканамічнай, сацыяльнай, культурнай старонках жыцьця беларускага народа.

Спадзяюся, што і надалей ты будзеш садзейнічаць разьвіцьцю і ўдасканаленьню сьвядомасьці грамадзянаў маёй Радзімы.

Асаблівая падзяка — за праграму «Дом літаратара». Яе вядучы Міхась Скобла, як вада — паступова, але мэтанакіравана точыць камень нашага саўковага ўяўленьня аб літаратуры.

## *Іван Пяткевіч, Горадня*

***20.01.2010***

Хацелася б, каб вашы перадачы ўздымалі беларускі народны рух, былі больш патрыятычнымі. Добра, што расказалі пра тое, хто і калі спаліў Нясьвіскі замак. А вось перадач пра Галадамор ва Ўкраіне, пра высылку Сталіным чачэнцаў, інгушоў ды іншых сёлета не было. Пра падзеі 17 верасьня 39-га году гаварылі ў савецкім духу, як гэта падавалі камуністы. А ў сапраўднасьці ж ніякага добраахвотнага далучэньня Заходняй Беларусі да БССР не было — была агрэсія, грабежніцкі захоп саветамі ўсходняй Польшчы.

Ня трэба нам перадач пра тое, куды паедзе ці не паедзе Лукашэнка, а таксама пра каханьне ды іншых падобных. Улада замоўчвае злачынствы Сталіна — а ўсьлед за ёй не гаворыце пра гэта і вы. А нам патрэбны менавіта гэтыя тэмы: як Сталін і Гітлер рыхтавалі Другую сусьветную вайну, як Амэрыка дапамагала Савецкаму Саюзу… Выбачайце за зласьлівы ліст, але хочацца, каб Свабода падтрымлівала патрыятычны ўздым беларусаў. А яшчэ майце на ўвазе, што многія пабойваюцца вам пісаць.

## *Алег Мартысюк, Менск*

***20.01.2010***

Хацелася б у адной з вашых перадач (магчыма, у «Беларускім замежжы») пачуць некалькі слоў пра тое, як жывуць пэнсіянэры ды іншыя людзі найменш абароненых сацыяльных групаў у розных краінах сьвету. Колькі зарабляюць, напрыклад, санітарка ў бальніцы, прыбіральшчык вуліцы? Колькі каштуе кіляграм хлеба, мяса, літар малака? Ці праўда, што квадратны мэтар жыльля ў Празе ды Бэрліне ўжо таньнейшы, чым у Менску?

## *Аляксандар Дрынеўскі, Гомель*

***27.01.2010***

Слухаю першы канал дзяржаўнага радыё. Такое ўражаньне, што ўвесь час гучыць адна і тая ж песьня з агульным лейтматывам: «Паднімем чарку на пасашок»...

Радыё Свабода — іншая справа, яно больш зьмястоўнае. Але надта ўжо палітызаванае. Вас пастаянна хвалююць адны і тыя ж тэмы — эканоміка, Беларусь — Расея — Захад, Лукашэнка, фінансы, цэны на газ... Усё гэта — матэрыяльна, груба і надта прагматычна... Такое і ўсё беларускае грамадзтва — жывы труп. Духоўнасьць — нулявая. І поўнае невуцтва ды няведаньне будучыні.

У свой час расейская імпэратрыца Ганна дзеля пацехі загадала збудаваць ледзяны дом. А Лукашэнка будуе лядовыя палацы. Між тым у Беларусі

трэба тэрмінова ўзводзіць прытулкі для ўцекачоў. Вы паглядзіце, што робіцца навокал: глябальнае пацяпленьне. Думаю, ужо ў другой палове 2010 году зь Нямеччыны ды Польшчы да нас хлынуць натоўпы ўцекачоў. І Англіі ніхто не дапаможа. І Амэрыцы — таксама. Яны хутка апусьцяцца на дно акіяна. Так што цяпер трэба думаць не пра курс даляра, а пра выратаваньне душы...

## *Ірына Генюк, пасёлак Наваельня, Дзятлаўскі раён*

***27.01.2010***

Ужо чвэрць стагодзьдзя я не адзначаю навагодняе сьвята. Бо ніводзін мінулы год не прынёс мне нічога добрага. Дужыя і багатыя — жывуць, а такія, як я, — існуюць. Вось калі б вы сапраўды маглі дапамагчы мне... Тады я, канечне, папрасіла б у вас падтрымкі. Але ж у вас няма сваёй газэты, якую б чытала высокае начальства. Хацелася б, каб вы маглі сябраваць з прэзыдэнтам і данесьлі да яго ўсе людзкія беды, крыўды і нягоды, якія нам даводзіцца цярпець. Гаварыць па радыё можна ўсё што заўгодна — хто з начальства будзе гэта слухаць? А трэба пісаць, паказваць, даказваць...

Ну вось, здаецца, выказала той сум, што накіпеў на душы, — і нібыта лягчэй стала.

## *Маргарыта і Руслан Бацянковы, Менск*

***27.01.2010***

Радыё Свабода — галоўны сябра нашай сям'і. Як толькі заходзім у хату — бягом да прымача, каб добры дружа хутчэй зайшоў да нас. Але на працягу апошніх месяцаў — хоць сьлязьмі аблівайся: Свабоды на звыклай хвалі або няма, або яна ледзь чутна. А часам ваш голас прарвецца толькі за пяць хвілін да канца эфіру.

Майце на ўвазе, што ў большасьці вашых слухачоў — прымачы, а не спадарожнікавыя антэны ды інтэрнэт.

## *Павал Каролік, Гомель*

***03.02.2010***

Усталяваў спадарожнікавую «талерку» — і не нарадуюся. Ня думаў, што так добра будзе чуваць Свабоду. Раю ўсім, хто скардзіцца на кепскую чутнасьць і на свае савецкія караткахвалевыя прымачы.

А яшчэ маю прапанову. Прашу карэспандэнтаў Свабоды зьезьдзіць на малую радзіму Пятра Машэрава, колішняга кіраўніка БССР, пра якога ў многіх засталіся добрыя ўспаміны. Мне расказваў адзін знаёмы, што сапраўднае прозьвішча ягоных продкаў было іншае — Машэра, а ён і брат перапісалі яго на расейскі лад. Цікава таксама даведацца, як

склаўся лёс ягоных дзяцей (апрача дачкі Натальлі), а таксама ўнукаў, брата. Як жывуць, што кажуць людзі на малой радзіме Машэрава?

## *Алег Сямёнаў, Ворша*

***18.02.2010***

Інфармацыя, якая гучыць у вашым эфіры, у асноўным зьменлівая, грунтуецца на дробязных фактах штодзённага жыцьця — палітыка, эканоміка, бягучыя падзеі… Магчыма, камусьці гэта і цікава. Але калі задумацца: ці можа ўся гэтая інфармацыя зрабіць нас па-сапраўднаму шчасьлівымі, пазбавіць ад пакутаў? Не!

Вас і вашых слухачоў павінна цікавіць выкараненьне мірскіх жаданьняў, якія ёсьць прычынай пакутаў, разьвіцьцё сьпеласьці душы, мудрасьці, дасягненьне стану вызваленьня і прасьвятленьня. Падумайце, чаму аддаць перавагу — ілюзіі, якая дае нам толькі мімалётныя забавы і задавальненьні (а ўрэшце вядзе да пакуты), ці — ісьціне, якая вызваляе ад ілюзіяў, самападману і пакутаў.

## *Фёдар Грышан, Менск*

***04.03.2010***

Мне ўжо 80 год, я інвалід 2-й групы. Цікаўлюся палітычнымі падзеямі. Радыё Свабода для мяне — як глыток сьвежага паветра.

Хачу сказаць некалькі слоў пра выбары прэзыдэнта, якія маюць адбыцца ў Беларусі ў наступным

годзе. Лукашэнка на гэтай пасадзе адбывае ўжо трэці тэрмін і яўна зьбіраеццаісьці на чацьверты. Я нідзе ня чуў і ня бачыў, каб прэзыдэнт, праседзеўшы пры ўладзе гэтульki часу, ішоў яшчэ і на чацьверты тэрмін. Думаю, што такія выбары па-за законам. І яны не павінны прызнавацца ні ўнутры Беларусі, ні за яе межамі.

## *Уладзіслаў Дзёмкін, Менск*

***04.03.2010***

Вам на Свабоду часта пішуць і тэлефануюць розныя лукашысты, якія ненавідзяць усё беларускае, абараняюць дыктатуру, ня хочуць, каб Беларусь далучылася да Эўропы. Навошта вы даяце ім слова? Няхай выступаюць па БТ і ў «Советской Белоруссии»: там ім толькі і месца. Бо іншай думкі ў прэзыдэнцкіх мэдыях усё роўна не пачуеш.

## *Павал Сац, вёска Асавая, Маларыцкі раён*

***10.03.2010***

На чыгуначным вакзале Брэст-Паўднёвы зрабілі рамонт і адразу ж зачынілі будынак ад пасажыраў — напэўна, каб не забрудзілі такую прыгажосьць. Пакуль цягнік ня прыйдзе — не адчыняюць: чакай на марозе ці на дажджы. На скаргі не адказвалі — пакуль людзі ня сталі пагражаць:

«Вось напішам на Радыё Свабода — і аславіцеся вы на цэлы сьвет». Пасьля гэтага вакзал адчынілі, а дзяжурная сказала: «Вось вам тэлефон, званіце начальніку, але толькі не на Свабоду». Вось так: аказваецца, Радыё Свабода і вакзалы адчыняе!..

## *Альгіс Юркявічус, Вільня, Літва*

***24.03.2010***

Са студзеня пачаў слухаць вашу праграму. Часам цікава, як вы ахайваеце Беларусь. Паглядзелі б лепш, як жывем мы ў так званай «свабоднай Эўропе». Краіны, што сталі свабоднымі — Літва, Латвія, Эстонія, Украіна, Грузія — аднначасова апынуліся ў галечы. Мы, Літва, займаем у Эўропе першыя месцы па галечы, беспрацоўі, мізэрных заробках, бяздомных, жабраках, крадзяжах і забойствах... Паглядзіце, якія ў нас на ўсё кошты. Толькі за ацяпленьне кватэры 37–40 квадратных мэтраў аддай 800 літаў (320 даляраў); гарачая вада за куб — 12 даляраў, літар бэнзіну — 2 даляры, праезд у гарадзкім транспарце — даляр. Мэдыцына ўся платная, вучоба — таксама. У вас пэнсіянэрам дабавілі хоць нейкія грошы, а ў нас — адабралі. І ў маці, якія гадуюць малых дзяцей, адабралі амаль усё. У вас засталіся фабрыкі, заводы. Там людзі працуюць, нешта зарабляюць. Нашы людзі езьдзяць да вас на працу, кажуць — няблага. У нас гэтага няма: усё разрабавана, раскрадзена. Нішто не працуе.

У вас хоць сяк-так жывуць калгасы, зямля апрацоўваецца. У нас гэтага няма: усё зарасло быльнягом, кустоўем. Людзі сьпіліся.

Вашы палітыкі — Казулін, Лябедзька — езьдзяць у Брусэль, просяць Эўразьвяз, каб увялі санкцыі супраць Беларусі і беларускага народу. У выніку людзі будуць жыць толькі горш. Лукашэнка пражыве, ліха яго ня возьме — а вось людзям будзе кепска. Хіба хто пойдзе за такіх палітыкаў галасаваць? Толькі здраднікі свайго народу.

## *Марына Лысюк, вёска Лескаўка, Менскі раён*

***14.04.2010***

Сардэчна люблю беларускую Свабоду і нашу мову, але пісаць вымушана па-расейску: адвучылі, дый сорамна за памылкі. Калі б ня ваша перадача, дык жыцьцё стала б зусім шэрым. Толькі вы і падтрымліваеце надзею, што браткі-беларусы калі-небудзь узьнімуцца з каленяў.

Мне 66 гадоў. Столькі гора і пакутаў бачыла на нашай шматпакутнай зямлі, што ёсьць унутраная патрэба камусьці пра гэта расказаць. Напрыклад, вось што ўспаміналі мае бацькі. Яшчэ прадзед пачаў судзіцца з князем Радзівілам за зямлю. А дзед суд выйграў. А што творыцца ў цяперашніх лукашэнкаўскіх судах? Паспрабаваў бы просты чалавек выйграць суд у сёньняшняга магната, надзеленага ўладай і багацьцем… Пра гэта можна расказваць хоць тры дні.

…22 чэрвеня 1941 году мой бацька вёў на ўсход састаў, гружаны палоннымі польскімі і літоўскімі афіцэрамі. Напэўна, іх везьлі ў Катынь. Састаў

разбамбілі нямецкія самалёты. Паравоз ацалеў. Чыгуначнікі сталі адчыняць вагоны, каб ратаваць людзей, а «чырвонапагоньнікі»-энкавэдысты адкрылі агонь па чыгуначніках. І ўсё ж многім палонным удалося ўцячы.

Мой родны дзядзька быў на фронце, удзельнічаў у фарсіраваньні Одэра, быў кантужаны. Меў узнагароды. Але пра вайну не хацеў успамінаць усе 25 год. А тое, што расказаў потым, выклікала шок. Колькі там было бруду, здрады, жорсткасьці, несправядлівасьці…

Другі мой родны дзядзька меў «да саветаў» самы вялікі ў вёсцы кавалак зямлі, але ад Гулагу здолеў уратавацца. І толькі таму, што быў высакародны, добры да людзей. Ніхто яго не «заклаў» у НКВД. А вось ягонага суседа Пратасавіцкага разам зь сям’ёй выслалі ў Сыбір — толькі за тое, што ў прыватнай размове неасьцярожна выказаўся пра новую ўладу.

Такую вось стракатасьць жыцьця я вам апісала.

## *Аляксей Курлянкоў, Горадня*

***05.05.2010***

Рэгулярна слухаю перадачы Радыё Свабода праз спадарожнікавую антэну. Якасьць — выдатная. Дзякуючы гэтаму ёсьць магчымасьць адчуваць сябе ў беларускамоўным сьвеце. Дый дзецям магу паказаць, што ня толькі іх тата размаўляе па-беларуску.

Фактычна пра навіны Беларусі я даведваюся толькі ад Свабоды і «Белсату». Буду ўдзячны, калі зможаце даслаць дыск «Барды Свабоды», бо гэта — якраз тыя песьні, што люблю слухаць.

## *Анатоль Чачотка, Менск*

***05.05.2010***

Я — па-ранейшаму заўзяты слухач вашых перадач, аўтар некаторых тэлефанаваньняў для праграмы «Званкі на Свабоду». Хочацца пажадаць, каб гэтая перадача стала ў большай ступені грамадзка-палітычнай, а не ператваралася ў лаянку паміж сталымі людзьмі. Усё ж такі эфір Свабоды — гэта не базар для пэнсіянэраў, а месца, дзе павінны ўзьнімацца і абмяркоўвацца агульнаграмадзкія тэмы. У іншых жа праграмах абы-каму слова не даецца. Таму просьба: запрашаць да мікрафона новых людзей, са сьвежымі ідэямі.

## *Марыя Жукевіч, Горадня*

***12.05.2010***

Лічу, што Свабода — крыніца самых сьвежых і праўдзівых навінаў. Люблю слухаць перадачы на тэмы гісторыі, літаратуры, а таксама меркаваньні слухачоў. Атрыманай інфармацыяй дзялюся зь сябрамі, суседзямі, бо ня кожны мае прыёмнік. Дый пры выпадковых гутарках пра пачутае па Свабодзе часам заходзіць гаворка.

## *Анатоль Адаменка, Гомель*

***12.05.2010***

Калі ўдасца атрымаць дыск «Барды Свабоды», дык з дапамогай суседа я змагу яго паслухаць. А потым і сам набуду для сябе неабходнае прыстасаваньне. З суседам мы зрэдку разам слухаем вашы перадачы. Ён таксама чытае газэту «Народная Воля», якую я выпісваю. У асноўным мы пагаджаемся, але бывае, што і спрачаемся.

Атрыманыя ад вас каляндарыкі Свабоды ў кольказсьці 3 асобнікі хутка разьляцеліся на аўтобусным прыпынку, а чацьверты застаўся мне на памяць — як засталіся па адным асобніку і ўсе ранейшыя.

## *Мікалай Козіч, Менск*

***12.05.2010***

У «Званках на Свабоду» часта гучыць голас аднаго слухача, які называе сябе Зіноўевым. Такі схільны да лаянкі дзядзька: ахайваў ён і грузінскі народ, і прэзыдэнта Грузіі, і ўкраінцаў, і Юшчанку, і Мілінкевіча, і Лябедзьку. А вось пра Лукашэнку нічога кепскага ніколі не сказаў. І куды падзеліся Ганчар і Захаранка, хто іх загубіў — таксама маўчыць гэты прыхільнік Лукашэнкі. Цікава было б даведацца, што за чалавек гэты Зіноўеў. Мусіць, ён з КГБ. Вы там на радыё даведайцеся ды раскажыце слухачам, каб ведалі.

## *Ігар Пасноў, Віцебск*

***19.05.2010***

У сёньняшняй таталітарнай Беларусі Свабода — адзіная аддушына. У ліку расчараваных — цэлае пакаленьне. Нават лукашысты ўсё часьцей прыходзяць да Свабоды.

Сыстэма моцная, але яна ж палахлівая і нетрывалая. Моцная распрацоўкай карных мераў супраць няўгодных. А слабая тым, што трымаецца на адной асобе, ад імя якой чыніцца беззаконьне. А Бацька пра гэта ня ведае і ведаць ня хоча... А можа, і хоча, ды рукі не даходзяць.

Грошы ў нас марнуюцца на паказуху: тую ж тратуарную плітку перакладваюць па тры разы, бо робіцца ўсё сьпехам, няякасна... А паспрабуй сказаць праўду! Адразу ж праз аблвыканкам намагаюцца націснуць, запалохаць на працы кантрактам, «псыхушкай»... Я зьвярнуўся ў Генпракуратуру. Паперы пераслалі мясцоваму ўчастковаму. Палохалі адміністратыўным перасьледам. Узялі тлумачэньні. Я сказаў, што не баюся.

Посьпехі старшыні аблвыканкаму Косінца шытыя белымі ніткамі. Вось бальніца БСМГ, ідзе прэзыдэнт — шык. А два крокі ўбок — тэрапія, нэўралёгія: бамжатнік поўны.

Буду зьвяртацца ў АБСЭ, праваабарончыя арганізацыі. Маю дакумэнты, якія сьведчаць пра найгрубейшыя парушэньні з боку кіраўнікоў вобласьці...

Можа, праз Радыё Свабода пачуюць гэта прыстойныя людзі з атачэньня прэзыдэнта і раскажуць Лукашэнку пра піравы перамогі Косінца, пра без-

законьне і самаўпраўства чыноўнікаў, якія плююць на Канстытуцыю ды правы чалавека. Вельмі спадзяюся на такі цуд.

## *Аляксандар Пекар, вёска Аточка, Старадароскі раён*

***19.05.2010***

Патлумачу, чаму трэба слухаць Радыё Свабода. Калі ўвесь час слухаеш радыё афіцыйнае, то складваецца ўражаньне, што беларусы жывуць лепш за ўсіх на сьвеце. Што ў нас усё самае лепшае, мы самыя разумныя, а кругом — дурні. У нас усюды чыста і прыгожа, а недзе ў іх у Эўропе ці Амэрыцы ходзяць па калена ў гразі. Мы сытыя і абутыя, а яны — босыя і галодныя. Што нашы трактары і МАЗы самыя лепшыя, а іхныя «Форды» і «Мэрсэдэсы» — куча мэталалому. Праўдзівую інфармацыю пра падзеі ў Беларусі я атрымліваю толькі ад Свабоды.

## *Мікалай Бусел, вёска Дуброва, Сьветлагорскі раён*

***19.05.2010***

Я бардаў, акрамя Шалкевіча, не люблю. Барды — гэта абноскі мінулай эпохі. Раз яны не пяюць сатырычных песень пра будзённасьць, то гэта — не Франсуа Віёны. От вы бардаў любіце, а народных

песень не пускаеце, таму і прэсныя вашы перадачы. «Эўраньюсам» вы сталі.

Я й Вячорку колісь казаў: зрабіце духавы аркестар БНФ, гэта — файны знак. Не зрабіў. (А я яму багата чаго падказваў — ня слухаў.) У выніку давялося стаць лякмусавай паперкай на так званых «выбарах». Гэта — як аналіз у паліклініцы. Каму гэта цікава? І так усе ведаюць, што за маразм тыя выбары.

А што да так званай «апазыцыі», то яна даўно спавядае дактрыну ляжачага каменя: мэта — усё, рух — нішто. (Як адразу рухнуў нацыяналізм. Трэ добры аналіз гэтай зьявы.)

Народ у нас ненавідзіць кампанію «Саша і Коля». Усе абураюцца. А на выбарах у нас павесілі абвестку, што на выбарчым участку можна памерадь ціск (у каго — крывяны, у каго — вадзяны). А пра кандыдатаў — нічога. Ніводнай улётачкі ні да, ні падчас таго. Калгасны шафёр казаў, што яму два дні не давалі пуцёўкі — каб ішоў прагаласаваць. А ён усё роўна не пайшоў. І ўсе, хто ад няма чаго рабіць (а хто з-за страху: кантракт!) хадзілі галасаваць, казалі, што «чырылі» кандыдатаў. Я? Канечне, не галасаваў і не цікавіўся. Прыватызацыя ўлады і самаўзнаўленьне сьвінарніка. Дык пра што галасаваць? От і ўсё. Жадаю ўсяго найлепшага. Вы мяне знаеце, а я вас шаную.

## *Тацяна Малашчанка, Баранавічы*

***19.05.2010***

Шкада, што не заўсёды выпадае паслухаць вас, але рэгулярна наведваем ваш сайт. Дзякуй за добрую сумленную працу.

У мяне да вас прапанова. Маючы невялікую краму ў Баранавічах, у мяне ёсьць магчымасьць распаўсюду (раздачы) вашых каляндарыкаў розным людзям — для сталага карыстаньня. Так што можаце дасылаць болей. Адзіная парада — каляндар можа пачынацца зь любога месяца (напрыклад, з чэрвеня). Такім чынам, ён будзе ахопліваць палову наступнага году, стане больш арыгінальным (бо такіх амаль не выдаюць) і каштоўным. Таксама магу падзяліцца досьведам распаўсюду больш падрабязна зь іншымі, калі цікава.

## *Андрусь Анцух, пасёлак Калодзішчы, Менскі раён*

***19.05.2010***

Вельмі добра, што ў вас часта гучаць тэмы культуры, гісторыі, літаратуры. З усім гэтым наш народ хутчэй дойдзе да самаідэнтыфікацыі, зразумее, што ён гаспадар на сваёй зямлі, што ў яго — уласная адметнасьць.

Рыхтуюся да паездкі ў Польшчу, на «Басовішча» і сьвяткаваньне 600-годзьдзя Грунвальдзкай бітвы. Для мяне гэта вельмі важна. На такіх імпрэзах

яшчэ больш адчуваю сябе беларусам, а таксама адчуваю гонар за гісторыю свайго вялікага народа, за нашу культуру.

## *Алесь Шустоўскі, Барысаў*

***19.05.2010***

Беларускую Свабоду слухаем стала, бо ў пераважнай большасьці пададзеных зьвестак ёсьць над чым паразважаць. Малайцы!

## *Валянціна Богуш, Менск*

***19.05.2010***

Наша сям'я (гэта я, мой муж і ўнук — студэнт радыётэхнічнага каледжу) штодня слухаем Радыё Свабода. Радуе ваша апэратыўнасьць. Вось хоць бы нядаўні прыклад, калі выступаў былы прэзыдэнт Кіргізстану Бакіеў. Ваша карэспандэнтка Галіна Абакунчык — на месцы падзеі. І такія прыклады — штодзённа. А ў выніку — мы першымі даведваемся аб важных падзеях.

Болей няма ад каго чакаць праўды пра наша жыцьцё. Вось калі б так працаваў урад нашай дзяржавы — мы б жылі іначай.

## *Міхась Булавацкі, Магілёў*

***26.05.2010***

На пачатку 90-х здавалася, што патрэба ў дзейнасьці такога радыё ў Беларусі хутка адпадзе, бо мы выходзілі на шлях сапраўднай свабоды. Але гісторыя паказала нам вялікую дулю (можа, і заслужана). І сёньня Радыё Свабода побач з тэлеканалам «Белсат» і газэтамі «Народная Воля», «Наша Ніва» ды іншымі — як глыток сьвежага паветра для чалавека, які не забыў, што ён — беларус. Нізкі паклон вам за гэта.

Я ня маю магчымасьці слухаць Радыё Свабода, таму карыстаюся сайтам Свабоды. У такім варыянце ёсьць і свае перавагі: напрыклад, можна глядзець фатаздымкі, якіх ня ўбачыш у радыёрэпартажах. Але маю намер у бліжэйшыя дні падключыць хуткасны інтэрнэт, і, мяркую, мае стасункі са Свабодай пашырацца.

## *Генадзь Агафонаў, Віцебск*

***26.05.2010***

Калісьці на прымачы слухаў ваша радыё штодзённа, але цяпер вымушаны абмяжоўвацца інтэрнэтам. Зараз з настальгіяй зрэдзьчас праслухоўваю ўлюбёныя перадачы вечарамі дома.

## *Зьміцер Хведарук, Жодзіна*

***26.05.2010***

Пішу ад сябе і яшчэ ад некалькіх сталых і ўдзячных слухачоў вашае хвалі (няшмат іх, канечне, але ёсьць). Праўда, нядаўна нехта ўчыніў дывэрсію, і радыёпрымач давялося аддаць у майстэрню. Пакуль цягнецца рамонт, праслухоўваньне перадач Свабоды перапынілася. Але спадзяюся, што здольныя людзі выправяць сытуацыю і хвалі Свабоды зноў напоўняць мітусьлівую прастору нашага казарменнага памяшканьня.

## *Іван Абрамовіч, Сьветлагорск*

***26.05.2010***

Адзначу, што эфір у апошнія тыдні стаў надзвычай зьместоўным. Мае асабістыя парады: больш матэрыялу аб барацьбітах за Адраджэньне. Асабліва малавядомых — такіх, як мой зямляк Жылка.

Вы выдаяце DVD-дыскі, а я маю толькі касэтны магнітафон. Сучасная аўдыёапаратура — недасягальная мая мэта. Сорамна, але так...

## *Уладзімер Чайкоўскі, вёска Новадзявяткавічы, Слонімскі раён*

***26.05.2010***

Дзякуй вам, што вы ёсьць, што кожны дзень можна пачуць праўдзівыя навіны, камэнтары, экспэртызы. Што можна слухаць песьні на роднай беларускай мове.

## *Аляксей Лапенка, Менск*

***26.05.2010***

Пажадана больш перадач па гісторыі Беларусі, у тым ліку па матэрыялах кнігі Вадзіма Дзеружынскага «Таямніцы беларускай гісторыі». Таксама хацелася б часьцей чуць па радыё выступы Зянона Пазьняка, Пятра Садоўскага, Юрыя Беленькага, Сяргея Антончыка. І куды, цікава, падзеліся такія змагары за незалежнасьць Беларусі, як Домаш, Ганчарык, Казлоўскі, Шарэцкі?

## *Міхал Сантаровіч-Чыкун, Дзяржынск*

***26.05.2010***

Наогул, перадачы Свабоды мне падабаюцца, асабліва інфармацыйныя — за актуальнасьць, своечасовасьць, даступныя тлумачэньні падзеяў. Адзіная заўвага: трэба больш рупліва ставіцца да

роднага слова, якое гучыць у эфіры. Вось сёлета на Вялікдзень прагучала віншаваньне кіраўніка грэка-каталікоў замежжа Аляксандра Надсана — паважанага мной сьвятара, цікавага чалавека, вучонага. Ён ужыў у сваёй прамове слова «бомж» — гаворачы пра бяздомных на лёнданскіх вуліцах. Адкуль такая недарэчнасьць? Зь якога слоўніка, зь якой мовы, зь якога астрожнага вымаўленьня выплыла гэтае слова? Сьвяточны настрой у мяне быў надоўга сапсаваны. Я мяркую, рэдакцыя павінна была тактоўна прапанаваць спадару Надсану ўжыць да гэтага выпадку ёмкае беларускае слова «туляга» (ці «туляка»).

## *Анастас Семяновіч, Бараўляны, Менскі раён*

***26.05.2010***

Вялікі дзякуй за вашы галасы, Радыё Свабода, за вашу вельмі цяжкую працу. Абавязкова кожны раз гляджу і «Тыдзень з Радыё Свабода» на тэлеканале «Белсат». Родная Беларусь вас не забудзе.

## *Галіна Кавальчук, Менск*

***26.05.2010***

Падтрымліваю ўсё, што вы робіце дзеля адраджэньня беларускай мовы. Вельмі падабаюцца барды, якія гучаць па Свабодззе.

## *Яўгенія Казлова, Ворша*

***26.05.2010***

Вы высылаеце сваім актыўным слухачам дыск з запісамі 50 беларускіх бардаў. Якая ж гэта гуманітарная падтрымка! Мне нават няёмка!

Наконт прапаноў. Чаму б вам не стварыць караценькую моўную перадачу? Напрыклад, пад назвай «За чысьціню роднага слова».

Дзякуй Богу, што вы ёсьць, дарагія людзі!

## *Уладзімер Грыневіч, вёска Вішнявец, Стаўпецкі раён*

***26.05.2010***

Пакажыце ў сваёй праграме на «Белсаце», як Лукашэнка адпачываў у Вэнэсуэле і Бразыліі, як катаўся на ролікавых каньках навыперадкі з сынком Колем, які ганяў на ровары... Потым у трусах раздаваў аўтографы. Няхай беларусы ўбачаць, куды ідуць народныя грошы, чаму падвышаюцца цэны на ўсё, і асабліва на лекі. А дабаўкі да пэнсіі мы, відаць, і не дачакаемся.

## *Ліна Масалкова, Менск*

***26.05.2010***

Няма слоў, каб выказаць вам, свабодаўцы, падзяку за чарговы ваш падарунак — дыск «Барды Свабоды». Гэта здорава! У наш такі дзікаваты і негуманны час — і раптам бескарысьлівасьць.

## *Галіна Клімчык, Менск*

***10.06.2010***

Слухаю Свабоду кожны дзень раніцай і ўвечары. Усе перадачы цікавыя. А некаторыя — асабліва. Размовы з такімі людзьмі, як Зянон Станіслававіч Пазьняк, слухала б і слухала. І поўнасьцю, а не скарочана. Вы ж адсылаеце ў інтэрнэт, каб цалкам чыталі там. Але дзе ж нам, жабракам-пэнсіянэрам, узяць той інтэрнэт? Добра, што яшчэ ёсьць старыя савецкія прымачы, на якія мы проста молімся, каб хоць трохі яшчэ папрацавалі. Дык, можа, знойдзеце як-небудзь магчымасьць трансьляваць такія гутаркі ў эфіры цалкам — ну хоць бы за кошт частых паўтораў іншых перадач?

## *Кастусь Сырэль, Ушачы*

***23.06.2010***

Вельмі мяне павесяліў сёньня адзін мой даўні знаёмы. Ён, як і я, даўні і сталы слухач Свабоды. Спачатку пацікавіўся ў мяне наконт дыску «Быкаў на Свабодзе», а потым… ня ведаю нават, як лаўчэй сфармуляваць. Карацей кажучы, нехта яму сказаў, быццам я атрымліваю нейкія грошы за тое, што пішу лісты на Свабоду. Акрамя слоў «што за лухта», я не знайшоў, што адказаць. А што тут адкажаш? Тое, што пісаць на Свабоду стала для мяне патрэбаю душы, як у свой час для Васіля Быкава стала патрэбаю душы вечарам уключаць радыёпрымач і слухаць Свабоду? Чаму? А па той самай прычыне, па якой я пішу назву радыёстанцыі без двукосься, успрымаючы яе не як радыёстанцыю, а як форму існаваньня, як свабоду і маёй таксама асобы, як стан маёй душы, калі хочаце. Дык той незнаёмец проста не зразумее таго, што я кажу, тады навошта і тлумачыць нешта? Не цытаваць жа яму словы з Эвангельля ад Мацея: «Не зьбірайце сабе скарбаў на зямлі, дзе моль ды іржа точаць і злодзеі падкопваюць і крадуць, але зьбірайце сабе скарбы на небе, дзе моль ды іржа ня точаць і злодзеі не падкопваюць і ня крадуць».

## *Генрых Даніловіч, Вілейка*

***30.06.2010***

Слухаю вашы галасы яшчэ са школьных гадоў. Зараз мне амаль 53 гады. Перадачамі ў большасьці задаволены. Вялікі прыхільнік Свабоды і мой родны брат Зыгмунт, які жыве ў Маладэчне.

Выдатна, што выдалі аўдыёкнігу Васіля Быкава «Доўгая дарога дадому». Васіль Быкаў (сьветлая яго памяць) для нас — як родны чалавек. Неяк былі ў Менску, адмыслова наведалі Ўсходнія могілкі — месца яго вечнага спачыну.

## *Яўген Чарнавец, вёска Калодзежы, Чэрвеньскі раён*

***30.06.2010***

Вялікі дзякуй за магчымасьць пачуць жывы і праўдзівы голас Васіля Ўладзіміравіча Быкава. Вы зрабілі вялікую і патрэбную працу для тых, хто жыве і яшчэ будзе жыць.

## *Станіслаў Кавалёў, Менск*

***30.06.2010***

Час ад часу з хваляваньнем перачытваю творы вялікага Васіля Быкава — асабліва раман «Мёртвым не баліць» і кнігу «Доўгая дарога дадому». У

свой час, напрыканцы 60-х гадоў, мне пашчасьціла некалькі разоў чуць выступы Васіля Ўладзімеравіча ў бібліятэцы «Юнацтва» (на месцы цяперашняй кнігарні «Акадэмкніга»). Да мудрага роздуму пісьменьніка хочацца пэрыядычна вяртацца. Таму з такой радасьцю даведаўся, што ёсьць шанец атрымаць выпушчаны Свабодай дыск з голасам вялікага пісьменьніка.

## *Дзьмітры Канапацкі, Лунінец*

***07.07.2010***

Кожны вечар па магчымасьці стараюся слухаць вашы перадачы, хаця з прычыны занятасьці на працы не заўсёды гэта атрымліваецца. Раней настройваўся на хвалі Свабоды на старэнькім радыёпрымачы, а зараз слухаю з дапамогай спадарожнікавай «талеркі».

Вось ужо каторае дзесяцігодзьдзе Свабода для беларусаў — ледзь не адзіная крыніца аб'ектыўнай інфармацыі пра падзеі ў нашай краіне і ў сьвеце. Хаця, на жаль, многія нашы грамадзяне дагэтуль нічога ня ведаюць пра альтэрнатыўныя крыніцы інфармацыі і вымушаны спажываць тую лухту, што баюць ім цэнзураваныя беларускімі ўладамі СМІ.

Я проста дзіўлюся той сьмеласьці, мужнасьці вашых супрацоўнікаў, іх адданасьці свайму прафэсійнаму абавязку, зь якімі яны працуюць у такіх нялёгкіх умовах, рызыкуючы іншы раз сваёй уласнай свабодай і нават жыцьцём.

Апошнія тыдні вы часта ўзгадвалі на сваіх хвалях імя Васіля Быкава. На жаль, афіцыйныя СМІ

пра яго стараюцца не ўспамінаць. У краіне робіцца ўсё, каб гэтае імя паступова сыходзіла з памяці беларусаў. Творы Быкава знайсьці, пачуць ці пабачыць зараз у Беларусі сапраўды праблематычна. Так што ваш дыск — рэч вельмі патрэбная.

## *Павал Лубоўскі, Менск*

***07.07.2010***

Зь цікавасьцю слухаю голас Васіля Быкава ў «Доўгай дарозе дадому». Колькі мудрасьці, праўды і, здаецца, трохі болю ў гэтым творы.

## *Зінаіда Сысаляціна, Пружаны*

***07.07.2010***

Вельмі цікаўлюся творчасьцю Васіля Быкава і буду надзвычай удзячна Свабодзе, калі атрымаю ад вас гэты дыск. Я і мая сям'я з задавальненьнем слухаем такія вашы перадачы, як «Дом літаратара», «Падарожжа са Свабодай». Асабліва кранае перадача Яна Максімюка «Званочкі». Дзякуй, паважаная Свабода, што ты ёсьць. Вашы перадачы — нібы глыток сьвежага паветра. З захапленьнем вас слухаю. Жадаю вам Боскіх бласлаўленьняў на працы дзеля адраджэньня нашай Айчыны!

## *Тамара Ўмрэйка, Менск*

***21.07.2010***

Мне 62 гады. Амаль палову жыцьця слухаю Радыё Свабода. Калісьці на пачатку 80-х гадоў яно сталася для мяне сапраўдным акенцам у годны чалавечы сьвет, абудзіла цікавасьць да беларускай гісторыі ды культуры. Бо хоць я і мела гуманітарную адукацыю, галава была забіта рознымі савецка-расейскімі мітамі. Зараз атрымліваць інфармацыю значна прасьцей: ёсьць незалежныя выданьні, інтэрнэт, «Белсат». Але Свабода па-ранейшаму застаецца для мяне на першым месцы.

## *Алена Напорка, вёска Браносава, Карэліцкі раён*

***21.07.2010***

Знаёмства са Свабодай пачалося ў мяне ў далёкім ужо 1995 годзе, падчас галадоўкі і наступнага зьбіцьця дэпутатаў ад БНФ. І хоць у той час яшчэ выходзілі незалежныя газэты («Свабода», «Имя», «БДГ», «Газета Андрея Климова» ды іншыя), але кожны вечар мы шукалі хвалю Свабоды, каб пачуць цудоўныя пазыўныя — мэлёдыю песьні «Люблю мой край», даведацца праўдзівыя навіны, пачуць камэнтары разумных людзей, думкі дасьведчаных спэцыялістаў.

Зараз я на вёсцы, але стала жыву ў Менску і дапамагаю, чым магу, у тым, каб у нашай краіне адбыліся зьмены да лепшага.

## *Ільля Петрушэнка, Менск*

***21.07.2010***

Слухаю Свабоду праз спадарожнік дома, пасьля 21-й гадзіны. Шкада толькі, што спадарожнікавы прымач — рэч не мабільная, за сабой па кватэры не пацягаеш. А ўключаць так, як некаторыя ўключаюць сваю музыку і перашкаджаюць тым самым суседзям, я не хачу. (Хаця некаторым зь іх было б няблага паслухаць трошкі праўды аб краіне, у якой жывуць). Бывае, што надараецца часінка паслухаць і на працы праз інтэрнэт (нашы адміністратары заблякавалі ўсе папулярныя сайты для пампаваньня непрацоўных рэчаў, але, на жаль ці на шчасьце, Свабода ў некаторых асяродках не настолькі вядомая, каб яе блякаваць)… Радзей слухаю на сярэдніх хвалях у машыне, калі еду за горад ці па менскай кальцавой дарозе. На апошняй вельмі шмат слупоў высокага напружаньня, таму часьцяком з-за трэску слухаць немагчыма. А слухаць вас прыемна.

## *Міхась Данько, Давыд-Гарадок, Столінскі раён*

***28.07.2010***

Вельмі ўдзячны за магчымасьць паслухаць успаміны Галіны Руднік «Птушкі пералётныя». Гэта была гісторыя жыцьця і дзяўчынкі, якая жыла ў акупацыі, і маладой жанчыны, якая знайшла сваё месца ў жыцьці, і мілай бабулькі, якая перадае нам усё самае добрае, што набыла ў сваім жыцьці — вялізны досьвед, добразычлівасьць, любоў да роднай Бацькаўшчыны. Як шкада, што скончылася гэтая перадача. Я з зачараваньнем слухаў яе з паўторамі, як толькі быў час.

Успаміны Галіны Руднік можна параўнаць толькі з успамінамі Васіля Быкава. Стыль падобны. Вельмі спадзяюся на тое, што калі ўспаміны Галіны Руднік зьявяцца ў «Бібліятэцы Свабоды», то іх атрымаю і я. Вельмі ўдзячны вам за ўсё. Падчас слуханьня Свабоды я адчуваю сябе па-сапраўднаму свабодным чалавекам.

## *Тамара Цецянкова, Менск*

***28.07.2010***

Слухаю перадачы Свабоды ня так даўно, але многія зь іх мяне зацікавілі. Яны вельмі своечасовыя і пазнавальныя — асабліва гістарычныя, літаратурныя, успаміны нашых знакамітых беларусаў. Вельмі ўзрушылі ўспаміны Галіны Руднік «Птушкі

пералётныя». У іх — гісторыя і лёс нашай Беларусі, яе шматпакутны шлях. Як добра было б, каб гэтыя ўспаміны пачулі сёньняшнія вучні і студэнты — тыя, каму давядзецца прыкласьці шмат намаганьняў, каб трывала стаць на ногі ў гэтым жыцьці.

Сёлета мая ўнучка вытрымала першыя ў сваім жыцьці іспыты і паступіла ў гімназію. Вось я і падумала: лепшым падарункам для яе з гэтай нагоды маглі б стаць успаміны такіх людзей, якія даюць прыклад у жыцьці. Гэта і веды, і памяць, і гонар — на ўсё жыцьцё.

## *Ігар Земляны, вёска Новастэпанаўка, Днепрапятроўская вобласьць, Украіна*

***28.07.2010***

Слухаю вашы перадачы ўжо даўно — амаль 6 гадоў. Я ўкраінец, але дзякуючы беларускай Свабодзе, слухаючы вас, вывучыў беларускую мову. І цяпер магу крыху гаварыць і чытаць па-беларуску.

Вашы перадачы мне вельмі падабаюцца, яны надзвычай цікавыя. Нават цікавейшыя за футбольны чэмпіянат сьвету. Таму я нават падчас сусьветнага футбольнага першынства слухаў вас штодня і ўвечары, і раніцай. Імкнуся не прапусьціць ніводнай перадачы.

## *Ванда Сушчэня, вёска Урведзь, Клецкі раён*

***04.08.2010***

Люблю слухаць ваша радыё — самыя розныя перадачы: навіны, гутаркі за круглым сталом, камэнтары аглядальнікаў, «Званкі на Свабоду», «Званочкі» ды іншыя... Аддаю перавагу менавіта Беларускай Свабодзе. Праўда, на працягу многіх гадоў нас прывучалі і прывучаюць гаварыць па-расейску, але мы тут у вёсцы працягваем размаўляць галоўным чынам па-беларуску ці на трасянцы.

Я — інвалід другой групы, за доўгія гады нажыла цэлы букет розных хваробаў. Зь цяжкасьцю хаджу, абапіраючыся на дзьве кульбы. Што тут скажаш: звычайная самотная састарэлая хворая пэнсіянэрка. Дзедава хата, у якой жыву, развальваецца. А пэнсію атрымліваю сацыяльную: на пачатак году яна складала 162 800 рублёў. Пражыць на такія грошы вельмі цяжка, амаль немагчыма.

Мой бацька і два родныя дзядзькі загінулі ў 1945-м годзе пад Бэрлінам. Двух іншых дзядзькаў немцы пры адступленьні расстралялі як партызанаў. Я доўгі час даглядала цяжкахворых маму і бабулю, а потым захварэла сама. Працоўнага стажу праз гэта ня маю, і цяпер пэнсія ў мяне на нулі. Сям'і не было, і дапамагчы цяпер няма каму. Але пакуль яшчэ жывая, цікава, што адбываецца на сьвеце.

## *Генрых Даніловіч, Вілейка*

***11.08.2010***

Гэта выдатна, што Свабода выпусьціла дыск з запісам голасу Васіля Быкава. Я адразу ж усё праслухаў — і ўсплыло ў памяці тое, што гучала некалі на хвалях Свабоды. Цяпер і ў маёй хаце пры любой нагодзе будзе гучаць голас вялікага чалавека, патрыёта, сына нашае зямелькі — Беларусі.

Калі ласка, часьцей нагадвайце слухачам праўду пра савецкае мінулае, бо людзі, на жаль, забываюць пра тыя жахі, пакуты, галечу. А цяперашняя моладзь дык увогуле нічога пра той час ня ведае. І паўторы перадач, на маю думку, патрэбныя. Бо ня ўсе могуць слухаць у адзін вызначаны час. А напрыканцы свайго ліста хачу падзякаваць амэрыканскаму народу, бо менавіта дзякуючы яму мы можам на працягу многіх дзесяцігодзьдзяў слухаць Радыё Свабода, дзе гучыць голас праўды.

## *Барыс Забалотнік, Менск*

***11.08.2010***

На каляндарыках Свабоды вы, як правіла, зьмяшчаеце нейкія творы жывапісу — як на мой густ і разуменьне, дык незразумелага, недарэчнага зьместу. Так рабіць нельга — ні ў якім разе. З гэтай практыкай вам трэба завязваць. На каляндарыках варта зьмяшчаць цікавае, пазнавальнае — напрыклад, як на паштовых марках. Там жа не друкуюць абы-што. Напрыклад, пачалі б вы выдаваць

фатаздымкі самых славутых касьцёлаў, сабораў, цэркваў усяго сьвету. Тады гэтым каляндарыкам у калекцыянэраў цаны б не было! Альбо выявы цікавых архітэктурных праектаў — мастоў, незвычайных будынкаў, гіганцкіх транспартных разьвязак. Альбо — новых аўто ці дзеячаў беларускай гісторыі. Гэта ж вельмі важна!

Вашы каляндарыкі — гэта ня проста друкаваныя аркушыкі з карцінкамі, гэта — пасланьне ад паважанага Радыё Свабода, якому я шчыра дзякую за ягоную працу, за тое, што яно існуе. Вітаю ўсіх супрацоўнікаў Свабоды. Шкадую, што ў мяне няма нічога такога, каб я мог аддзячыць вам за ўвагу да мяне, старога пэнсіянэра, распаўсюджвальніка той газэты «Свабода», якую рэдагаваў Ігар Гермянчук.

## *Уладзімер Лугаўцоў, Менск*

***18.08.2010***

Вырашыў напісаць, хоць добра разумею, што для стваральнікаў сёньняшніх перадач можа значыць меркаваньне слухача. Але... А шостай гадзіне вечара зноў і зноў настройваю прымач, успамінаючы словы і голас Васіля Ўладзімеравіча. А вось што далей? Караценькія навіны (дзе быў і што казаў Лябедзька, што заявіў Мілінкевіч, навіны з жыцьця так званых «партый»). І ні слова пра асаблівасьці пралёту ваеннага самалёта «СУ-24» на парадзе ў Менску, ні пра гучную крымінальную справу Цыгана. Потым — аналітыка: што казаў Лукашэнка і як гэта трэба разумець. Прычым Класкоўскі, Фядута ды

іншыя палітолягі-аналітыкі цытуюць прэзыдэнта больш, чым у афіцыйным эфіры.

На каго разьлічаныя такія навіны і аналітыка? Вы што, на самой справе лічыце, што сёньняшняя Беларусь заселена толькі былымі сельскімі прапагандыстамі, адстаўнікамі ды былымі кухаркамі-прыбіральніцамі зь іхным гонарам за тое, што пасьпяваюць на трох працах, і зь нязбыўнай марай стаць прэзыдэнтам і пастраляць, каго ім хочацца?

Калі ў навінах на Дзень Волі, дзень Чарнобыльскага шляху і Дзень Перамогі не знайшлося месца для інфармацыі аб тым, як іх адзначылі сябры Партыі КХП-БНФ тут і за мяжой, то што гэта за навіны? Так, тое, што вы кажаце — праўда, але — ня ўся праўда.

## *Натальля Славінская, вёска Ліпнішкі, Івейскі раён*

***18.08.2010***

Мы ўсёй сям'ёй любім вас слухаць — асабліва вечарамі, калі на вёсцы больш вольнага часу. Ёсьць магчымасьць паразважаць, асэнсаваць, нават паспрачацца. Любім вашы перадачы па гісторыі, навіны, падарожжы са спадаром Бартосікам, чытанкі. Таксама цікава паслухаць вашы апытаньні, «Званочкі», паслухаць, што хвалюе нашых неабыякавых суграмадзянаў. Яшчэ нам вельмі падабалася віктарына. Такім чынам у нас зьявіліся цікавыя кнігі, касэта з запісамі Данчыка. Вельмі шкада, што віктарыны цяпер няма. Магчыма, вы перанесьлі яе на іншы час?

## *Мікалай Бусел, вёска Дуброва, Сьветлагорскі раён*

***02.09.2010***

Паслухаў па Свабодзе вашых аналітыкаў Валера Карбалевіча, Юрыя Дракахруста і Аляксандра Фядуту на тэму: «Што будзе, калі Расея не прызнае вынікаў прэзыдэнцкіх выбараў у Беларусі». Сама пастаноўка пытаньня пра залежнасьць нашай Радзімы ад настрою крамлёўскіх інтрыганаў абразьлівая. Беларусь — гэта ня ўлус Залатой Арды, каб паўзьці туды на каленцах. Ня дасьць яна ярлык — тае бяды! Купім у Біяфры, у Замбэзіі, у Паўднёвага Лібану, на Мадагаскары.

У наскокаў крамлёўскага дуумвірату на нашага дыктатара ёсьць і той бок, што, зьеўшы яго, Алтын Арда пачне жэрці і ўсё астатняе і ўсіх астатніх. Таму разумней было б не варажыць, як лацьвей пазьбегнуць «вялікага гневу буйнага», а як даць ашалелым дуумвірам усебеларускі адлуп. Парадаксальна і непрыемна, але, выступіўшы супраць маскоўска-кагэбісцкага брэху і гірканьня, мы заступаемся ня столькі за дыктатара, колькі за сваю сінявокую. Маскоўскія наскокі на нашага векавечнага — гэта зьвягня такіх жа нягоднікаў. То каб не трашчаў мужыцкі лоб, трэ бараніцца ад ворагаў, нават калі яны кажуць усім вядомую праўду.

Патрабую дэпрэміяваць усіх удзельнікаў тае перадачы, а завадатараў, як здрадцаў і прадажнікаў, аддаць ва ўчэпістыя рукі ідэалягічнай вэртыкалі.

## *Валеры Лебядкоў, Менск*

***02.09.2010***

Ведайце: нас, хто слухае і любіць Свабоду, насамрэч вельмі многа. Ваша праца надзвычай патрэбная дзеля нашай роднай Беларусі, дзеля ўсіх сумленных беларусаў.

## *Уладзімер Гайдукевіч, Бабруйск*

***27.10.2010***

Я даўно незадаволены тым, як асьвятляюць падзеі ў краіне дзяржаўныя тэлеканалы і так званая «радыёкропка» — праўладное дзяржаўнае радыё, якое яшчэ з савецкага часу праведзена амаль у кожную хату і кватэру і за карыстаньне якім штомесяц спаганяецца плата. З гэтай нагоды я склаў верш:

*Толькі, каб не памыліцца,*
*Лепей праўды нам дабіцца.*
*Не ўключай ты больш БТ,*
*Не глядзі і АНТ.*
*Думай сам, калі здароў,*
*Знай: яны для дуракоў.*
*А вось Радыё Свабода*
*Праўду мовіць для народа.*
*А БТ і «кропка» кажа,*
*Што ўлада ім прыкажа.*

Гэты свой верш на мінулым тыдні я паслаў начальніку Бабруйскага вузла сувязі. Папрасіў разгля-

даць яго як заяву, напрыканцы каторай папрасіў адключыць мне гэтую хлусьлівую «радыёкропку». Адказу да гэтага часу не атрымаў.

## *Алег Даўгала, Гомель*

***03.11.2010***

Дзякуй вам за ўсё, што вы робіце. Слухаю вас кожны дзень — і дома, і на дачы. Вы гаворыце пра іншую Беларусь — сапраўдную, якая жыве, змагаецца за лепшую будучыню.

Мне хутка 71 год. Зь дзяцінства жыву ў Гомелі. У літаратуры і мастацтве мяне заўсёды цікавіла тэма вайны, якую таленавіта раскрыў у сваіх творах Васіль Быкаў. Мой бацька 1894 году нараджэньня ваяваў на працягу ўсяго свайго жыцьця: удзельнічаў у Першай і Другой усясьветных войнах, партызаніў, браў у рукі зброю і ў грамадзянскую. Шмат расказваў пра той час.

Буду вельмі ўдзячны, калі знойдзеце магчымасьць даслаць успаміны Васіля Быкава «Доўгая дарога дадому».

## *Анатоль Людчык, Ліда*

***03.11.2010***

Калісьці даўным-даўно трапіла мне ў рукі кніга Васіля Быкава на рускай мове. Раней я гэтага пісьменьніка ня ведаў. Пачаў чытаць — і ня мог адарвацца. Уразіла, што пра вайну аўтар пісаў зусім

ня ў тым стылі, да якога мы ў той час прывыклі. У ягоных кнігах — сапраўднае жыцьцё, пакуты і боль чалавека, яго сумневы, расчараваньні і роздум.

У вашых перадачах гучалі ўспаміны Васіля Быкава ў аўтарскім чытаньні. Гэта вельмі ўразіла — ведаючы, што вялікага пісьменьніка ўжо няма сярод нас.

# 2010–11

*«Чую імя сваёй мамы... хочацца плакаць, ад гонару зараз лопну!»*

## *Галасы салідарнасьці*

Ад рэдакцыі:

У ноч на Новы 2011 год мы скасавалі ўсе раней заплянаваныя перадачы і пусьцілі ў эфір толькі адну спэцыяльную праграму. Яна называлася «Галасы салідарнасьці», у ёй гучалі імёны людзей, арыштаваных пасьля пратэстаў 19 сьнежня 2010 году. У пераднавагоднія дні і ночы мы званілі знаёмым і незнаёмым людзям на розных кантынэнтах з просьбай дапамагчы яе зрабіць — і ніхто не адмовіў.

Адкрываў чытаньне былы прэзыдэнт ЗША Джордж Буш, завяршаў былы прэзыдэнт Чэхіі Вацлаў Гавэл.

Гэтыя імёны і прозьвішчы ў ноч на Новы 2011 год чуваць былі ў любым месцы зямной кулі. Гэты кароткі акустычны сыгнал аб сямі сотнях сярод сямі мільярдаў зямлянаў азначаў толькі адно — пра вас не забыліся, вы былі, вы ёсьць.

Ня больш. І ня менш.

Першыя водгукі ад слухачоў прыйшлі па электроннай пошце ў першыя хвіліны праграмы.

## *Імя:: Раман*

Малайцы!

## *Імя:: Владимир Горад:: Минск*

Нет слов!! Огромная благодарность не только от всех арестованных, но и, думаю, все меня поддержат, от всего беларуского народа!!!

## *Імя:: Сумны Горад:: Беларусь*

Ciesze sie, ze w Polsce i na calym swiecie tyle wspanialych osobistosci nie chca polityczno poprawnie popierac tyranow i dyktatorow, lecz sa razem z narodem Bialorusi, zwlaszcza, z jego czescia walczaca. Tym, walczacym jest dzisiaj bardzo ciezko, i kazde slowo, kazdy czyn poparcia tak wielu znaczy. Dziakuje.

## *Імя:: сеня*

старина, все просто-такие материалы проще готовить, но Юрский...мда...

## *Імя:: Ільля Богдан Горад:: Менск*

Выдатная акцыя салідарнасьці. Шчыры дзякуй усім неабыякавым людзям. Асобны дзякуй рэдакцыі радыё «Свабода». Дзякуй за тое, што вы ёсьць.

Новы год, спадзяюся, расставіць усё па сваіх месцах. А Беларусь як жыла, так і будзе жыць. Будзе жыць заўсёды, нягледзячы ні на што!

## *Імя:: Ірына з сям'ей*

ДЗЯКУЙ, СВАБОДА! З РАСТВОМ, З НОВЫМ ГОДАМ! З НАДЗЕЯЮ НА ПЕРАМЕНЫ!

## *Імя:: a vor*

nu i za4em eta pakazuxa???

## *Імя:: Solidarny Горад:: Польшча*

1)To nie «pokazucha» – tylko akcja solidarności z prześladowanymi. Ale nie wszystkim jest dane rozumieć ludzkie uczucia...

2)Żeby Białorusini wiedzieli, że nie jest tak jak kretyńskie «Panoramy» i «W centry wnimania» kłamią, że wszyscy są za uzurpatorem, a tylko nienormalni walczą o Białoruś, Wolność i Demokrację.

Jest inaczej – wielu ludzi na Białorusi i na świecie pamięta o tych, których okupacyjny reżim wrzucił do więzienia...

Трымайцеся! Жыве Беларусь!

Pravda vítěži

## *Імя:: Ананім*

Дзякуй вялікі! Імёны усіх пачуў! Трымайцеся!

## *Імя:: Rick Горад:: Gomel*

Дзякуй за вялікую падтрымку. Ад усёй душы.

## *Імя:: Kamil Горад:: Praha*

Lukashenka, this is your final countdown!!!!

## *Імя:: Сергей*

Да, это здоровская идея. Тем, кто побывал или все еще находится в застенках белорусского НКВД думаю будет очень приятно услышать эти слова поддержки, знать что их не забыли..

Свобода МОЛОДЦЫ!

## *Імя:: Lena Горад:: Ohio*

Уехала несколько лет назад из Бреста, но очень переживаю за беларусский народ, он достоин свободы, выражаю солидарность потерпевшим. В Америке ценят каждого человека, уважают мнение. Поэтому страна свободная и процветает. Свобода дороже куска хлеба, будет свобода – будет и хлеб. Лукашенко диктатор и долго не протянет, поэтому боится и вылил своё зло на беззащитных людей, свой народ, перед Новым годом, подарочек преподнес. Стыдно его слушать, какая низость в его словах, необразованность, предательство собственного народа. Жыве Беларусь!!!!!!

## *Імя:: Андрей Горад:: Минск*

Вялікі дзякуй Вам, паважаныя паны!!! Ваша падтрымка зараз патрэбна краіне як ніколі!

## *Імя:: Ананім*

Кранае да глыбіні сэрца і душы!!! Дзякуй Вам усім вялікі!!! Жыве Беларусь!!! George You Are Cool!!! Niech żyje Polska!!!

## *Імя:: Ананім*

Слушаю по радио фамилии пострадавших на Плошчы и уважаемых людей, которые произносят их имена, на глазах появлются слезы, спазмы в горле. Я восхищаюсь такой солидной поддержкой. Все, кто вынужден встретить 2011г. в тюрьмах, узнав про эту солидарность, воспрянут духом. Спасибо от их имени.

## *Імя:: Віктар Горад:: Гомель*

Гэта супер праект. Сусветная салідарнасць, дзякуй Свабода! Жыве Беларусь!

## *Імя:: Inesa Горад:: Minsk*

Mocna, sapraudna, dziakuj!

## *Імя:: василь Горад:: менск*

вышел 29 12 10 огромное спасибо всем за поддержку

ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ

## *Імя:: Al*

Это круто! Спасибо Джордж! Но западные политики, которые сейчас у власти помогите беларусам делом, можете ничего не делать, но лишь немного беларусам помогите и перестаньте помогать диктаторам и победа демократии не заставит долго ждать.

## *Імя:: Сергей Горад:: Минск*

Очень трогательно, возвышенно, и очень важно для нас! Спасибо!!!

## *Імя:: алёна Горад:: Гародня*

К сожалению, есть люди в Беларуси, которые не знают, что происходит, есть и те, кто и знать не хочет... Этот мир заслуживает знать правду о том, что происходит. Дай Боже возможность всем узнать правду и понять, где они стоят, на стороне добра, или на стороне зла...

## *Імя:: Одиссей.*

Большое спасибо лично Кондализе Райс. Здоровья и счастья в Новом Году. Свобода МОЛОДЦЫ!

## *Імя:: galina Горад:: minsk*

Вельмі прыстойна і пранікнёна. Слёзы наварочваліся. Дзякуй вам за гэту акцыю, якая, спадзяемся, раскачвае гэту сцяну. З Новым Годам і з новымі надзеямі! Пакуль мы верым, мы жывыя.

*Імя:: Чорны Кот Горад:: Беларусь*

Ганьба здраднікам! ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!

*Імя:: Васіль*

Креативная поддержка репрессированых. Спасибо.

*Імя:: PanSportsmen Горад:: Минск*

ГДЕ были все эти люди, которые сейчас зачитывают имены, ДО ТОГО, как были нарушены ЗАКОНЫ Республики Беларусь?

ГДЕ они были, когда официально зарегистрированные кандидаты в Президенты, с экранов телевизоров и по радио стали призывать людей нарушить ЗАКОНЫ Республики Беларусь?

ГДЕ они были, когда Генеральная Прокуратура официально предупредила кандидатов в президенты, разъяснила в чем состоит нарушение?

ГДЕ были, наконец, ВСЕ те, чьи имены сейчас зачитывают, когда милицыя ГРОМКО разъясняла в чем они нарушают законы Республики Беларусь, призывала спокойно, мирно, без каких либо последствий РАЗОЙТИСЬ по своим домам?

Или, господин Буш, законы США необходимо строго выполнять, а законы Республики Беларусь, можно и не выполнять?

Если кому то законы Республики Беларусь не по нраву, ИЗБЕРИТЕСЬ в Национальные законодательные органы Республики Беларусь и измените их!

А не избирают вас туда, подчиняйтесь действующим ЗАКОНАМ! Точно так, как на родине господина Буша!

### *Імя:: Германович Горад:: Ивенец*

Это вы правильно SportsmenPan заметили. Во всём мире требуют подчинения законам. И в США тоже. Но там никому в голову не придёт за разбитое провокаторами, анархистами, психами стекло какого бы ни было здания

– избивать дубинками многотысячную толпу мирных демонстрантов.

– Арестовывать и отдавать под суд 700 человек, никакого отношения не имеющих к этому стеклу, 99% которых даже не знавших, что оно где-то было разбито.

– Вылавливать людей, похожих демонстрантов, на протяжении нескольких часов и избивать их.

– Арестовывать не оказывающих сопротивления, убегающих от избиения или случайных прохожих.

– Избивать и арестовывать молодых девчёнок, старушек, детей, инвалидов.

– Пугать матерей лишением материнских прав за участие в демонстрации.

– Избивать конкурентов на выборах ещё до начала митинга, выкрадывать их из больницы в одеяле, и забрасывать в тюрьму. Стены которой пропитаны кровью сотен тысяч невинных людей.

– Арестовывать конкурентов, принявших и не принявших участие в митинге. Предварительно избив их. Не оказывавших сопротивления.

– Запугивать их и требовать публичного предательства и покаяния.

– Арестовывать и бросать в политическую тюрьму журналистов.

– Избивать журналистов и разбивать их камеры.

И это ещё не весь перечень преступлений за которые в демократических странах Лукашенко и его прихвостням пришлось бы ответить по закону.

Такое может быть в Зимбабве, Иране, Бирме. Или Беларуси.

Но не в тех странах на которые вы намекаете. Не в США и странах Европы.

Отдавший приказ на такие избиения и аресты и те кто исполнял их в этих странах были бы немедленно арестованы.

Полиция в тех странах, на которые вы обижаетесь, господин MensportPan, научена быстро и профессионально арестовывать буянов, бьющих витрины, бросающих коктеиль Молотова.

Остальных зачем. Нет смысла.

Пусть демонстрирует себе.

## *Імя:: Ананім*

Ну вы малайцы. З новым годам , Беларусь!!

## *Імя:: Віктар Горад:: Гомель*

Зноў слухаю гэтыя імёны. Пранікае да глыбіні душы. Цудоўны праект. Адчуваецца велізарная, моцная салідарнасць. Дзякуй усім. Жыве Беларусь!

## *Імя:: Alex Горад:: Gomel*

Какая замечательная акция!

Огромное спасибо «Свободе» и всем участникам!

## *Імя:: lazy Горад:: Miensk*

Няма словаў. Аграменны дзякуй за салідарнасьць.

## *Імя:: Partyzan*

Дзякуй за падтрымку! Жыве Беларусь!

## *Імя:: Алесь Горад:: Минск*

Молодцы, замечательная акция! Было бы замечательно, если бы на каком-нибудь сайте можно было проголосовать за освобождение всех политзаключенных Беларуси.

## *Імя:: Александр Горад:: Брест*

Замечательная акция духовной поддержки.Мы гордимся настоящими гражданами страны!

## *Імя:: бел.*

Низкий поклон за поступок! Живи доброта и здравомыслие! Живи свобода и правда! Живи Беларусь!

## *Імя:: n*

Дзякуй за салідарнасьць! Гэта вельмі важна і для тых 700, і для тых хто быў на Плошчы, але каторым пашанцавала не трапіць у «лапы ўлады», і для тых, хто па тых ці іншых прычынах перажываў за тыя 30-40 тысяч сьмелых дома. Шкада толькі, што пачуюць гэта не ўсе, што не пачуюць тыя, хто слухае і верыць толькі БТ і г.д. Яны не чытаюць гэты сайт і не слухаюць гэта радые (слухаюць толькі тыя, каму гэта патрэбна па працы...).

Жыве Беларусь!

## *Імя:: azhbeta Горад:: belarus*

Хто гэта прыдумаў, проста СУПЕР! Малайцы СВАБОДА!!! Моцная падтрымка палітзняволеным. У 11.45 выключылі ТВ, каб не чуць узурпатара, пагасілі святло ў кватэры, запалілі свечкі ў знак салідарнасці з палітвязнямі, праслухалі некалькі разоў імёны нашых герояў, шмат знаёмых і так сустрэлі Новы 2011 год. Дзякуй усім вядомым у свеце людзям, хто адгукнуўся на гэту акцыю.

## *Імя:: Alex Nikitsin Горад:: Minneapolis*

Вялікі дзякуй Вам, паважаныя паны!!

## *Імя:: Аляксандар Горад:: Менск*

+ 100000

## *Імя:: Сергий Горад:: Минск*

О Человеке, судят не по тому, что он говорит – а потому, что делает! У каждого есть ШАНС! проявить себя и показать гражданскую позицию. Лукашизм в Беларуси это факт! Политзаключенные – факт! Нарушение ВСЕХ! ПРАВ!, к сожалению, также – факт. Построена пирамида в основе которой «силовики» ОМОН и СПЕЦНАЗ. Им этого ПОЗОРА во век не смыть!... быть карательным инструментом в руках палача! – нужно не иметь Совести и Сердца! ... Огромная БЛОГОДАРНОСТЬ Людям, и это конкретное! дело, поддерживающим наших узников совести!... Честь и хвала ИМ! ..... Живет! Беларусь!

## *Імя:: N@TaLina*

Сапраўды выдатная акцыя салідарнасьці атрымалася! Дзякуй СВАБОДЗЕ за праект! Людзі павінны адчуваць, што іх не пакінулі адных на выпрабаваньні.

Прапаную яшчэ рэдакцыі падрыхтаваць шэраг інтэрв'ю з палітыкамі, прадстаўнікамі палітычных партыяў і рухаў, якія занялі прынцыповую пазыцыю, што да падзеяў у Беларусі. У рэшце рэшт беларуская дэмакратычная апазыцыя і супольнасьць павінны ведаць, хто сярод заходніх і ўсходніх палітыкаў з'яўляецца сапраўдным прыхільнікам дэмакратычных пераменаў у Беларусі і абаронцам дэмакратычных свабодаў. Дзякуй, калі мая прапанова знойдзе водгук у рэдакцыі. Цыкль інтэрв'ю прапаную пачаць з італьянскіх радыкалаў. Гэта адна з нямногіх палітычных партый Італіі, якая

заўсёды мае прынцыповую пазыцыю і выступае за абарону правоў чалавека (асобы) ва ўсім сьвеце.

### *Імя:: Саша Горад:: Гомель*

спасибо...

### *Імя:: Siarhiej Горад:: Miensk*

На Плошчу вышла ШЛЯХТА !

### *Імя:: Centukky Горад:: Mensk*

Я вельмі ўражаны і ніколі б не падумаў, што такую выдатную акцыю магчыма арганізаваць. Дзякуй вялікі ўсім! мая надзея не толькі не памірае – яна расце!

### *Імя:: Сумны Горад:: Беларусь*

03.01.2011 00:23

Беларуская Плошча – гэта экстракт самага найлепшага, самага шляхетнага, добрага, разумнага, што здолела захавацца ў нашым народзе цягам неміласэрнай гісторыі. Тое, што знакавыя прадстаўнікі заходняй цывілізацыі разам з лепшымі беларусамі, няхай сабе й толькі маральна, дадае аптымізму. Выдатная акцыя. Рэспэкт кожнаму ўдзельніку асабіста й Радыё «Свабода» ў прыватнасьці.

### *Імя:: Рашэд Горад:: Манрэаль*

Вялікі дзякуй усім, хто чытае імёны!

## *Імя:: IR Горад:: Van*

Круто, просто офигительно круто, Юрий Александрович !!!

Спасибо Вам и всем тем, кто участвовал и готовил эту передачу.

## *Імя:: Джордж*

Очень забавно смотреть как Джордж Буш – тот самый, который загнал америку в тиски патриотического акта говорит о свободе, как впрочем и Лиза Райз. Честно говоря мне было бы стыдно, если бы кто-то из этих двух людей вот так мое имя произнес.

## *Імя:: nina Горад:: toronto*

Ia soglasno s temi,kto govorit , chto eto zdorovo. Te aristovannue ludi dolzhnu znat', chto oni ne odni. Vot tolko ne nado pro Ameriky, da y nee mnogo svoix problem,no oni chelovechnee i oni vsegda stoiat za svoi interesu.A vot esli b v millionnom Minske vyshlo b na ploshad' 500.000, ia dymau repressii by ne bylo.Tem kotorue smotreli vse po televizory dolzhno but' stydno teper. oni v ocherednoi raz prodali Belorus'.Nikto Vam ne pomozhet esli Vu sami ne pomozhete sebe, vashi dzedy i pradedy vo vremia voiny ymeli srazhatsia. Zyve Belarus!!!!!!!!!

## *Імя:: Ананім*

ааааа, меня не назвали. Обидно!!!! а я 15 суток просидела(((

## *Імя:: DiensTag Горад:: Del Sol*

На дзіва, не пачуў імя аднаго з беспадстаўна абвінавачаных у арганізацыі – Ільлі Васілевіча.

А праект, безумоўна, выдатны! Дзякуй рэдакцыі РС за велізарную працу.

## *Імя:: Alena Горад:: Minsk*

Огромное спасибо, это потрясающе!!!

## *Імя:: Юля Горад:: Минск*

Слышу имя своей мамы...хочется плакать, от гордости за неё сейчас лопну! Наши герои!!!

**Цалкам з праграмай можна пазнаёміцца на сайце Радыё Свабода ў разьдзеле «Бібліятэка Свабоды»:**

http://realaudio.rferl.org/be/www-modul-HalasySalidarnasci/index.html

# 2011

*«Паслухаць Свабоду — гэта ўсё роўна што пасьля лазьні выпіць кілішак гарэлкі: і сьветла, і весела, і радасна»*

*Людміла Доўгер, Ворша*

***12.01.2011***

На працягу многіх гадоў праўдзівыя зьвесткі пра падзеі ў Беларусі і сьвеце атрымліваю з вашых перадач. Кожны вечар перад сном на паўтарыдзьве гадзіны ўключаю свой прымач і настройваюся на Свабоду. Гэта для мяне стала своеасаблівай патрэбай. Свабода — як глыток сьвежага паветра. А на афіцыйным радыё і тэлебачаньні — прапаганда і хлусьня. Бо параўноўваеш іхныя зьвесткі з тым, што бачыш вакол сябе — і хочацца плакаць. Вось ужо сапраўды: абяцанкі-цацанкі — а дурню радасьць.

*Іван Зайкевіч, пасёлак Друцак, Талачынскі раён*

***12.01.2011***

19-га, 20-га, 21-га сьнежня ня мог адарвацца ад прымача, слухаючы Свабоду. Тыя жахлівыя падрабязнасьці — як зьбівалі людзей, як запіхвалі ў «варанкі», як прыніжалі і зьдзекаваліся — дагэтуль стаяць перад вачыма. Якая азьвярэласьць, якое дзі-

кунства людзей, якія, здавалася б, павінны служыць закону, абараняць грамадзян!.. Але што казаць, калі ўсе ведаюць, што гэты рэжым трымаецца на міліцэйскіх дубінках.

Я на сабе паспытаў, што гэта такое — калі на цябе накідваюцца на вуліцы некалькі разьюшаных бандытаў. Абараняўся я як мог. Думаеце, хто-небудзь заступіўся? Не адзін тыдзень потым праляжаў у шпіталі. І цяпер ведаю, дзе і сярод каго я жыву: сярод рабоў, халопаў, злодзеяў, прыслужнікаў, мянтоў і астатняга запалоханага люду.

Я глыбока разумею выдатнага паэта Някляева, ягонае наіўнае жаданьне ўраз перарабіць раба на грамадзяніна. Але як гэта зробіш, калі ў большасьці нашых людзей ня выхавана павага да мастацкага слова, да паэзіі, літаратуры… Рэдка ў каго, асабліва на вёсцы, ёсьць у хаце кніжная паліца. А калі і ёсьць то ці знойдзеш там кнігі беларускіх творцаў?

Якое ў дыктатара атачэньне, хто яму прыслугоўвае? Якое іх маральнае аблічча? Там адна каштоўнасьць — грошы. Саюз пісьменьнікаў разагналі, усіх астатніх запалохалі. Усюды ім мроіцца пагроза.

У выбарчых камісіях усё прыкормлена — паўсюль незьмяняльнае чынавенства. Яны гатовыя ілгаць, падманваць і людзей, і сябе, выкручвацца, высучвацца, абы толькі застацца пры пасадах і грашах. А чыноўнікі цяпер маюць і два, і тры мільёны рублёў у месяц. Ім ёсьць за што трымацца. Рабочы люд жыве па-іншаму, але ж ён разьяднаны і запалоханы.

## *Мікалай Бусел, вёска Дуброва, Сьветлагорскі раён*

***19.01.2011***

Дзякую за добрую працу 19-га сьнежня і да сёньня. Вы апэратыўна і поўна пра ўсё інфармавалі — адрозна ад іншых мэдыяў, якія пасьля 20-й гадзіны ў тую ноч ужо амаль нічога новага не падавалі. Жадаю ўсім свабодаўцам здароўя, добрага сынтаксісу, лексыкі, вымаўленьня і прафэсійных здабыткаў.

Нават мая жонка — і то нагадвае мне цяпер ураньні, што трэ ўключыць Свабоду, бо нам цікава і неспакойна за лёс арыштаваных.

Дужа прыемна чуць і таленавітыя званкі на Свабоду. Шкада толькі, што ўладныя вушы ўсё гэта наўрад ці чуюць.

## *Яўген Бондараў, вёска Марозаўка, Чавускі раён*

***09.02.2011***

Некаторыя навіны можна даведацца толькі на вашым радыё, таму Свабоду слухаю, нягледзячы на тое, што якасьць прыёму часта кепская.

Вельмі шмат часу адводзіце падзеям 19-га сьнежня. Асабіста мая пазыцыя тут такая: няхай усе кропкі над «і» расставіць суд. Вінаватыя няхай сядзяць у турме, а невінаватых трэба рэабілітаваць.

А вось апазыцыі варта ўжо цяпер рыхтавацца да наступных выбараў. І найперш — скласьці такую праграму, якую б падтрымаў беларускі народ. Трэба, каб людзі не сумняваліся, што з тым палітыкам, які пераможа Лукашэнку, жыцьцё палепшыцца.

Неблагія кандыдаты былі і на мінулых выбарах. Напрыклад, Дзьмітры Вус. Ён прайграў выбары, бо ня быў вядомы людзям і праграма ў яго была слабая, кароткая... Хоць, на маю думку, у яго шмат станоўчых рысаў. І я нават бачыў яго пераемнікам Лукашэнкі ў 2015-м ці 2020-м годзе.

Перапрацаваўшы сваю праграму, узгадніўшы яе з народам, мог выйграць і Аляксей Міхалевіч. Нездарма ж хтосьці нават СМС напісаў у праграму «Контуры» на дзяржаўны канал АНТ: «Вазьміце Міхалевіча пад сваё крыло, шкада хлопца!»

## *Сяргей Бабняцоў, Магілёў*

***16.02.2011***

Вашы перадачы — гэта суцэльны лямант пра ўціск і перасьлед так званых «дэмакратаў». І гэта зьдзіўляе. Калі чалавек не парушае законаў, то хто яго можа перасьледаваць? Сядзі ціха, не парушай заканадаўства — і цябе ніхто не зачэпіць.

Але ў Свабоды чамусьці ўсе крымінальнікі аказваюцца вязьнямі сумленьня. Узяць тых жа кандыдатаў у прэзыдэнты. Улада дазволіла ім удзельнічаць у выбарах. Але ж яны выкарысталі гэта, каб зрабіць спробу расхістаць падмурак дзяржавы, каб захапіць уладу паводле кіргіскага сцэнару. Дык што ж вы хочаце — каб за гэта па галоўцы гладзілі? Не

ўжо, парушыў закон — атрымай па заслугах. І няма чаго цяпер аб гэтым сьлёзы ліць. Было б горш, калі б плакаць давялося мільёнам беларусаў — у выпадку, калі б авантура ўдалася.

Вы самі цудоўна ведаеце, што Лукашэнка атрымаў на выбарах пераканаўчую перамогу. Гэта пацьвярджаюць усе дасьледаваньні, у тым ліку замежныя.

Так, Лукашэнка не падабаецца так званым «дэмакратам», яны яго ненавідзяць. Дык што рабіць? Навошта ж ад нянавісьці лезьці на сьцены і рваць на сабе кашулю?

Пагаджаюся, у яго, як і ў кожнага сьмяротнага, нямала недахопаў. Але ёсьць і галоўнае, за што яго цэняць людзі. Ён сумленны перад сваім народам, ня злодзей — у адрозьненьне ад многіх, хто пры ўладзе. Добры арганізатар. У цяперашніх найцяжэйшых умовах манэўруе, шукае выйсьця, але не гандлюе краінай. Ён — сапраўдны гарант незалежнасьці. А ягоныя канкурэнты? Ці быў сярод іх хоць адзін, хто мог стаць паўнавартаснай альтэрнатывай Лукашэнку паводле здольнасьці кіраваць краінай?

Ніколі не пераможа на выбарах у нас той, якога падтрымліваюць сілы звонку. Таму што гэта — наўпростая залежнасьць ад крэдытораў. А апазыцыйныя кандыдаты ў даўгах пад завязку.

Замест таго каб перамагаць на выбарчых участках, яны клікалі людзей на плошчу. Дзеля чаго? На што разьлічвалі — што Захад дапаможа? Хіба не разумелі, што Беларусь — не Кіргізстан? Наш народ у сваёй абсалютнай большасьці задаволены ўладай.

Клічаш народ на плошчу — тысячу разоў падумай, што з гэтага атрымаецца, ці гатовы ты

пэрсанальна адказваць, калі натоўп выйдзе з-пад кантролю.

Дапусьцім, што за кратамі апынуліся людзі, якія, як вы сьцьвярджаеце, сапраўды бескарысьліва клапаціліся пра народ, адлюстроўвалі яго памкненьні. Дык хіба народ у такім выпадку змаўчаў бы? Але ж усім, як бачыце, да лямпачкі. А чаму? Ды таму, што гэтыя дзеячы прадажныя. І народ гэта бачыць. І падтрымліваюць іх цяпер толькі тыя, хто атрымлівае за гэта даляры. А проста так, бясплатна крычаць на вуліцы — няма дурных...

Не чакаю і не разьлічваю, што вы прачытаеце мой ліст. Ведаю: за такое застанецеся бяз працы. І па пошце мне адказваць ня трэба. Добра ўжо тое, што вы асабіста прачыталі шчыры ліст не свайго сталага аўтара, а простага чалавека з народа, які думае інакш, чым вы.

## *Вольга Кавальская, Смаргонь*

***16.02.2011***

Дзякую вам, што вы ёсьць, што ёсьць наша Беларуская Свабода. Слухаю вашы перадачы кожны дзень і веру, што засьвеціць сонца і ў наша ваконца.

Калі мяне надта дапякуць ворагі Беларусі, якіх раздражняе і злуе ўсё беларускае, я як малітву паўтараю словы верша:

*Што ж тады Беларусь за краіна,*
*Калі роднага слова ня мае?*
*Калі песень сваіх не сьпявае?*
*Калі мову сваю забывае?*

А да чыноўнікаў я ўсё роўна зьвяртаюся на сваёй роднай беларускай мове — як бы іх гэта ні раздражняла.

## *Валеры Старыкаў, Баранавічы*

***02.03.2011***

Пасьля выбараў многія мае знаёмыя сталі слухаць ваша радыё — асабліва калі ідзе перадача Яна Максімюка. Ну што вы хочаце — дыктатура, людзі запалоханыя. Усіх, хто галаву падніме — душаць, не даюць голас падаць. А свабоднае слова ўсё роўна хочацца пачуць.

Вам на радыё звоняць адважныя людзі. Усе ж ведаюць: у нас усё кантралюе КДБ. Дый пісаць лісты, відаць, небясьпечна. Але гэта ўсё — часовае. За ўсё ім у сваю пару давядзецца заплаціць.

## *Фелікс Варвашэвіч, вёска Макава, Ганцавіцкі раён*

***23.03.2011***

Доўгія гады я слухаў Беларускую Свабоду, але зараз, на жаль, ня маю такой магчымасьці. Раней мяне выручаў старэнькі «Акіян», ды толькі пасьля больш як дваццаці год службы ён канчаткова зламаўся: давялося выкінуць.

Сабраў грошы, езьдзіў і ў Лунінец, і ў Баранавічы. Абхадзіў нямала рынкаў і крамаў — і нідзе каратка-

хвалевага прымача не знайшоў. Купіў зь сярэднімі хвалямі, але на іх Свабоду ўдаецца паслухаць рэдка. І што мне ў такім разе рабіць?

## *Людміла Казлова, вёска Макараўцы, Бераставіцкі раён*

***06.04.2011***

Чым больш вы спрабуеце ачарніць ды прынізіць Аляксандра Рыгоравіча, тым больш паказваеце свой уласны агідны твар. Часьцяком вас немагчыма слухаць бяз злосьці і абурэньня. Самі вы ня вартыя нават мезенца Аляксандра Рыгоравіча, а лезеце яго павучаць. І здыміце, калі ласка, пазыўныя — мэлёдыю песьні «Люблю наш край, старонку гэту...» Песьня — цудоўная, яна не для вас. Вы нікога ня любіце і марыце бачыць Беларусь не квітнеючай і незалежнай, а жабрацкай і расьціснутай. Такая Свабода нам не патрэбна.

## *Мікола Корбут, вёска Міхалёва, Бабруйскі раён*

***06.04.2011***

Дакладна ведаю, што без праграмы «Жывая мова», якую вёў на Свабодзе Юрась Бушлякоў, у Беларусі было б на два студэнты ўнівэрсытэтаў меней. Толькі дзякуючы Радыё Свабода, якое слухалі па маёй падказцы, яны паступілі ў ВНУ. Калі

магчыма, варта аднавіць гэтую праграму на радыё. Тым больш што цяпер нашы ўнукі, адрозна ад нас, маюць магчымасьць слухаць і чытаць Свабоду ў інтэрнэце.

Слухаю праграмы «Бацькі і дзеці», «Верш на Свабоду»... Цудоўна было б стварыць асобныя дыскі з запісамі гэтых перадач ды разаслаць па заяўках слухачоў накладной платай. Бясплатна ня трэба: мы павінны падтрымліваць сваё радыё.

І яшчэ пра адну актуальную для Беларусі праблему, што часта асьвятляецца на Свабодзе — будаўніцтва Астравецкай АЭС. Мы ўсе разам павінны прыкласьці намаганьні і сказаць «Не!» гэтаму самазабойчаму праекту. А інакш можа быць позна.

## *Уладзімер Пятроўскі, вёска Жураўлёўка, Гомельскі раён*

***06.04.2011***

Калі я слухаю Свабоду, то ўспамінаю далёкія 60–70-я гады. Тады ў нас у вёсцы ў адной з хат быў прымач «Родина». І там вечарамі зьбіраліся мужчыны і слухалі «Голас Амэрыкі». Я ня ведаю, што там можна было пачуць праз жахлівы трэск і сьвіст. Але яны слухалі. Амаль гэтак жа слухаю вашы перадачы і я з дапамогай свайго прымача «ВЭФ-214».

Вы кажаце, што зь пераходам на летнія хвалі якасьць прыёму палепшыцца. Але можаце на гэта не спадзявацца — лепей ня будзе. Спэцслужбы таксама перастрояць свае глушылкі.

*Ліна Масалкова, Менск*

***04.05.2011***

З вамі, свабодаўцы, мы мацнейшыя, сьмялейшыя, разумнейшыя. І здаравейшыя! Хай не пакінуць вас мужнасьць, дабрыня, любоў і павага слухачоў! І дзякуй вялікі за вашу дабрачыннасьць, за тое, што любоў і пашана паміж намі (з аднаго боку — слухачамі-чытачамі, а з другога — свабодаўцамі) — узаемная. Многія кнігі і дыскі, якія выдала за апошняе дзесяцігодзьдзе Свабода, пашчасьціла атрымаць ці здабыць іншым спосабам. А тое, што яшчэ выйдзе, вельмі хацелася б мець. Мару пра дыск «Саўка ды Грышка», пра кнігі «100 адрасоў Свабоды» і «Птушкі пералётныя». А «Бардаў Свабоды» ўжо маю.

Без Свабоды — існаваньне, а не жыцьцё!

*Людміла Барысава, Магілёў*

***18.05.2011***

Слухаю вас кожны дзень. Падабаюцца абсалютна ўсе перадачы. Нецікавых асабіста для мяне няма. Асабліва падабаецца мова, на якой размаўляюць вашы вядучыя. Яна — сапраўдная, жывая.

Сорамна прасіць, але вельмі хочацца атрымаць вашы дыскі — «100 бардаў Свабоды» і сатырычныя песьні Лявона Вольскага. Калі слухаеш «Саўку ды Грышку», то адчуваеш сябе то Саўкам, то Грышкам. Можа, што і з «Мудраслоўя» Вячаслава Ракіцка-

га будзеце выдаваць? Я вельмі люблю народныя прыказкі і прымаўкі. Калі слухала перадачы, дык спрабавала запісваць за вамі. Ды дзе там пасьпееш! Асабліва калі чуваць ня надта добра. (А такое здараецца.)

У кнігарнях Магілёва набыць нешта сучаснае беларускамоўнае не ўдаецца.

У праграме «Верш на Свабоду» пачула верш Таццяны Коласавай «Дождж». Супэр! Ёсьць жа такія здольныя людзі, якія могуць мае думкі так таленавіта ператварыць у словы. Увогуле, так ня раз бывае: толькі падумаю пра нешта — а на вашым радыё ўжо адгукнуліся.

## *Аляксандар Маркевіч, Вілейка*

***25.05.2011***

Шчыра дзякую ўсім супрацоўнікам Свабоды. Вы патрэбны людзям. Асаблівая падзяка — Аляксандру Лукашуку: за шчырасьць, чуласьць, пісьменьніцкі талент валоданьня словам.

Пажаданьне да вас: працягвайце сачыць за лёсамі тых, хто вымушаны быў зьехаць зь Беларусі — Міхалевіча, Радзінай, Гарбачова ды іншых.

## *Пётар Уладамірскі, вёска Жураўлёўка, Гомельскі раён*

***25.05.2011***

Будуць у вас доказы глушэньня Свабоды ці не — на нашу ўладу гэта не паўплывае. Як не паўплываюць і патрабаваньні выпусьціць усіх палітзьняволеных. Як кажуць у такіх выпадках: «А Васька слухае ды есьць». Адзінае, што яшчэ можа паўплываць, — дык гэта перанос хакейнага чэмпіянату сьвету ў іншую дзяржаву. Вось гэта Лукашэнку па-сапраўднаму турбуе.

І яшчэ адна заўвага. Навошта вы паведамляеце нам прагноз надвор'я? Гэтага дабра хапае і на лукашэнкаўскім радыё і тэлебачаньні. Лепш бы павялічылі на гэты час «Званочкі» альбо прачыталі лішні верш.

## *Бярнард Пакульніцкі, пасёлак Гарадзея, Нясьвіскі раён*

***15.06.2011***

Магчыма, не зьдзіўлю вас, але выразна памятаю, што пачаў слухаць свабоднае радыё з таго моманту, калі памёр Сталін. Зьяўляюся слухачом «са стажам». Хаця слухаў перадачы замежных радыёстанцый на розных мовах, але, каб атрымаць дакладную і своечасовую інфармацыю, заўсёды аддаваў перавагу Радыё Свабода.

Вельмі прыемна, што вы супрацоўнічаеце са слухачамі. Гэта выклікае асаблівую цікавасьць і павагу да Радыё Свабода. Дзякую за такую неабходную ўвагу да людзей і за вашу працу. Калі ў вас ёсьць магчымасьць высылаць свае выданьні, то зь вялікай радасьцю хацеў бы іх атрымаць і падзяліцца зь сябрамі і знаёмымі. Наагул цікавіць усё, што ў вас зьяўляецца новае.

Апошнім часам вельмі цікаўлюся краязнаўствам і гісторыяй, наладжваю вэлясыпэдныя вандроўкі і падарожжы па Беларусі. Бачу жыцьцё простых людзей на свае вочы, маю ўласны погляд на сёньняшнюю рэчаіснасьць.

## *Ніна Марчук, вёска Глінянка, Кобрынскі раён*

***15.06.2011***

Ужо больш як 10 год я — ваша штодзённая слухачка, пачынаючы з 22-й гадзіны кожнага вечара. Бяз вас ужо не ўяўляю свайго жыцьця, а менавіта — разуменьня таго, што ў нас робіцца. Ня раз дасылала вам гукавыя лісты. Некаторыя зь іх потым пачула па Свабодзе.

Праслухала запіс «Птушак пералётных» Галіны Руднік. Мала сказаць, што мне гэта спадабалася. Я даведалася пра тое, пра што раней нават не здагадвалася. І мне вельмі цікава. Буду рада, калі атрымаю ад вас гэтую кнігу. І ня толькі я.

Адзін з маіх унукаў — такі ж аматар гісторыі, як і я. Думаю, і ён з задавальненьнем пазнаёміцца

з гэтай кнігай і асэнсуе тыя факты, пра якія можна даведацца толькі ад вас.

## *Міхаіл Місючэнка, вёска Гарнастаева, Капыльскі раён*

***15.06.2011***

Ужо больш за сорак гадоў слухаю перадачы Свабоды, а таксама іншых радыёстанцый, якія, памятаю, у Савецкім Саюзе называлі «варожымі галасамі». У той час слухаць іх было вельмі цяжка, бо моцна глушылі.

Цяпер часам тэлефаную на менскі нумар Свабоды, выказваю свае думкі наконт падзеяў у краіне і сьвеце. Падабаюцца ўсе перадачы. Асабліва — «Званочкі» зь Янам Максімюком, дзе могуць выказацца ўсе — і прыхільнікі радыё, і ягоныя праціўнікі.

Апошнім часам вы шмат паведамлялі пра судовыя працэсы над удзельнікамі сьнежаньскай Плошчы. Слухаў кожны дзень. Хачу пажадаць мужнасьці і цярпеньня ўсім, хто зараз знаходзіцца за кратамі, а таксама іх родным і блізкім.

## *Уладзімер Цыбенка, Івацэвічы*

***29.06.2011***

Свабоду слухаю часта. Падабаюцца вашы аналітычныя праграмы, а таксама «Званочкі». Мая маці (зараз пэнсіянэрка) з маленства прывучыла да бе-

ларускай літаратуры. Яна ж сабрала нашу хатнюю бібліятэку, у якой у асноўным творы беларускіх пісьменьнікаў. Я зачытваўся Глебкам, Броўкам, Мележам, Адамовічам, Танкам, Сачанкам, Тарасам, Васілевіч, Капыловічам...

Нядаўна вы задаволілі маю просьбу наконт успамінаў нашага паважанага пісьменьніка Васіля Быкава. Мае сябры зрабілі сабе копіі з атрыманага дыска.

З задавальненьнем слухаў успаміны вэтэрана Свабоды Галіны Руднік. Гэтая таленавітая жанчына пабачыла і перажыла многае ў сваім жыцьці. Дай Бог ёй здароўя. Вельмі хацелася б мець яе ўспаміны ў выглядзе кнігі.

## *Уладзімер Пятроўскі, вёска Жураўлёўка, Гомельскі раён*

***06.07.2011***

*Я вам паскардзіўся на якасьць.*
*І што пачуў я у адказ?*
*Аб тым, што хвалі вашы глушаць,*
*Ніякіх доказаў у вас.*
*Маўляў, прымач у цябе дрэнны*
*І ён фізычна састарэў.*
*Даўно б набыў ты ўжо «талерку»,*
*Калі ня піў бы ды ня еў.*
*Калі б ня шастаў у аптэку*
*Ды каля крамаў не кружыў,*
*А мізер гэты пэнсіённы*
*Лепш на «талерку» палажыў.*

*Што ж, за параду — шчыры дзякуй.*
*Так робяць бюракраты ў нас:*
*Там, дзе патрэбна зрабіць справу,*
*Яны — адпіску у адказ.*
*Ну што ж, чакайце, мо калісьці*
*Вам скажа бацька-дабрадзей:*
*«Ага, мы хвалі вашы глушым,*
*Каб не разбэшчвалі людзей.*
*Навошта гэта ім Свабода?*
*Ў нас што, няма каму вяшчаць?*
*У нас БТ ёсьць для народа»*
*(Там мякка сьцелюць — мулка спаць).*
*Я шчырыя скажу вам словы*
*І не адкрыю навіну:*
*Шчэ ні адзін урад саўковы*
*Не прызнаваў сваю віну.*
*А мой прымач няхай і стары,*
*Ды шчэ паказвае сваё:*
*Калі ня глушаць, дык гаворыць,*
*Як праваднное РадыЁ!*

## *Валеры Старыкаў, Баранавічы*

***06.07.2011***

Нядаўна я безь вялікіх цяжкасьцяў купіў новы прымач «Вітэк» (па старых коштах — 65 тысяч рублёў). Прымаю Свабоду, як правіла, на хвалі 49 мэтраў. Сыгнал нармальны, а раніцай увогуле выдатны. Пасьля пераходу на летнія хвалі чутнасьць палепшылася. Праўда, на сярэдніх хвалях трансьляцыя ня надта, але гэта дробязь: ёсьць жа кароткія хвалі.

У дзяржаўных крамах у Баранавічах прымачоў з кароткімі хвалямі няма. А вось у прыватнікаў — ёсьць, нават можна выбраць.

Вялікі дзякуй за тое, што даяце поўную і аб'ектыўную інфармацыю, асабліва на эканамічныя тэмы. Выдатна, што трансьлюеце званкі радыёслухачоў. Зь перадач асабліва падабаюцца «Праскі акцэнт» і «Званочкі».

## *Іван Абрамовіч, Сьветлагорск*

***06.07.2011***

Кола сяброў Свабоды пашыраецца. Абставіны апошняга часу патрабуюць таго. Таму мной перададзены адпаведныя запросіны сваім сябрам, знаёмым. Гэта — гарантыя таго, што ваш эфір будзе яшчэ больш цікавым.

На жаль, гучнасьць і якасьць прыёму часта застаюцца нездавальняючымі. Хачу параіць тым, хто сутыкаецца з гэтай праблемай, наступнае. Злучыце з дапамогай меднага дроту антэну радыёпрымача з радыятарам ацяпленьня, папярэдне зачысьціўшы месца, дзе будзе пакладзены хамуток злучэньня. Як правіла, чысьціня прыёму радыёхвалі ў гэтым выпадку паляпшаецца.

## *Ірына Аўгуль, вёска Радзюшы-Пушча, Астравецкі раён*

***13.07.2011***

Дзень без Свабоды — марны дзень. Дзякуй табе, Радыё Свабода, што ты ёсьць, за твае разумныя зьмястоўныя перадачы, за сустрэчы зь цікавымі людзьмі, а таксама за інтэлект, інтэлігентнасьць і за высокі ўзровень.

У мяне проста не хапае эпітэтаў, каб расказаць, наколькі мне спадабалася чытаньне Галінай Руднік старонак кнігі ўспамінаў у эфіры Свабоды. Каб пачуць гэтую перадачу, я кідала ўсе свае справы. Настолькі цікава і таленавіта распавядала яна пра свой няпросты лёс.

Так хацелася б мець гэтую кнігу ў сваёй бібліятэцы.

## *Мікалай Галаскок, Ваўкавыск*

***20.07.2011***

Не давайце выказвацца на вашым радыё лукашыстам. Хопіць нам той хлусьні, якую распаўсюджваюць праз дзяржаўнае радыё і тэлебачаньне. А гэтыя лукашысты, якія час ад часу хлусяць і на Радыё Свабода, нічога цікавага і вартага ўвагі сказаць ня могуць. Яны толькі льюць ваду на млын дыктатара ды ўводзяць у зман найбольш адсталую частку вашых слухачоў.

Па-другое, мне не зусім падабаецца тое, што вы часта робіце апытаньні на вуліцах розных беларускіх гарадоў. Зразумела, што сярод выпадковых мінакоў ёсьць як добра адукаваныя людзі, так і невукі. Паслухаць меркаваньні разумных людзей цікава. А вось прымітыўныя выказваньні цёмных адсталых асобаў нічога не даюць ні розуму, ні сэрцу. Таму, калі хочаце ведаць меркаваньні розных людзей, дык выбірайце для гэтага больш-менш інтэлектуальную публіку.

Вось такія мае заўвагі да вас. Калі памыляюся, дык прабачце. Гэта — мой асабісты пункт гледжаньня. Увогуле, я зьяўляюся вашым слухачом ад 91 году. Перадачы мне вельмі падабаюцца, таму што вы праўдзіва асьвятляеце падзеі — і замежныя, і тыя, што адбываюцца ў нашай краіне.

## *Міхась Габрыэль, Менск*

***27.07.2011***

Слухаю вас і раніцай, і ўвечары — цераз глушылкі рэжыму. Як бы ўлада ні пнулася задурыць нам, простым людзям, галовы — з дапамогай Радыё Свабода мы ўжо даўно разабраліся, каму верыць, а каму — не.

Усюды, дзе я апошнім часам бываю (у крамах, у лазьні, на вуліцы), з усіх бакоў чую праклёны на адрас цяперашняй улады. Пакуль марудна, пакрысе, з аглядкай, але людзі заварушыліся. Усім (напэўна, нават самым зацятым абаронцам рэжыму) надакучыла слухаць хлусьню пра тое, як мы добра жывем. З гэтай жабрацкай пэнсіяй вельмі

складана пражыць, асабліва калі цэны на ўсё падскочылі да нябёс.

А зьдзекі зь людзей ня толькі не сьціхаюць, а наадварот — набываюць моц. Удзельнікаў мірнай маўклівай акцыі хапаюць, б'юць, судзяць. А моладзь, нягледзячы на гэта, упарта выходзіць на вуліцу. І гэта нараджае надзею. Мне здаецца, што праз два-тры месяцы большасьць насельніцтва выйдзе з пратэстам. А лідэры партый цяпер няхай асабліва не высоўваюцца, каб ня трапіць пад арышт. З пачаткам ацяпляльнага сэзону насельніцтва гарадоў сасьпее вельмі нават хутка. Атрымаюць грамадзяне жыроўкі — і цярпеньне лопне. Хутчэй бы ўжо дачакацца нейкіх зьменаў.

## *Анастасія Шчарбіна, Менск*

***27.07.2011***

Слухачкай Радыё Свабода я стала пасьля вядомых усім падзеяў 19 сьнежня мінулага году. Да гэтага не цікавілася ні палітычнымі падзеямі ў краіне ўвогуле, ні выбарамі ў прыватнасьці. Праўда, калі чула, як БТ чарговы раз абвінавачвае апазыцыю і якія аргумэнты пры гэтым гучаць, дык міжволі мае сымпатыі былі на баку тых, каго паліваюць брудам. Пасьля 19-га сьнежня я пачала па-новаму глядзець на тое, што адбываецца ў Беларусі. Дзяржаўнае тэлебачаньне нават глядзець агідна: наколькі прымітыўныя там абвінавачаньні, якія прадажныя журналісты іх агучваюць. Вельмі добра, што заходнія краіны ўключылі іх у «чорны сьпіс».

На жаль, многія сяброўкі не падзяляюць маю пазыцыю. Кажуць прыблізна так: «Нам да лямпачкі, што зараз адбываецца ў краіне. Нам і з такім прэзыдэнтам няблага». На гэтым размовы на палітычныя тэмы звычайна заканчваюцца.

Вельмі крыўдна за адносіны некаторай часткі моладзі да роднай мовы. Хачу прывесьці такі прыклад. У каледжы, які я скончыла, было вельмі шмат дзяцей зь вёсак і малых гарадоў. І калі нехта зь іх меў беларускі акцэнт ці выпадкова прамаўляў слова па-беларуску, то менская моладзь (і ня толькі менская) пачынала кпіць, зьдзекавацца. Страшней за ўсё тое, што абражалі ў асноўным ня хлопцы, а дзяўчаты...

## *Лявон Гуменьнікаў, Менск*

***27.07.2011***

Кожны дзень уключаю прымач, і мая хата поўніцца гукамі роднае мовы з вуснаў такіх знаёмых, звыклых, амаль родных вядучых. Абсалютна ня згодны зь некаторымі слухачамі, якія тэлефануюць і вінавацяць Радыё ў хлусьні, паклёпе, нянавісьці да Беларусі ды ў іншых грахах. Я ніколі ня чуў, каб нехта з такіх слухачоў сказаў канкрэтна, што вось у такой і такой перадачы было сказана тое і тое, але гэта няпраўда, а на самой справе ўсё было так ці вось гэтак. Няма такіх прыкладаў! Дзіўна, што гэтыя людзі працягваюць глядзець на сьвет праз ружовыя акуляры. Можна, канечне, як той страўс, засунуць галаву ў пясок і рабіць выгляд, што ўсё ў нас цудоўна. Я таксама хачу, каб у нашай

краіне ўсё было цудоўна, але да гэтага спраў яшчэ столькі, што хопіць да скону жыцьця. Жадаю, каб Радыё Свабода і надалей было тым самым шчупаком, што ганяе сонных карасёў у стаячай, зялёнай, зацьвілай вадзе, і ад гэтага наша жыцьцё рабілася больш імклівым, бурлівым, цікавейшым і прыгажэйшым.

## *Пётар Дырында, вёска Хілімонаўцы, Сьвіслацкі раён*

***27.07.2011***

Я быў моцна ўражаны наступствамі нядаўніх маўклівых акцыяў пратэсту на вуліцах многіх беларускіх гарадоў, у тым ліку Горадні. Выказваю маральную падтрымку пацярпеламу ад Лукашэнкавых паслугачоў карэспандэнту Радыё Свабода, майму аднаклясьніку Міхасю Карневічу, а таксама ўсім іншым мужным людзям, незаконна схопленым і засуджаным тымі асобамі, якія пакуль што правяць баль на нашай Бацькаўшчыне.

## *Вадзім Жылко, Лунінец*

***27.07.2011***

Штовечар настройваюся на вашы хвалі, хоць апошнім часам якасьць прыёму трохі пагоршылася. Сярод улюбёных перадач (апрача навінаў, вядома) — «Праскі акцэнт», «Экспэртыза Свабоды», «Паштовая скрынка 111», «Дом літаратара» і

«Вольная студыя». Зычу ўсім супрацоўнікам здароўя і плёну ў такой няпростай і часам рызыкоўнай працы.

## *Валянціна Богуш, Менск*

***27.07.2011***

Маёй сям'і вы проста дапамагаеце жыць. Жывем мы ўдвух з мужам-інвалідам, паралізаваным пасьля трох інсультаў. Ужо 11 гадоў ён застаецца нерухомым. За гады хваробы (15 гадоў), акрамя ўрача, якога я выклікаю, ніхто ніколі з боку сацыяльных службаў яго не наведваў і нават ня ўспомніў. Нягледзячы на тое, што нібыта адзначаюцца ў краіне Дні інвалідаў, састарэлых людзей, вэтэранаў працы ды іншыя. Дарэчы, працоўны стаж у мужа — 48 гадоў.

Толькі дзякуючы Радыё Свабода і ўсім вам наша сям'я пастаянна ў курсе сучасных падзей і не адчувае сябе самотнай. Кожны вечар мы слухаем Свабоду, некаторыя перадачы — нават па некалькі разоў.

Удзень я чытаю мужу газэты («Нашу Ніву», «Народную Волю»), часопісы, а больш за ўсё — кнігі, якія атрымалі ад вас у падарунак. Слухаем свабодаўскі дыск з аўтарскім чытаньнем Васіля Быкава, песьні ў выкананьні Данчыка, Хварастоўскага ды іншых... Усё гэта дапамагае забыцца на тую турму, у якой мы апынуліся.

Калі муж сьпіць, я іду на вуліцу, дзе мяне чакаюць суседзі-пэнсіянэры. Я іх інфармую аб падзеях, якія адбыліся напярэдадні і пра якія даведалася з

эфіру Радыё Свабода і з прачытанага. Часта зачытваю вытрымкі з кніг і газэт. Мяне нават празвалі «інфарматарам». Суседзі часта прыходзяць да нас паслухаць радыё і пачытаць кнігі. Аднойчы прымач сапсаваўся. Але хутка знайшліся здольныя майстравітыя людзі, якія дапамаглі справіцца з гэтай бядой.

Кола слухачоў павялічваецца. Нават былыя «лукашысты» пачалі слухаць мае выказваньні. А падчас выбараў некаторыя зь іх прагаласавалі за Саньнікава і Някляева. Дарэчы, падчас майго імправізаванага апытаньня не знайшлося ніводнага чалавека, які б прызнаўся, што галасаваў за Лукашэнку. А кола маіх знаёмых у нашым вялікім доме даволі шырокае.

Дзяржаўнае радыё і тэлебачаньне я адключыла і пры гэтай уладзе падключаць ня буду: не хачу слухаць хлусьню ды зьнявагу беларускага народу. Вось так і жывём...

## *Марыя Кемерава, Горадня*

***14.09.2011***

Дарагія супрацоўнікі Радыё Свабода. Дзякуй, што вы ёсьць. Што б я ні рабіла, чым бы ні займалася — у 18:00 усё кідаю і сьпяшаюся ўключыць Свабоду, якая даўно стала роднай. Калісьці слухала Быкава на вашых хвалях, потым атрымала ў падарунак дыск «Доўгая дарога дадому». Дык яго паслухалі ўсе мае знаёмыя — і такім чынам слухачоў у вас дадалося... Больш за трыццаць год я з вамі. І так будзе заўсёды.

## *Тамара Kраўчук, Камянец*

***21.09.2011***

Гэта было на пачатку 50-х гадоў. Мне тады было гадоў сем ці восем. Да нас у хату прыходзілі бацькавы сябры. Маці накрывала на маленькі столік — нібыта госьці. Але мужчыны сядалі не за стол, а слухалі радыё. У нас была вялікая радыёла: можа, трафэйная, а можа, немцы пакінулі. А магчыма, яшчэ зь Белавежы, дзе да вайны жылі мае родныя. У таты былі мянушкі «Балаховец» і «Палітыкан». Што праўда, ён у рэальнасьці быў і тым, і другім.

Дык вось, калі ў хаце пачыналі слухаць радыё, мяне з маёй крыху старэйшай за мяне сястрой выпраўлялі на вуліцу — пільнаваць, ці ня йдзе да нас хто чужы. Калі мы бачылі незнаёмага чалавека, то павінны былі стукаць у вакно.

Мяне тады ахоплівала такое дзівоснае пачуцьцё таямніцы! Мы адчувалі, што дапамагаем у нейкай патаемнай важнай справе. Толькі дарослай я зразумела, што мой бацька і ягоныя сябры слухалі тады заходнія радыёстанцыі — Свабоду, «Голас Амэрыкі», Бі-Бі-Сі.

На жаль, тата рана памёр: мне было толькі 9 гадоў, а яму — 59. Мінулі цяжкое дзяцінства, школа. І настаў час, калі я сама стала слухаць тыя ж радыёстанцыі. Як я цяпер разумею свайго бацьку, прыкладаючы вуха да старэнькага прымача, каб пачуць родны голас беларускай Свабоды!

У савецкія часы я, назьбіраўшы за год грошай, пабывала па турыстычных пуцёўках у некалькіх краінах Эўропы. Бачыла, як адпачываюць старыя немцы на ўлоньні прыроды ў Саксоніі, прыехаўшы

ў дамы адпачынку на ўласных «Трабантах». І думала пра няшчасную долю нашых пэнсіянэраў...

А потым разваліўся Савецкі Саюз. Якое цудоўнае тады было адчуваньне — колькі надзей і чаканьняў! Я была так узрушана, нібы мне падарылі нешта такое, пра што я марыла ўсё сваё жыцьцё і займець што дагэтуль не было ніякай надзеі. Гэта было так, нібы я ўсё папярэдняе жыцьцё была ў клетцы — а тут раптам мяне выпусьцілі на волю! Вось пра што марыў мой бацька!

Але нядоўга мы цешыліся... Вельмі шкада. Мне ўжо за 60. Няўжо Свабоду я буду толькі слухаць? Няўжо мне не наканавана пажыць ва ўмовах свабоднай дэмакратычнай краіны?

## *Генадзь Маркоўскі, Маладэчна*

***21.09.2011***

Слухаю вас не адзін дзясятак гадоў. Вельмі рады, што ў сваіх перадачах вы закранаеце ўсе пытаньні, якія хвалююць кожнага жыхара, які па-сапраўднаму любіць сваю краіну і мову, цэніць незалежнасьць. Вы даносіце да слухача ўсё тое, што немагчыма пачуць на іншых хвалях.

А турбуе мяне адна праблема. Вось я ведаю, што некаторым слухачам вы прэзэнтуеце за званкі караткахвалевыя прымачы. Хачу запытацца: а ці нельга было б набыць у вас такі прымач за грошы? Справа ў тым, што мой прымач вельмі стары — «ВЭФ-202» савецкай вытворчасьці. Ён, напэўна, ужо адпрацаваў сваё: рамантаваць яго ў

майстэрні не бяруцца. Слухаць па ім перадачы на кароткіх хвалях вельмі складана. А набыць новы прымач няма дзе.

## *Валеры Лебядкоў, Менск*

***28.09.2011***

Слухаю Свабоду вельмі даўно. Дзякуй за тое, што вы ёсьць. Праца ваша вельмі цяжкая, асабліва ў нашай дзяржаве. Мы, слухачы, гэта цэнім і любім вас.

## *Тамара Маханёк, Менск*

***28.09.2011***

Зь вялікай цікавасьцю слухаю ўсе вашы перадачы. А зараз зь нецярплівасьцю чакаю кожнае чытаньне вашым аўтарам Аляксандрам Лукашуком ягонай кнігі «Сьлед матылька. Освальд у Менску». З радасьцю даведалася, што неўзабаве гэтыя тэксты можна будзе ўбачыць у выглядзе кнігі.

## *Людміла Цярэшка, Горадня*

***28.09.2011***

Даўно слухаю Беларускую Свабоду — практычна кожны дзень. Вельмі ўдзячна супрацоўнікам вашага радыё за магчымасьць атрымліваць праўдзівую інфармацыю пра наша жыцьцё. І мае сёстры заўсёды цікавяцца, што гаварыла пра тую ці іншую важную падзею Радыё Свабода.

## *Яўгенія Карцава, Віцебск*

***12.10.2011***

Я — пэнсіянэрка, хутка 78 год. На радзіму вярнулася ў 81-м годзе — вось ужо тры дзесяцігодзьдзі таму. А перайсьці на родную мову ніяк не атрымліваецца. Дый зносіны ў мяне — толькі з кнігамі. Выходзіць, жыву дагэтуль у XX стагодзьдзі. Шыю, вяжу. Ёсьць для каго: маю пяцёх унукаў — ад 17 да 30 год. Слухаю Свабоду, чытаю беларускія кнігі, газэты «Народная Воля» і «Наша Ніва». Дапамагаю ўнукам.

Я ў курсе ўсіх тых абуральных падзеяў — арыштаў, перасьледу, зьдзеку з палітвязьняў — якія маюць месца сёньня ў Беларусі. Шкада, што сама ўжо нічым у гэтай справе дапамагчы моладзі не магу. Але вельмі хочацца дажыць да таго часу, калі над Беларусьсю будуць лунаць бел-чырвона-белы сьцяг і герб «Пагоня».

## *Сяргей Карабач, Вільня, Літва*

***12.10.2011***

Радыё Свабода (а раней, калі не памыляюся, Радыё Вызваленьне) я слухаю з 60-х гадоў мінулага стагодзьдзя. Тады рабіць гэта было вельмі складана: глушылі вас бесьперапынна. Нягледзячы на гэта, многія цікавыя перадачы даходзілі да слухача. Асабліва запомніліся выступы на гістарычныя тэмы Язэпа Барэйкі. Усе актуальныя палітычныя і грамадзкія тэмы асьвятляліся з глыбокім беларускім патрыятызмам. Такі ж падыход (і нават у значна большай ступені) культывуецца і цяпер. Дзякуй вам за гэта.

## *Сяргей Балбасаў, вёска Старая Буда, Буда-Кашалёўскі раён*

***26.10.2011***

Па-ранейшаму слухаю вашы перадачы. Асабліва ў гэтым годзе, калі ў краіне не зусім стабільная сытуацыя — як эканамічная, так і палітычная. Шчыра скажу: слухаю і некаторыя праекты беларускага дзяржаўнага радыё — але толькі дзеля таго, каб потым параўнаць з вашымі. На падставе супастаўленьня магу сказаць: аб’ектыўная, дакладная інфармацыя падаецца менавіта недзяржаўнымі мэдыямі. Але я ні ў якім разе не асуджаю журналістаў Беларускага радыё, таму

што выдатна разумею, пад якім ціскам «зьверху» ім даводзіцца працаваць.

Што да маіх улюбёных праектаў Радыё Свабода, то гэта па-ранейшаму «Паштовая скрынка 111», «Праскі акцэнт», «Дом літаратара». Але падабаюцца мне і іншыя — «Экспэртыза Свабоды», «Званочкі», «Свабода ў турмах». Хацеў бы выказаць удзячнасьць вашым супрацоўнікам: Валянціну Жданко, Юрыю Дракахрусту, Юрасю Бушлякову, Віталю Цыганкову, Алене Радкевіч, Алене Ціхановіч, Яну Максімюку, Зьмітру Бартосіку і ўсім астатнім. Спадзяюся, што і надалей Свабода застанецца аб'ектыўным сродкам інфармацыі, і ня толькі ў Беларусі.

## *Аляксандар Лешык, Баранавічы*

***16.11.2011***

Радыё Свабода я слухаю ад 19 сьнежня мінулага году пастаянна. Удзячны вам, што вы ня толькі служыце праўдзе, але яшчэ і дапамагаеце Аляксандру Лукашэнку лепш за ўсіх ягоных чыноўнікаў. Яны ж хлусяць на кожным кроку, прыхарошваюць, прыгладжваюць рэчаіснасьць. Карацей, загрузьлі ў хлусьні і толькі хваляць адны адных. Ад каго яшчэ Лукашэнка можа пачуць праўду пра тое, што сапраўды дзеецца ў ягонай краіне?

Родам я зь вёскі Трацьцякоўцы Ляхавіцкага раёну. Там прайшло дзяцінства. Успамінаю, якой маляўнічай была тады прырода: усё ў кветках, паўсюль птушыны гоман. Вёскі шматлюдныя. Усе

працавалі, у вольны час весяліліся, песьні сьпявалі. Паехаў туды нядаўна: убачыў абязьлюдзелую, нежывую вёску. Адна кароўка на ўсё паселішча. Дый той гаспадар, што яе трымае, сам ледзь ходзіць...

Асабіста мне сьмешна слухаць, як улада хваліцца тым, што нібыта адрадзіла вёску. Паказваюць па тэлебачаньні, як усё наўкол апрацоўваецца, людзі завіхаюцца, косяць сена, асушаюць балоты... Паважаныя, паедзьце на вёску! Усё зарастае, ніхто і касой не ўзмахне... Мала таго, што гэтая ўлада дарэшты дамалацiла калгасы, дык цяпер яшчэ навязвае іх, як хамут на шыю, прамысловым прадпрыемствам. Пасылаюць людзей за 50 кіляметраў, адрываюць ад працы, марнуюць грошы... Каму патрэбны гэтыя паказуха і марнатраўства?

## *Мікалай Кісялёў, вёска Казлы, Дубровенскі раён*

***16.11.2011***

Дзякуй вам за перадачы. Бываюць дні, калі праграма Свабоды — адзінае сьветлае, што здараецца за гэты час у жыцьці. Слухаю, аналізую, разважаю. Люблю «Званочкі», літаратурныя праграмы. А калі хоць дзень не паслухаеш вас — то і ня ведаеш, што на сьвеце робіцца.

## *Анатоль Чачотка, Менск*

***16.11.2011***

У адказ на сваю просьбу атрымаў ад вас кнігу Аляксандра Лукашука «Сьлед матылька. Освальд у Менску». Вялікі дзякуй. Я і раней слухаў урыўкі з гэтай кнігі па Радыё Свабода. Аднак з-за тэхнічных перашкодаў ня ўсё ўспрымалася належным чынам. З тым большай асалодай чытаў кнігу. Напісаная рукой майстра, цудоўнай роднай мовай, з выкарыстаньнем найцікавейшых фактаў — яна выклікае толькі захапленьне.

## *Васіль Завадзкі, Маладэчна*

***07.12.2011***

Радыё Свабода ў маёй хаце гучыць штодня. Вельмі прыемна і радасна слухаць вас. Гэта ўсё роўна што пасьля лазьні выпіць кілішак гарэлкі: і сьветла, і весела, і радасна... Асабіста сярод сваіх знаёмых я ведаю яшчэ прынамсі шасьцёх, якія таксама слухаюць Свабоду...

## *Васіль Здановіч, Горадня*

***14.12.2011***

Вялікі дзякуй за вашу працу, якая многім у Беларусі вельмі патрэбна. Жадаю Радыё Свабода як найдаўжэй заставацца ў эфіры на кароткіх хвалях. Гэта вельмі зручна, асабліва ў сельскай мясцовасьці і для людзей старэйшага ўзросту. Асабіста я слухаю Беларускую Свабоду з 1983 году. Не забывайце пра нас — мы яшчэ жывыя.

# 2012

*«А тут яшчэ жонка мармыча пад вухам: “Не пішы на Свабоду! Дапішасься!”»*

## *Віталь Бажко, вёска Даманава, Івацэвіцкі раён*

***04.01.2012***

Вашы карэспандэнты Зьміцер Бартосік, Віталь Сямашка, а таксама зрэдку Ягор Маёрчык у асноўным бываюць у Менскай, Магілёўскай, Гомельскай і Віцебскай абласьцях. А вось на Гарадзеншчыну ды Берасьцейшчыну выяжджалі толькі некалькі разоў — наколькі я памятаю, у Жабінкаўскі, Драгічынскі ды Баранавіцкі раёны. Пабывайце, калі ласка, у нас у Івацэвіцкім раёне. Паверце, тут нямала людзей, якія вас пастаянна слухаюць і актыўна цікавяцца праўдзівымі навінамі. Асабіста мне Беларуская Свабода вельмі падабаецца. І я, і мае аднадумцы вельмі б хацелі паразмаўляць з вамі асабіста і ўбачыць журналістаў Свабоды ў нашых краях.

## *Мікалай Волчык, вёска Зіновічы, Пружанскі раён*

***11.01.2012***

Я штодня настройваю свой прымач на хвалі Свабоды. Адзначу, што прыём сыгналу ў розныя гадзіны ўстойлівы, на 4 і 5 па пяцібальнай шкале.

Разнастайнасьць, інфарматыўнасьць, прафэсіяналізм пададзеных матэрыялаў — вось чым вызначаецца Беларуская Свабода. Шчырая вам падзяка за гэта ад сталага слухача.

## *Вераніка Трызна, Ашмяны*

***18.01.2012***

Крыху больш як год мінуў з таго часу, калі я ўпершыню пачула ў эфіры Свабоды галасы гэтых змагароў за праўду. Здавалася, сам Бог наш Хрыстос сыходзіў з крыжа, садзіўся поруч зь людзьмі, усьміхаўся і дзівіўся вашай сьмеласьці. А цяпер Хрыстос нараджаецца ў вашых сэрцах — калі вы так мужна пераносіце нягоды турэмнага жыцьця за іншых людзей, за будучыню Айчыны. Успомніце, як прыгожа гаварыў Янка Купала: «За мной праўда і народ мой». Гэтак жа вы можаце сказаць і пра сябе. Няхай жа гэтыя словы дададуць вам мужнасьці, вытрымкі, упэўненасьці.

Моцна спачуваю тым, хто ў няволі, хоць зусім ні ў чым не вінаваты. Іх кінулі ў турму за тое, што яны хацелі лепшага жыцьця для беларускага народу. Кожны дзень малюся за іх, прашу ў Бога здароўя, мужнасьці і Божага блаславеньня для гэтых адважных людзей.

## *Марыя Разуваева, Менск*

***18.01.2012***

Выпадкова даведалася, што рэдакцыя Радыё Свабода сваю ўзнагароду за творчыя дасягненьні перадала сем'ям палітзьняволеных. Гэта — учынак, які робіць гонар любому чалавеку. Тым больш у наш час, калі ўлады могуць сфальшаваць факты, хлусіць, падманваць, шкодзіць — дзеля таго каб пасадзіць у вязьніцу сваіх палітычных апанэнтаў і рабіць іншыя нядобрыя справы... А гэтыя людзі сядзяць менавіта за перакананьні. Яны — ня злодзеі, не махляры, не забойцы. Проста жадаюць лепшай долі свайму народу, роднай Бацькаўшчыне. Так хочацца, каб яны як мага хутчэй выйшлі на свабоду. Толькі тады, калі мы не ў адзіноце, не разьяднаныя — мы можам перамагчы.

## *Мікалай Хільтоў, Менск*

***08.02.2012***

Вельмі хацелася б, каб Радыё Свабода паведаміла Паўлу Севярынцу ці ягоным бацькам (адрасоў я, на жаль, ня ведаю), што я асабіста прасіў спадара Мясьніковіча адпусьціць Паўла напярэдадні Новага году з «хіміі» дахаты, каб ён мог адведаць родных. Цяпер ужо вядома, што мая просьба была выканана часткова. Але і гэта добра. Я быў вельмі ўзрушаны, калі неяк размаўляў з Паўлам каля Камароўкі. На разьвітаньне моцна пацісну яму руку.

Такая сіла духу, такі тэмпэрамэнт, відаць, толькі ў Зянона Станіслававіча Пазьняка — нашага апостала, за якім не гатовы быў пайсьці народ, задурманены бальшавіцкім мінулым і камуністычнай ідэалёгіяй.

Зьвяртаюся таксама на Радыё Свабода з просьбай. Вельмі прыемна і цікава было слухаць перадачы пра нашага славутага сьпевака Данчыка. Можа, у вас захавалася якая-небудзь магнітафонная касэта з запісамі песень Данчыка. Менавіта касэта, а ня дыск. Справа ў тым, што я ўжо стары чалавек. Новую тэхніку пры цяперашніх нашых пэнсіях дазволіць сабе не магу, а вось старэнькі касэтны магнітафон маю.

Вы, журналісты Свабоды — таксама як і Новік-Пяюн — змагары за вольную, свабодную Беларусь. Нам усім яшчэ вельмі далёка да яе. Занадта мы талерантныя, цярплівыя, дзе трэба і дзе ня трэба кіруемся прынцыпам «Мая хата з краю…»

І ўсё ж хочацца верыць, што калі-небудзь настане час, калі мы, слухачы Свабоды, сустрэнемся з вамі, як калісьці бесьперашкодна сустракаліся ў цэнтры Менску ў Доме літаратара. Дзякуй за вялікую справу, якую вы робіце для Беларусі.

## *Сьвятлана Яўсьцігнеева, Менск*

***07.03.2012***

Той, хто піша на Свабоду ды скардзіцца на няшчаснае жыцьцё, нічога ня бачыць, акрамя ўласнай пустой кішэні ды каўбасы па 100 тысяч... Яны, дарэчы, і размаўляць па-беларуску ня ўме-

юць: я ж чую, што яны гавораць у сваіх званках на Свабоду.

Я ўжо немаладая жанчына. Але вельмі хачу дачакацца хакейнага чэмпіянату, які пройдзе ў нас у Менску ў 2014 годзе. Чаму вы хочаце пазбавіць нашых людзей такой радасьці? Чаму гэтыя апазыцыйныя скаржнікі наклікаюць санкцыі на свой народ? (Маю на ўвазе Шушкевіча, Міхалевіча ды іншых.)

Тры гады Свабода крычала: «Свабоду Казуліну!» Цяпер вось Статкевіч, Саньнікаў ды яшчэ некалькі чалавек бунтуюць увесь сьвет... А што яны зрабілі для радзімы? Чаму жонкі былых кандыдатаў у прэзыдэнты нідзе не працуюць, а толькі пішуць?

Дзякуй нашаму Аляксандру Рыгоравічу, што ён так стараецца зрабіць наша жыцьцё лепшым.

Думаю, што гэты ліст вы ў эфіры не агучыце. Але ведайце, што народ «бээнэфаўцаў» ня любіць і галасаваць за іх ня будзе.

## *Яўген Козьлікаў, Магілёў*

***11.04.2012***

Ну і што гэта была за акцыя апазыцыі? Сорамна глядзець. Дзе вы назьбіралі гэтых дзяцей? У Маскве на Балотнай плошчы было відаць, што прыйшлі сталыя, сур'ёзныя людзі. А ў вас? Бачыў я на Беларускім тэлебачаньні: жменька нейкіх падшыванцаў. Ну што, адрабілі заплочаныя Захадам грошы? А вашы апазыцыйныя начальнікі? Якія страшэнныя ў іх твары, калі глядзіш па тэлевізары…

Вось цяпер паднялі шум вакол расстрэлу тэрарыстаў Канавалава і Кавалёва. А што зь імі цацкацца? Шкада, што ніхто з вашых бээнэфаўцаў ня трапіў у гэты тэракт — нябось, тады б па-іншаму загаварылі.

Увогуле, што за людзі вам тэлефануюць? Вось нейкі ўсё асуджае хлопцаў, якія гуляюць у хакей. Адчуваецца, што тупы і хамаваты. Ці быў ён хоць раз у тэатры, кіно? І ці ёсьць сярод выступоўцаў, якія тэлефануюць вам на Свабоду, хоць адзін інтэлігент? Усе пакідалі свае вёскі, пераехалі ў горад, але, як кажуць у народзе, колькі б гусь ні крычала — лебедзем ня стане.

Хачу ўсім вам параіць словамі Маякоўскага: «Паэтам можаш ты ня быць, грамадзянінам — абавязан». А таму — не чапайце Лукашэнку, вы ягоных пятак ня вартыя. Што вы можаце зрабіць, акрамя балбатні?

## *Мікалай Бусел, вёска Пружынішчы, Акцябрскі раён*

***09.05.2012***

Доўгі час раздражняла ваша зацыкленасьць на «як бы тэме» «Рэвалюцыі праз сацыяльную сетку». Спадар Дракахруст расчараваны; іншыя счэзьлі ад марнага прадчуваньня вялікіх родаў. І гэта маніякальна, з дня ў дзень гучала ў вас значную частку мінулага году.

Увогуле, у вас адбылося рэзкае звужэньне актуальнай тэматыкі. Працоўныя пастаўленыя ва

ўмовы 19-га стагодзьдзя, пасаджаныя на нізкаякасныя кантракты; заробкі мізэрныя; начальніцкі садызм — норма кіраваньня; вымагальніцкія суботнікі мардуюць народ — а ў вас маўчаньне.

Мэдыцына на падлозе, у адукацыі зьдзек з настаўнікаў і маразм гэтак званага «выхаваньня» — вы гэтага ня бачыце. У вас не выступаюць студэнты — нібы іх і зусім няма.

У вёсцы — жудасны, катастрафічны стан, народ вымірае, аграмястэчкі — міраж, — вам гэта ня тэма.

Наш верхавод — гэта проста варыянт боса «Каморы» з Нэапаля — але ўсе гідзяцца назваць рэчы па сапраўдным імені...

Палітычныя партыі — дзіркі ад абаранка: маўчаньне.

Зацыкліліся на Маскве, быццам на ёй сьвет клінам сышоўся. І ня кажаце, што гэта — бязладная, а-цывілізаваная краіна. І гэтых вашых маскоўска-беларускіх камэнтароў я ня слухаю.

Вы скажаце, што не пазьбягаеце названых тэмаў? Гэта праўда. Але тое, ЯК вы гэта трактуеце — дык гэта проста нейкая прадукцыя Галоўнай ідэалягічнай управы з Драздоў.

У краіне фашыстоўскі рэжым (ну, ці назавіце яго камуністычным — розьніцы ніякай) — але ж вы пра гэта паліткарэктна маўчыце...

## *Мікалай Хільтоў, Менск*

***09.05.2012***

Надта вы там на Свабодзе наіўныя. Асабіста я ўпэўнены, што ваша радыё глушаць, як і ў савецкія часы. І робяць гэта ўлады Беларусі. Чаму я так лічу? Бо заўважыў: «забіваюцца» найбольш цікавыя і вострыя моманты — асабліва пасьля мітынгаў ды іншых масавых акцыяў пратэсту. Ніхто тут, акрамя ўладаў, ня ўмешваецца: гэта толькі ім патрэбна. А досьвед у іх ёсьць. Успомніце, як за камуністамі мы вымушаны былі праз гул і траскатню лавіць хвалі той жа Свабоды ці «Голасу Амэрыкі», Бі-Бі-Сі. Пры Гарбачову гэты кашмар, на шчасьце, скончыўся... А цяпер што можа стрымліваць нашага ўладара? Праўда, Беларусь далучылася да Хэльсынскіх пагадненьняў. Але што яму гэты акт?.. Дарэчы, адзначу, што кітайскія радыёстанцыі, у адрозьненьне ад Свабоды, у Беларусі чуваць вельмі добра.

## *Вольга Кацянкова, Менск*

***16.05.2012***

Вашы запрашэньні ісьці на якія б там ні было «выбары» — самая вялікая шкода для Беларусі. Толькі байкот такіх «выбараў» — прычым без усялякіх вылучэньняў кандыдатаў і абяцаньняў зьняць гэтыя кандыдатуры перад галасаваньнем. І ніякіх хітрыкаў дзеля таннага піяру — каб заявіць пра сябе і атрымаць у далейшым гранты. Выбарчыя ўчасткі павінны быць бязьлюдныя — толькі гэта

павінны фіксаваць назіральнікі. Нельга дапусьціць, каб выбары адбыліся. Шматразовы ўдзел так званай апазыцыі ў выбарчых кампаніях заўсёды ішоў толькі на карысьць уладзе.

У гэтай сувязі я не пагаджаюся з палітыкай Радыё Свабода. На мой погляд, гэта ня тая Свабода, якая патрэбна сучаснай Беларусі. Ужо відавочна, да чаго прывёў эўрапейскі лібэралізм у дзяржавах Эўропы. Прыслугоўваць «і вашым, і нашым» — не на карысьць справе адраджэньня і незалежнасьці Беларусі. Дарэчы, у Расеі таксама прапагандуецца гэты заходні лібэралізм. Ну і якія вынікі?

Асабіста я — прыхільніца кансэрватыўных, прынцыповых падыходаў да справы адраджэньня. І я б хацела слухаць такое Радыё Свабода, якое б дапамагала прывесьці да станоўчых зьменаў, а не да таптаньня на месцы. Колькі ўжо можна наступаць на адны і тыя ж граблі?

## *Анатоль Чачотка, Менск*

***16.05.2012***

Па-ранейшаму шчыміць сэрца ад тых ганебных падзей і зьяў, якія ўласьцівыя сёньняшняй беларускай вёсцы і пра якія так па-майстэрску расказваюць у «Падарожжах Свабоды» Віталь Сямашка і Зьміцер Бартосік. Грэюць душу «Званочкі». Сьмеласьці некаторых слухачоў можна толькі пазайздросьціць.

Па серадах не прамінаю паслухаць агляд лістоў слухачоў, які робіць Валянцін Жданко. Часам здаецца, што яны пішуцца крывёю людзей. І вельмі

шкада, што ўлады не прымаюць належных мер, каб выправіць той жудасны стан, які склаўся ў многіх галінах — і ў мэдыцыне, і ў лёсе старых людзей, і ў тым, што неверагодна высокія цэны на самыя простыя і неабходныя рэчы прывялі да масавага зьбядненьня большасьці насельніцтва. Напрыклад, у нашым пад'езьдзе жыве жанчына, якая больш як 40 гадоў адпрацавала машыністкай у адной самавітай арганізацыі. У сувязі з тым, што ў камуністычныя часы зарплаты ў машыністак былі невялікія, яе пэнсія цяпер складае недзе каля 700 тысяч рублёў. Ну як можна жыць на такія грошы?

Добра, што Свабода пра ўсё гэта расказвае. Увогуле, няма таго дня, каб ня слухаў вашы зьместоўныя, цікавыя і вельмі патрэбныя перадачы. Бязь іх у сучаснай беларускай рэчаіснасьці існаваць было б проста праблематычна.

## *Мікола Лавіцкі, Менск*

***16.05.2012***

Немагчыма пераацаніць тое, што робіць рэдакцыя Беларускай Свабоды. Асабліва ўражвае тое, што, акрамя радыёперадач, вы яшчэ выдаяце і цудоўныя кнігі. Віншую і дзякую вам за гэта.

Вельмі ўдзячны за архіўныя радыёперадачы. Хацелася б пачуць хоць калі незабыўны голас Язэпа Барэйкі, які абуджаў маю сьвядомасьць як беларуса.

Слухаю вас зь вялікім задавальненьнем праз спадарожнік — і ня толькі раніцай і адвечарку, а

калі выпадае. Балазе, цяпер трансьляцыя вядзецца ўвесь дзень: гэта выдатна.

Дзякуй вам за тое, што не забываеце тых, хто самаадданa змагаўся за нашу незалежнасьць.

Ёсьць і заўвага. На маю думку, трэба даваць некаторы камэнтар пасьля званкоў, якія не адпавядаюць рэчаіснасьці. Ну, альбо зьбіраць такія званкі ў асобны блёк з адпаведным камэнтаром каго-небудзь з палітыкаў, гісторыкаў, навукоўцаў.

## *Генадзь Агафонаў, Віцебск*

***16.05.2012***

Ужо гадоў дзесяць, як цікаўлюся і захапляюся вашай працай. Імкнуся сачыць за тымі навінкамі, якія вы рыхтуеце і прапануеце сваім слухачам. Зь нецярпеньнем чакаю новыя кнігі зь Бібліятэкі Свабоды.

## *Людміла Сіняўская, Менск*

***16.05.2012***

Кожны дзень ад 18-й да 22-й гадзіны гучыць у маёй хаце голас Свабоды. Слухаю амаль усіх. Гэта дапамагае жыць і верыць у лепшую будучыню Беларусі.

## *Вольга Гарбатава, Віцебск*

***30.05.2012***

У вашай працы мяне ўсё задавальняе. На Свабодзе вельмі адукаваныя, прафэсійна падрыхтаваныя людзі. Мы ўсёй сям’ёй слухаем вас дзясяткі гадоў. Дасюль памятаю перадачы 90-х гадоў — пераломных для незалежнасьці Беларусі. Памятаем вялікага беларуса Васіля Быкава: цяпер па Свабодзе ідзе паўтор ягоных перадач з 1996 году. Гэта вельмі добра і правільна.

Пазнаём вас усіх па галасах: і Алену Радкевіч, і Алену Ціхановіч, і Вячаслава Ракіцкага, і Яна Максімюка, і Аляксандра Лукашука, і майго земляка Міхася Скоблу — усіх не пералічыць. Вы мне — як родныя. Хай гучаць вашы галасы доўга! Хай сьпявае Данчык!

І паўторы, за якія вас некаторыя крытыкуюць, рабіць трэба. Слухаем з задавальненьнем. Слухаем — і маем надзею дажыць да свабоды. І мы самі таксама пастараемся быць на належным узроўні. Без Свабоды нам проста немагчыма.

## *Тацяна Ўмрэйка, Менск*

***13.06.2012***

Я — сталая аматарка Радыё Свабода: слухаю яго ўжо больш за 35 год. Гэтак жа, як і мае родныя. Падтрымліваю ўсё, што так ці інакш зьвязана з нацыянальным адраджэньнем Беларусі. Мару і чакаю яе вяртаньня ў спрадвечную сям’ю вольных

эўрапейскіх народаў, бо толькі там — роўныя з роўнымі — мы будзем пачуваць сябе сапраўднай нацыяй ды гаспадарамі ўласнай зямлі. Веру, што больш як 200 гадоў каляніяльнага рэжыму ня вынішчылі дарэшты годнасьць ды сьвядомасьць нашых людзей і беларусы засталіся беларусамі, а не «улучшенным вариантом русского народа» — як бы таго ні хацелася шмат каму.

Для мяне ваша радыё — гэта акенца ў нармальны, цывілізаваны сьвет, крынічка роднае мовы, сувязь і еднасьць з братнімі народамі Ўсходняй Эўропы — украінцамі, палякамі, латышамі, чэхамі, славакамі, венграмі. Мне вельмі падабаюцца перадачы з гісторыі Беларусі, успаміны дзеячаў адраджэньня канца 80-х гадоў (часта ўзгадваю той незабыўны час, асабліва прамовы Зянона Пазьняка на мітынгах і ў Вярхоўным Савеце), палітычныя камэнтары аглядальнікаў ды аналітыкаў.

## *Іван Канавалаў, Менск*

***13.06.2012***

Як і раней, слухаю вас і асаблівую ўвагу зьвяртаю на аналітычныя перадачы. Прашу спадара Карбалевіча падрыхтаваць праграму на наступную тэму: як адаб'ецца на стане эканомікі Беларусі і ўзроўні жыцьця насельніцтва давядзеньне ўнутраных коштаў у Расеі на газ, нафту, мэталы ды іншае да ўсясьветнага ўзроўню? Ведаю, што ў выніку гэтага кошты для Беларусі ўзрастуць прыкладна ў тры разы.

Галоўнае, што спатрэбіцца ўдакладніць: на колькі гадоў Усясьветная гандлёвая арганізацыя

пагодзіцца даць адтэрміноўку Расеі на ўвядзеньне такіх коштаў?

Магчыма, для падрыхтоўкі такой перадачы спатрэбіцца нямала часу. Але я ў любым разе зь нецярпеньнем буду чакаць яе.

## *Аляксей Каралёў-Новікаў, вёска Нумітава, Наваградзкі раён*

***13.06.2012***

*Хваля Свабоды*
*Душу натхняе!*
*На хвалі Свабоды*
*Маё сэрца замірае!*

## *Юры Насевіч, Баранавічы*

***13.06.2012***

Вашы праграмы цікавыя і ва ўсім мяне задавальняюць. Часта і з задавальненьнем слухаю «Праскі акцэнт». А асабліва цікавыя інтэрвію вашых карэспандэнтаў, узятыя на вуліцах розных гарадоў Беларусі. Гэта вельмі важна — ведаць, што думаюць простыя людзі, іхныя меркаваньні пра найбольш значныя грамадзкія праблемы. Таксама надзвычай прыемна бачыць вас усіх на тэлеканале «Белсат», даведацца ваш пункт гледжаньня наконт пытаньняў, якія ўсіх хвалююць.

## *Валеры Нікалюк, Ліда*

***20.06.2012***

Каляндарыкі Свабоды я раздаваў на працы: усе калегі прынялі іх з удзячнасьцю. Дырэктар нашай установы таксама ведае, што я ў апазыцыі да ўлады. Але, каб не падстаўляць добрага чалавека, яму я каляндарык не прапаноўваў.

Як чалавек дасьведчаны, ён і сам усё разумее. Тым больш што інтэрнэт цяпер ёсьць ці ня ў кожным доме. Дый ці я адзін у апазыцыі да такой улады? У сябе на працы я ня ведаю ніводнага, хто б падтрымліваў гэты рэжым. Большасьць суседзяў таксама ўсё разумее. Але разуменьнем, што праўда, усё і абмяжоўваецца. Пабубняць, памармычуць сабе пад нос пасьля чарговага падвышэньня коштаў — і ідуць далей працаваць. Што зрабіла іх абыякавымі да лёсу краіны і мовы, да сваіх спрадвечных сьцяга і герба? Цяжка сказаць. Прычынаў тут, мусіць, многа. Няма ў іх гонару за тое, што яны — беларусы. Бацькі ім гэтага не прышчапілі, дый бацькі бацькоў — таксама. Вось чаму і ня хочуць аддаваць сваіх дзяцей у беларускамоўныя клясы. Мажліва, і не ўсьведамляючы гэтага, робяць сваім дзецям толькі горш. Крок улева, крок управа баяцца зрабіць без дазволу — абы патрафіць начальству. Занятыя паўсядзённай працай, ня бачаць і ня хочуць бачыць далей за свае «соткі». Людзі проста прызвычаіліся быць рабамі, і сёй-той нават няблага пачуваецца ў такой ролі. Зрэшты, усё гэта ня раз ужо было сказана па Свабодзе, і няма сэнсу паўтарацца.

На шчасьце, ёсьць у Беларусі людзі, неабыякавыя да лёсу краіны. Дзень пры дні яны робяць сваю справу на карысьць Бацькаўшчыны. І мы ўсе павінны рабіць тое, што можам. Як казаў Талстой, «делай что должно, и будь что будет».

## *Барыс Забалотнік, Менск*

***27.06.2012***

Дзякуй за вашы каляндарыкі, якія, праўда, мне вельмі не падабаюцца за сваё мастацкае выкананьне. Пра гэта я ўжо некалі пісаў, цяпер пішу зноўку. Вы шмат губляеце ад гэтага недахопу. Шмат!

Каб людзям было цікава, каб на каляндарыкі вялося паляваньне, трэ разьмяшчаць на іх зусім іншыя выявы — напрыклад, фатаздымкі ці малюнкі храмаў, сабораў, касьцёлаў, уніяцкіх сьвятыняў... Словам, архітэктурныя помнікі.

Можна і карціны, але сюжэты павінны быць іншымі. Напрыклад, такі: Сталін ляжыць у труне з кветкамі, а левае вока яго расплюшчана і злосна пазірае на вас. Вось гэта быў бы твор!

Ці іншая карціна. Пачак «Беламорканалу» (гэта папяросы такія — савецкія) ляжыць на стале, а ў яго заходзіць калёнай вялізны натоўп вязьняў ГУЛАГу... Я б такое ўтварыў з гэтымі каляндарыкамі...

## *Віктар Лісоўскі, Менск*

***27.06.2012***

Капэрта зь лістом са Свабоды была нахабна растрыбушаная. Беларускае гестапа не саромеецца, дае зразумець, што ўсё пад кантролем. На шчасьце, каляндарыкі да мяне дайшлі.

## *Віктар Макарэвіч, вёска Няровы, Валожынскі раён*

***27.06.2012***

Ліст са Свабоды, у якім вы пішаце, што высылаеце каляндарыкі, я атрымаў, але ў капэрце нічога не аказалася. Значыць, ліст быў кімсьці правераны. Я ўдакладняў на мясцовай пошце: там кажуць, што нічога падобнага не рабілі.

## *Аляксандар Лешык, Баранавічы*

***04.07.2012***

Паехаў я нядаўна на сваю радзіму, у вёску Трацьцякоўцы Ляхавіцкага раёну. Пайшоў у царкву, разгаварыўся зь мясцовымі людзьмі. Дык яны прасілі: напішы на Свабоду пра тое, як мы пакутуем ад новага сьвінакомплексу, што пабудавалі ў вёсцы Востраў. Такі смурод ад яго — дыхнуць нельга. Асабліва калі вецер у бок вёскі. Пабудавалі яго, каб

карміць Маскву. А пра сваіх людзей ніхто ня думае. Насельніцтва піша заявы, скардзіцца — а ў адказ ніхто ні мур-мур: на бяду людзей не зьвяртаюць ніякай увагі. І сапраўды, я сам пераканаўся: нават на адлегласьці 2–3 кілямэтры гэта такая сьмярдзючка, што не пераказаць словамі. Такая вось тэхналёгія гноевыдаленьня…

## *Тамара Маханёк, Менск*

***11.07.2012***

Кожны дзень чакаю вечара, каб слухаць Беларускую Свабоду — даведацца, што новага адбылося ў сьвеце і ў Беларусі. Слухаю ўсе перадачы, і ўсе пасвойму цікавыя.

Вы, журналісты Свабоды, даносіце да народу праўду, змагаецеся за беларускую Беларусь, за дэмакратыю, распавядаеце пра гісторыю Бацькаўшчыны, пра неабыякавых людзей, цікавыя мясьціны і падзеі.

Пахвальна, што выходзяць у сьвет друкаваныя выданьні Свабоды. Я таксама маю некалькі кніг зь Бібліятэкі Свабоды, каторыя час ад часу перачытваю з задавальненьнем і даю чытаць сваім знаёмым.

## *Ігнат Петручук, Менск*

***18.07.2012***

Дасланыя вамі рэклямныя каляндарыкі Свабоды распаўсюджваў у асноўным сярод моладзі — з надзеяй на тое, што хоць яна калі-небудзь здолее аб’яднацца дзеля супраціву.

Адчуваю, што вы ўсё больш увагі аддаяце інтэрнэту і ўсё меней — эфірнаму вяшчаньню. Вельмі прашу: пераконвайце тых, ад каго гэта залежыць, каб захавалі радыё для нашага пакуль яшчэ жывога радыёпакаленьня, і асабліва — для жыхароў хутароў і вёсак. Для мяне гэта таксама актуальна, таму што шмат часу даводзіцца калясіць паміж Беларусьсю і Расеяй. Вось і гэты ліст пішу вам, седзячы ў кабіне аўтамабіля.

## *Сяргей Патаранскі, Менск*

***18.07.2012***

Уражвае новы праект Сяргея Дубаўца: гэты аўтар заўсёды ўмее зьдзіўляць. Яшчэ больш цікавымі сталі «Падарожжы Свабоды». Добра, што паўстаў новы папулярна-мастацкі праект Валянціны Аксак. Гэткіх праграмаў — пра моладзь, для моладзі і створаных маладымі — трэба болей. Урэшце, усе мы мусім дбаць пра новую публіку, а моладзь шукае слова Праўды (на жаль, шукае часам ня там, дзе трэба). А Радыё Свабода на сёньня — адна з тых крыніцаў, дзе жаданае можна знайсьці.

## *Міхась Габрыэль, Менск*

***25.07.2012***

Раней я слухаў Свабоду з дапамогай прымача. А нядаўна старэйшая дачка падаравала мне кампутар, і зьявілася магчымасьць чытаць Свабоду, глядзець фота і відэа.

Зьдзіўляюся некаторым слухачам, якія скардзяцца, што няма дзе набыць караткахвалевы прымач. Паведамляю, што жыхары Менску могуць купіць такі прымач у Ждановічах на радыёрынку, побач з крытым памяшканьнем, дзе гандлююць мясам ды каўбасамі. Там ёсьць кіёскі, дзе рамантуюць мабільныя тэлефоны. Вось у адным зь іх можна знайсьці вельмі цікавыя апараты.

Можна набыць і на «Полі цудаў». Усё можна зрабіць, калі не сядзець у кватэры ці ля пад'езду ды ня слухаць плёткі зьдзяцінелых бабулек, якім, бачыце, вельмі добра жывецца, бо Лукашэнка дае ім пэнсію і абараняе ад ворагаў.

А вось на вёсцы, паводле маіх назіраньняў, настроі іншыя, людзі выказваюцца наконт нашага правадыра больш рашуча. Я часам бываю на Віцебшчыне, слухаю. Заўважылі людзі, што Рыгоравіч апошнім часам набраў вагу, страчвае спартыўную форму. Можа, кінуў гуляць у хакей? Добра было б, каб ён заняўся плаваньнем. Можа, тады б у нас паўсюль набудавалі басэйнаў? Ад іх карысьці нашмат болей, чым ад лядовых палацаў.

## *Мікалай Бельчыкаў, Барысаў*

***25.07.2012***

Напэўна, большасьць людзей старэйшага пакаленьня слухаюць Свабоду гэтак жа, як і ў мінулым стагодзьдзі — праз караткахвалевае радыё. Час ад часу гучаць нараканьні ад іх: дзе набыць прымач з кароткімі хвалямі? (У крамах іх амаль няма.) Некалькі год таму я ўжо выказваў сваю заўвагу на гэты конт. Адчуваю, што дарэчы будзе яе паўтарыць. Справа ў тым, што ў нашага насельніцтва на руках застаецца шмат старых прымачоў (тыпу ВЭФ розных мадыфікацый). Многім яны сёньня ўжо не патрэбныя. Такія апараты сустракаюцца нават на сьметніках (прычым у рабочым стане). Дык вось, зьвярніце ўвагу: амаль усе раённыя ды гарадзкія газэты друкуюць цяпер бясплатныя абвесткі чытачоў. Таму можна даць такую абвестку: «Куплю стары прымач (тыпу ВЭФ) у рабочым стане». Запэўніваю: адгукнуцца многія. Я такім чынам атрымаў адразу восем прапаноў. У выніку набыў вельмі танна два прымачы. Аднак мне яны спатрэбіліся на вельмі непрацяглы час. Справа ў тым, што неўзабаве я ўсталяваў спадарожнікавую антэну. Цяпер прымаю Свабоду са спадарожніка Hot Bird: сыгнал выдатнай якасьці, бо гэта лічбавая тэхніка.

## *Сям’я Аляксеевых, Менск*

***25.07.2012***

Мы — вашы даўнія адданыя прыхільнікі. Кожны раз зь нецярплівасьцю чакаем ад’езду ў вёску ў Нарачанскі край — не ў апошнюю чаргу таму, што там выдатна чуваць Свабоду. А вось у нашай менскай кватэры на частотах Свабоды найчасьцей — суцэльны гул.

Кожны дзень улетку слухаем праўдзівую інфармацыю, чуем знаёмыя галасы, сустракаемся з найцікавейшымі выбітнымі асобамі. А пасьля расказваем пра гэта сваім знаёмым. На нашу думку, Свабода — гэта голас сумленьня.

## *Андрусь Анцух, пасёлак Калодзішчы, Менскі раён*

***25.07.2012***

Слова «Свабода» для мяне — не пусты гук. Са Свабодай прачынаюся, са Свабодай кладуся спаць на працягу доўгага жыцьцёвага шляху. Гадую сына ў такім самым духу Свабоды і Беларушчыны. Вельмі шаную і свабодаўскія кніжныя выданьні, бо ў іх пануе свабодная думка.

## *Антон Пузан, Гомель*

***01.08.2012***

Радыё Свабода я слухаю з даўніх часоў. Памятаю, тады ў мяне быў радыёпрымач «Рыгонда». З дапамогай яго я падчас службы ў войску слухаў жывы рэпартаж пра высадку амэрыканскіх астранаўтаў на Месяц. Натуральна, усё гэта — праз трэск перашкодаў. Але, памятаю, тады гэта вельмі ўразіла і запала ў памяць.

Цяпер у мяне прымач «Акіян». Але, на жаль, пачуць даводзіцца нямногае: ці то такі мой «Акіян», ці то ў эфіры невядома што робіцца.

Інтэрнэтам не авалодаў — узрост ня той, спазьніўся. Так што ліст вам пішу ад рукі... А тут яшчэ жонка мармыча пад вухам: «Не пішы! Дапішасься!» Можа, яна і мае рацыю. Нашы людзі ў асноўным маўчаць — каб не наклікаць бяды на сваю галаву.

Пішу вам па-расейску, хоць і беларус. Хоць іншых беларусаў, якія цураюцца роднай мовы альбо грэбуюць ёй — не люблю. Нядобра гэта. Але тут трэба ўлічваць жыцьцёвыя абставіны. Я з 6 год і аж да 47 бадзяўся па Расеі. Спачатку — разам з сасланай сям'ёй, потым па службе. І Чукотка ў маім жыцьці была, і Камчатка, і шмат іншых мясьцін.

Вярнуўшыся на гістарычную радзіму, выпісаў газэту на беларускай мове, купіў двухтомнікі Коласа і Быкава... Чытаў усё бяз слоўніка. Але размоўнай практыкі зусім няма. Дый як яе набудзеш у спрэс расейскамоўным Гомелі? Тут жа ні слоўца на роднай мове не пачуеш... Разумныя расейцы пра сёньняшнія грамадзкія настроі ў сваёй краіне выказваюцца рэзка: маўляў, народ азьвярэў. Ну, а мы,

беларусы, проста выраджаемся. Як народ, як нацыя. І баюся, што працэс гэты — незваротны. Калі толькі ня здарыцца які цуд, які-небудзь шчасьлівы для большасьці з нас (і нешчасьлівы для некаторых) выпадак. У жыцьці ж усё бывае. Баюся толькі, што сам я гэтага моманту ўжо не дачакаюся.

## *Павал Ялец, Драгічын*

***01.08.2012***

Прашу Свабоду зьвярнуць у сваіх перадачах большую ўвагу на чалавека працы. Болей пішыце пра тое, як у нас жывуць будаўнікі, настаўнікі, дворнікі. Нас жа фактычна ператварылі ў дармовую рабочую сілу. Давёў ён краіну да ніткі. І што адметна: з часам становіцца ўсё горш і горш.

Божа мілы: працуеш дзеля таго, каб паесьці ды набыць адзеньне ў сэканд-хэндзе — на нешта большае нашых заробкаў проста не хапае. Да чаго мы дакаціліся! Вымушаны рабіць за капейкі. Як тыя будаўнікі Беламорканалу ў часы Сталіна. Мусім працаваць, каб выжыць. А так хацелася б, каб праца прыносіла найперш радасьць і задавальненьне. І ўсё гэта, лічу, толькі праз аднаго ўсім вядомага чалавека!

Працую на будоўлі. Цяпер мы вахтавым мэтадам будуем у Менску інтэрнат для студэнтаў, які, як мяркуецца, будзе выкарыстоўвацца падчас хакейнага чэмпіянату 2014 году.

Падтрымлівайце змаганьне рабочых прадпрыемства «Граніт» у Мікашэвічах. Падтрымлівайце

палітвязьняў і свабодныя прафсаюзы. Усё гэта ў цяперашніх умовах вельмі патрэбна і важна.

## *Міхась Рымач, Івацэвічы*

***08.08.2012***

«Слоўнік Свабоды» — ня проста кніга, гэта нейкі цуд, узор прыгажосьці беларускага пісьменства. Чытаеш і міжволі пераконваесься, што няма прыгажэйшай за беларускую мову — такую сакавітую, пявучую, пяшчотную, у рэшце рэшт — Боскую мову. Няма сумневу, што надыдзе той час, калі карыстацца ёй будзе кожны без выключэньня беларус. Вось тады мы канчаткова станем цывілізаваным эўрапейскім народам — адкрытым для ўсіх і паважаным усімі народамі.

Яшчэ раз дзякуй за «Слоўнік Свабоды», які заняў у маёй хатняй бібліятэцы дастойнае месца сярод такіх выдатных кніг, як «Іншадумцы» Аляксандра Ўліцёнка, «Сапраўднае аблічча» і «Курапаты» Зянона Пазьняка, «Маладафронтаўцы», якую нядаўна падарыў мне мой зямляк і сябар Слава Дашкевіч.

Посьпехаў вам, свабодаўцы! Будзем верыць у сказанае Багдановічам: «Беларусь, твой народ дачакаецца залацістага, яснага дня»!.. Будзем чакаць гэтага дня. А ён надыдзе, абавязкова надыдзе.

## *Міхаіл Леках, Рыга, Латвія*

***15.08.2012***

Гэты ліст будзе даволі рэзкі, бо нельга спакойна ставіцца да таго, што з дня ў дзень на хвалях Свабоды перадаецца няпраўда і такім чынам дэзынфармуюцца мільёны радыёслухачоў. Хлусьня — у тым, што махляр і злодзей Алесь Бяляцкі вамі, спадарства, падаецца як палітзьняволены. Цікава, зь якога гэта часу людзі, якія ўчынілі крымінальнае злачынства (не плацілі падаткаў), сталі палітвязьнямі ці праваабаронцамі?

Цікава таксама было б даведацца, спадар Жданко: гэтак прадстаўляць перад слухачамі Бяляцкага — гэта ваша асабістая ініцыятыва? Ці гэта ініцыятыва Дзяржпэпартамэнту ЗША, на ўтрыманьні якога знаходзіцца радыёстанцыя?

У сувязі з гэтым паўстаюць і іншыя пытаньні. Вось вы, супрацоўнікі радыё, часта паўтараеце, што вы — свабодны і аб'ектыўны сродак масавай інфармацыі. Але я не магу зразумець: як могуць быць свабоднымі асобы, што знаходзяцца на чужым утрыманьні? Вось асабіста я — свабодны і аб'ектыўны, бо тэлефаную і адсылаю карэспандэнцыю на свае асабістыя грошы, зробленыя сумленнай працай.

І не крыўдуйце, калі я, пачуўшы чарговую хлусьню пра чарговых злодзеяў і хабарнікаў, якіх вы залічваеце ў палітвязьні (маю на ўвазе ня толькі Бяляцкага, але і Бандажэўскага ды іншых), вымушаны буду пачаць публікаваць у цэнтральных беларускіх выданьнях свае выбраныя лісты, адрасаваныя Беларускай службе Радыё Свабода.

## *Мікалай Хільтоў, Менск*

***22.08.2012***

Вельмі шкада, што цяпер немагчымыя прэзэнтацыі кніг зь «Бібліятэкі Свабоды» ў памяшканьні колішняга Дому літаратара. А як бы цікава было сустрэцца з вамі, чые галасы мы штодня чуем!..

Давайце ў эфіры часьцей слова Гілевічу, Вярцінскаму, Барадуліну, Бураўкіну. Няхай гучаць на хвалях Свабоды іх новыя творы ці ўспаміны пра вядомых асобаў. Жыцьцё працягваецца. Хаця краіна знаходзіцца ў страшэннай багне. Зьдзекі зь людзей — неймаверныя…

## *Пётар Водзіч, Менск*

***29.08.2012***

Дзякуй, свабодаўцы, што вы ёсьць, што можна слухаць праўду. Хаця ў маім прымачы на вашай хвалі часта шум і трэск, але я нейк прыстасоўваюся: знаходжу такое месца ў кватэры, дзе лепш чуваць. А вы ж яшчэ і такія падарункі робіце — выдатныя кнігі, дыскі. Асабліва ўразілі мяне «Галасы салідарнасьці». Для мяне гэта была незвычайная сустрэча Новага 2011 году: я ў тую ноч не глядзеў па тэлебачаньні ні беларускага прэзыдэнта, ні расейскага — а толькі слухаў і слухаў па Свабодзе прозьвішчы палітвязьняў... Гэта вельмі кранала душу...

## *Алена Напорка, Менск*

***05.09.2012***

Слухаю вас з далёкага 1995 году, калі сумленныя дэпутаты спрабавалі супрацьстаяць усяму найгоршаму, што абрынулася тады на нашу краіну. Але што яны маглі зрабіць, застаўшыся ў меншасьці ў сваёй Авальнай залі...

Вашы галасы не даюць пасяліцца ў душы роспачы і бязьвер’ю. Дзякуй вам за гэта.

## *Ігнат Багуцкі, Маладэчна*

03.10.2012

Радыё ваша слухаюць многія, але адкрыта казаць пра гэта не прынята. Такая вам прапанова: часьцей перадавайце Дэклярацыю правоў чалавека, прынятую ААН, якую павінна выконваць у тым ліку і Беларусь, а таксама зьмест пакту Молатава-Рыбэнтропа з сакрэтнымі дадаткамі. Нашы людзі проста ня ведаюць сваіх правоў і не інфармаваныя, якім чынам наша Заходняя Беларусь у выніку змовы расейскіх бальшавікоў і нямецкіх фашыстаў апынулася ў складзе СССР.

## *Віктар Лісоўскі, Менск*

***10.10.2012***

Атрымаў ваш ліст са свабодаўскімі каляндарыкамі, дзякуй. Дарэчы, капэрта зноў была нахабна растрыбушана. Беларускае гестапа не саромеецца, дае зразумець, што ў яго ўсё пад кантролем. Але мы, таварыш маёр, цябе не баімся, так і ведай. І цэнзура твая бясьсільная перад праўдай.

Рэгулярна слухаю вашы перадачы. Асабліва падабаюцца «Званочкі» Яна Максімюка, а таксама сэрыял «Саўка ды Грышка» Лявона Вольскага. Цаню дасьціпны гумар!

Спампаваў з вашага сайту кнігу Алега Грузьдзіловіча «Хто ўзарваў менскае мэтро». Перадайце, калі ласка, падзяку пану Грузьдзіловічу і пажаданьні посьпехаў.

## *Пётар Чавусаў, Менск*

***10.10.2012***

У вашых перадачах «Нашы дзеці» расказваецца, як цяжка адбываецца працэс далучэньня дзяцей да беларускай мовы нават у тых сем’ях, дзе бацькі зацікаўленыя ў гэтым. Нескладана ўявіць, што такія цяжкасьці будуць у сотні разоў большымі, калі да беларускасьці будуць схіляць прымусова.

А ў вас на Свабодзе становішча беларускай мовы драматызуецца, значэньню гэтай мовы ў нашым жыцьці надаецца перабольшаная ўвага. Усё гэта

ўяўляецца мне надуманым. У нашай краіне цяпер створана найлепшая абстаноўка ў гэтай справе: можна гаварыць і пісаць на любой мове — расейскай, беларускай, польскай, украінскай ды іншых...

Нават калі ўсе загавораць на беларускай мове, у краіне ня зьявіцца больш кватэраў, не ўзрасьце наш дабрабыт, людзі ня будуць лепш ставіцца адзін да аднаго.

Таму такія перадачы толькі псуюць настрой і выклікаюць расчараваньне ў прыхільнікаў беларускай мовы і раздражненьне — у іхных апанэнтаў.

## *Валянцін Цьвірко, Менск*

***17.10.2012***

Як пайшоў на пэнсію — пачаў слухаць вашы перадачы. Уцягнуўся. Яны мяне захапляюць. Часта ўзьнікаюць заўвагі і пытаньні, на якія хацеў бы пачуць адказ у вашай «Паштовай скрынцы».

Вось, напрыклад, не магу зразумець, які быў сэнс байкатаваць парлямэнцкія выбары. Толькі дзеля таго, каб у пратаколах стаялі іншыя лічбы? А як на маю думку, дык было б лепш, каб усе прыйшлі і аддалі свае галасы. Прынамсі, было б бачна, што людзі галасуюць супраць уладных кандыдатаў.

Ці яшчэ адна заўвага. Шмат цяпер, па сутнасьці, пустых размоў пра неабходнасьць зьмены рэжыму, дасягненьня дэмакратыі і г.д. Але мінаюць гады — а пэўнай і сур’ёзнай альтэрнатывы цяперашняму

прэзыдэнту як не было, так і няма. І мінулыя выбары нічому не навучылі.

А калі вартай асобы на пасаду прэзыдэнта няма і дамовіцца наконт адзінага кандыдата апазыцыя ня можа — то навошта тады ўвогуле разгойдваць існуючую сыстэму? Дзеля чаго гэта патрэбна? Толькі каб дэстабілізаваць грамадзтва? Такая справа падтрымкі ў людзей мець ня будзе. Ці, можа, у Радыё Свабода іншае меркаваньне? Тады пагаворым пасьля чарговых прэзыдэнцкіх выбараў.

Ніводнага разу ня чуў, якую стратэгічную мэту вы перад сабой ставіце, калі так шмат часу адводзіце асьвятленьню тэмаў адраджэньня, гістарычнай спадчыны, Бацькаўшчыны, незалежнасьці і гэтак далей. Дык так наўпрост і скажыце: Радыё Свабода хоча, каб у канчатковым выніку ўсё насельніцтва Беларусі размаўляла, пісала і думала выключна па-беларуску. Каб усе газэты, законы, кнігі пісаліся альбо перакладаліся на беларускую мову. І гэта пры тым, што цяпер расейская мова ў Беларусі цалкам пераважае, а многія людзі гавораць не па-беларуску, а на трасянцы. Ці не прывядзе гэта ў будучыні да грамадзянскага канфлікту паміж беларускамоўнымі і расейскамоўнымі грамадзянамі Беларусі?

Увогуле, падобна на тое, што мы яшчэ доўга будзем гаварыць гэтак жа, як кіраўнік нашай дзяржавы.

Асабіста я ня супраць беларускай мовы. Больш як 60 год таму я яе вывучаў у школе і, дарэчы, быў здольным вучнем. Але я — за дзьвюхмоўе. Трэба, каб у Беларусі былі і беларуская, і расейская мовы. А як ставіцца да гэтай праблемы Радыё Свабода? Вельмі цікава было б даведацца.

## *Натальля Фігероева, Менск*

***24.10.2012***

Вашы «Падарожжы Свабоды» па глухіх вёсках зь нешматлікім кансэрватыўным насельніцтвам, дзе ніколі нічога не вырашалася, прапаную зьвесьці да мінімуму альбо і ўвогуле спыніць. Замяніце іх на сур'ёзныя аналітычныя перадачы аб палітычнай і эканамічнай сытуацыі ў нашых суседзяў, найперш — ва Ўкраіне і дзяржавах Балтыі. Пра Расею можаце не расказваць: пра гэта можна даведацца і па тэлебачаньні.

Давайце эфірны час для выступу прадстаўнікам палітычных партый і сур'ёзных грамадзкіх рухаў (у тым ліку і нелюбімых вамі Лібэральна-дэмакратычнай і Камуністычнай партыяў). Наладжвайце дыскусіі паміж імі па актуальных пытаньнях.

А навошта вы паўтараеце архіўныя запісы 15-гадовай даўніны? Вы дэкляруеце, што для вас важнае меркаваньне радыёслухачоў. Але няўжо нехта са слухачоў прасіў вас запаўняць эфір гэтымі архівамі? Няўжо няма сучасных тэмаў? Дайце ў такім разе больш магчымасьцяў рэгіянальным карэспандэнтам, стварыце магчымасьць радыёслухачам для выхаду ў жывы эфір.

...Несумненна, ёсьць у вас і цікавыя перадачы («Праскі акцэнт», «Экспэртыза Свабоды» ды іншыя). Але ў цэлым напрошваецца выснова аб прыкметным уплыве правінцыялізму не без таталітарнага мысьленьня.

## *Ігар Пасноў, Віцебск*

***31.10.2012***

Ну вось я і дапісаўся: да загадчыцы маёй паліклінікі наведваліся «людзі ў цывільным» — са спэцслужбаў. Наколькі я ведаю, доўга ў яе дапытваліся пра «доктара-бунтаўшчыка», які залішне шмат гаворыць «не па справе» па Свабодзе, у інтэрнэце, «дэстабілізуе» і гэтак далей... Мяне яны не выклікалі. Яно і зразумела: абвінаваціць жа няма ў чым. У нас на Віцебшчыне сытуацыя — як у вядомай казцы пра голага караля. Чэлядзь дружна захапляецца цудоўнымі ўборамі, і толькі адзін хлопчык адважыўся крыкнуць праўду: «Кароль жа — голы!»

...Усё больш пераконваюся, што прэзыдэнт не валодае праўдзівай сытуацыяй. Паўсюль — прыпіскі, паказуха, хлусьня. На гэтай глебе — хабар, карупцыя. Самы сьвежы прыклад — арышт мэра Гомеля, які раней працаваў памочнікам прэзыдэнта па Віцебскай вобласьці.

...Нядаўна прыяжджаў да нас міністар аховы здароўя. Але паехаў наведваць зноў жа не так званую «Даліну сьмерці» — занядбаны шпіталь, а зусім прыстойную абласную бальніцу ў Нікрапольлі. Так будзе і далей — пакуль цярпіць наш замбаваны афіцыйнай прапагандай люд.

Дактары — як шэрыя мышы, пазбаўленыя пачуцця годнасьці і справядлівасьці. Насельніцтва сьпіваецца, дэградуе. Амаль штодня — зьвесткі пра раптоўныя сьмерці на глебе п’янства, пра самагубствы. А праўды — баяцца. Варта было сказаць пару праўдзівых слоў на «Белсаце» — адразу спало-

халіся, забегалі. Няўжо гэта дзяржаўная таямніца, што кароль — голы? Але ў нас цяпер не 37-ы год: праўду не схаваеш. І я пайду да канца. Гэта — мой адказ людзям у цывільным. І не дапытвайце маіх кіраўнікоў — сьціплых і сумленных жанчын, не прымушайце іх сьведчыць супраць мяне. 37-ы год ня пройдзе!

## *Мікалай Бусел, вёска Пружынішчы, Акцябрскі раён*

***07.11.2012***

Сёньня ўраньні мне пашэнціла: пасьля сутаргавага націсканьня на кнопкі я ўсё ж здолеў злавіць Свабоду. Акурат пад канец рэпартажу Віталя Сямашкі, дзе ён разграбаў кучу гною ў пошуках 500-даляравага шчасьця. У Віталя дарма што язык падвешаны, але мова не зусім чыстая. Адкуль ён узяў тэрмін «угарны газ»? Ня ведаю такога. Ёсьць «чад» і «чадны газ». Па-другое, ён казаў: «За імі (цялятамі, значыцца) нехта там даглядае». Тады як дзеяслоў «даглядаць» пераходны, патрабуе вінавальнага склону. Трэба казаць «іх даглядае». Прашу зьвярнуць увагу карэспандэнта на высокія моўныя стандарты вашае станцыі і прапанаваць больш дбайна рыхтавацца да рэпартажаў: пасьціць, чытаць адмысловыя слоўнікі (у каго яны ёсьць), устрымацца ад праслухоўваньня шапялявак зь іншых радыёстанцый…

Таксама я, пане Валянціне, быў моцна ўзрушаны і абураны пастаноўкай вашай станцыяй агіднага,

недарэчнага і бессэнсоўнага пытаньня: чаму гэта беларуская апазыцыя не абараняе правоў сэксуальных меншасьцяў?.. Правакацыйнасьць пастаноўкі такога пытаньня ў тым, што наш народ адразу ж пачне пляваца і пляваць на апазыцыю (у нас любяць расстрэлы і «жэстачайшыя меры»). Да гэтага далучацца шматлікія ідэалягічныя аддзелы — і гэтаму прывіду нашай апазыцыі настануць апошнія капцы.

Дый што наогул можа абараніць здань апазыцыі? Яны ж маўчаць як рыбы — зь любой нагоды. З усёй дзейнасьці ў іх у галаве толькі выбары: выбары ў Азэрбайджане, выбары ў Грузіі, выбары ва Ўкраіне, выбары ў Расеі… Нічога не праміне гэты гурт, усюды прылабуніцца, усюды пашчыруе… Усюды, акрамя Беларусі. Ведаюць, шэльмы, чыё тут кананічнае поле!

Адзін Віталь Сямашка гэную кучу не разграбе. (Мой сябар абураўся акурат тым, пра што казаў спадар Віталь: «Пачаму малчыт апазіцыя? Неужэлі ана не відзіт?») Бачыць яна ўсё, але ж баіцца.

Жадаю вам, пане Валянціне, начальскай ласкі, божай прыязнасьці, жончынай і дзяцінай любові! Мая спагада ў вас у кішэні.

## *Эдуард Тобін, Смалявічы*

***07.11.2012***

Пастаянна, штодня вам трэба агучваць гістарычную праблематыку. Ці вы ня ведаеце, што наша грамадзтва, на жаль, застаецца абсалютна недасьведчаным у сваёй гісторыі? І гэтая праблема

для Беларусі — звышактуальная. Гістарычная недукаванасьць — вельмі кепска, паколькі скрайне нэгатыўна адбіваецца на сацыяльна-культурным становішчы грамадзтва і краіны, якая з такім «інтэлектам» населеная, па сутнасьці, статкам, а не народам.

Яшчэ адна заўвага. У вас часта можна пачуць: арыштавалі «за несанкцыянаваны пікет» і да т.п. А што на гэты конт гаворыць Канстытуцыя? Чаму пра гэта ні гу-гу?

Таксама часта вы тыражуеце, пардон, лухту, калі кажаце: «Рэспубліка Беларусь», «Палата прадстаўнікоў»… Беларусь — не рэспубліка, а правінцыя імпэрыі Расейскай. Ці для вас гэта сакрэт? Ах, у Канстытуцыі так запісана? Дык хто ж яе паважае і прытрымліваецца? Чаму, згадваючы нелегітымную «палатку», вы не дадаяце «гэтак званая палата»? Аналягічна: «гэтак званая Канстытуцыя»? Непаліткарэктна? Ці боязна?

## *Алесь Сувораў, Смаргонь*

***14.11.2012***

Вялікі розгалас выклікала ў нас у горадзе акцыя Алеся Пушкіна ды іншых незалежных мастакоў з партрэтам беларускага патрыёта Расьціслава Лапіцкага. Такое запамінаецца надоўга. Выдатна, што Радыё Свабода падрабязна асьвятляла гэтыя падзеі. Хачу таксама падзякаваць вам, спадар Жданко, за цікавыя камэнтары да лістоў на Свабоду.

Маю і просьбу. Можа, дашляце новыя кнігі зь Бібліятэкі Свабоды? Некаторыя я маю, але ведаю, што выходзяць і новыя. Гэтыя кнігі чытаю ня толькі я, але і мае сябры.

## *Тамара Сялюн, Вілейка*

***14.11.2012***

Зь вялізным задавальненьнем ужо доўгія гады слухаем вашы перадачы. Усе яны па-свойму цікавыя. Вельмі хочацца, каб усе мы нарэшце дачакаліся сапраўднай свабоды. І тады перадачы вашай рэдакцыі зьменяць накіраванасьць. Веру, што гэта абавязкова адбудзецца.

## *Міхаіл Звозкін, Менск*

***21.11.2012***

Цікава слухаць Свабоду — шмат важнай інфармацыі, якую нідзе болей не пачуеш. Але ж даўно мяне турбуе пытаньне: дзеля чаго вы ўсё гэта расказваеце? Чаму Злучаныя Штаты трацяць на вашу станцыю вялікія грошы, каб вы нам гэта паведамлялі? Нездарма ж? У афіцыйныя абвінавачаньні, што Амэрыка хоча падарваць нашу «стабільнасьць», я ня надта веру: якая тут к чорту стабільнасьць. Дый ніякіх заклікаў да «падрыву» я па Свабодзе ня чуў. Навошта ж амэрыканскаму ўраду патрэбна, каб існавала Свабода?

## *Аляксей Карачынскі, вёска Зялёная Нізіна, Дзяржынскі раён*

***28.11.2012***

Заўсёды зь вялікім задавальненьнем слухаю перадачы Беларускай Свабоды. Прыцягвае тое, што яны цікавыя і зьмястоўныя. Вось, напрыклад, 7-га лістапада спадар Жданко, камэнтуючы лісты слухачоў, выказаў меркаваньне, што дзень кастрычніцкага перавароту паступова страціў сваё былое значэньне. Вельмі слушнае назіраньне. Магу толькі дадаць: гэтае, так бы мовіць, «сьвята» выглядае ў наш час як «Дажынкі» трэцяга гатунку — то бок відовішча нягеглае і нават недарэчнае.

Вядома, на гэтую тэму можна напісаць вельмі многа, але ж ня буду адцягваць вашу ўвагу ды назаляць.

Акрамя таго, спадзяюся, што маё сапраўднае прозьвішча і месца жыхарства ня будуць агучаныя ў эфіры — бо я чалавек просты і папулярнасьці не дамагаюся.

## *Павал Радзюкевіч, Вільня, Літва*

***12.12.2012***

Часам слухаю ваша радыё і дзіўлюся: дзеля чаго вы так ахайваеце чужую краіну і чужы народ? Гэта іхная справа — беларускіх грамадзянаў — як ім жыць. Яны ж жывуць у сваёй краіне. У іх ёсьць праца, яны атрымліваюць зарплату, працуюць на

сваіх беларускіх фабрыках і заводах. І гэта — вялікая перавага і дабро для народа.

Тыя слухачы, якія тэлефануюць вам, ахайваюць сваю краіну і свой народ — гэта проста здраднікі. Мне сорамна за гэтых людзей. Хацелася б паглядзець, як яны ў рэальнасьці жывуць, якая ў іх кватэра і што ў кватэры, якія пэнсіі і заробкі, колькі грошай застаецца пасьля аплаты камунальных паслугаў.

Вось я жыву ў так званай «свабоднай» Літве, і ў нас нічога гэтага няма. Кожны другі працаздольны сядзіць бяз працы. Мы займаем першыя месцы ў Эўропе па беспрацоўі, самагубствах, карупцыі і крадзяжах, затое апошнія — па памерах пэнсіяў і заробкаў. Цэны на лекі, праезд у грамадзкім транспарце зусім не сувымерныя з нашымі даходамі. А зайдзіце ў крамы, паглядзіце цэны на хлеб, на малочныя прадукты — вы за галаву возьмецеся. А аўтамабільнае паліва? Літар бэнзіну каштуе два даляры. А якія кватплаты? У мяне за 68 квадратных мэтраў за ацяпленьне бяруць 530 літаў (200 даляраў); а за ўсю кватэру — 850 літаў (315 даляраў). А пэнсія — 300 даляраў. Даводзіцца ўлетку эканоміць на ўсім, чым магчыма, каб толькі зімой плаціць за кватэру. А як купіць хлеб? А лекі, калі раптам захварэеш? Бяда! Некаторыя за кватэру плаціць ужо ня могуць. Ня ведаю, што іх чакае. Кажуць, за даўгі будуць высяляць...

У нас таксама ёсьць апазыцыя, але яна ня мае права і слова сказаць. А ваша апазыцыя езьдзіць па сьвеце (прычым за чужыя грошы) ды пры гэтым заклікае да санкцыяў супраць Беларусі. А гэта ж санкцыі ня супраць Лукашэнкі: ён будзе жыць

добра, чорт яго ня возьме. Ад іх жа найперш беларусам будзе горш.

Я не апраўдваю Лукашэнку і ягоны ўрад у тым, што датычыць разгону дэманстрантаў. Але пратэсты і дэманстрацыі, не санкцыянаваныя ўладамі, разганяюцца ва ўсім сьвеце. А дэбашыры ды хуліганы павінны адказваць паводле закону. Так робяць ва ўсім сьвеце, і гэта — правільна.

## *Пятро Лубоўскі, Менск*

***19.12.2012***

Хачу падзякаваць Валянціну Жданко за годны адказ абаронцу татальнай русыфікацыі ў Беларусі Кату, ліст якога нядаўна гучаў у «Паштовай скрынцы 111». Хацелася б, каб у новым годзе Свабода аддавала моўнай тэме болей увагі, бо, як слушна заўважыў спадар Жданко, бяз мовы ня будзе ніякай незалежнасьці. А ўрэшце і ад самой Беларусі можа застацца адна толькі геаграфічная назва. Праблема гэтая зусім не такая бяскрыўдная, як многім здаецца. Таму хацелася б, каб пра яе выказваліся самыя аўтарытэтныя асобы. Напрыклад, было б цікава паслухаць па Свабодзе Ніла Гілевіча. Гэта вельмі мудры, разумны чалавек. Але, на жаль, ужо немалады, і трэба сьпяшацца, каб пачуць ягонае важкае слова.

Усім працаўнікам Свабоды зычу добрага здароўя, плённай працы і новых цікавых праектаў.

## *Сяргей Жаваранак, Кобрын*

***26.12.2012***

Мне 60 гадоў. Нарадзіўся я ў Кобрынскім раёне. Да 8-га кляса вучыўся ў дзьвюх беларускіх школах. На жаль, многія мае настаўнікі ўжо адышлі ў вечнасьць.

Люблю справядлівасьць. Слухаю Радыё Свабода на працягу некалькіх гадоў. Перадачы цікавыя, зьмястоўныя.

Я пакуль працую. Але знайсьці працу ў маім горадзе з кожным днём становіцца ўсё большай праблемай. А якія заробкі? Прыбіральшчыца ў сярэдняй школе атрымлівае мільён дзьвесьце — паўтара мільёна рублёў. Цэны растуць не па днях, а па гадзінах.

Беларускім людзям калі і ёсьць чым ганарыцца, дык хіба тым, што ўсе мы пагалоўна — мільянэры. Мільянэраў у нас, напэўна, нават болей, чым у Амэрыцы. Але радасьці з гэтага мала.

Што нас чакае наперадзе — ніхто ня ведае. Дзень пражыў — і добра... Асабіста я ўжо нічога добрага не чакаю, у тым ліку і ў новым годзе.

Слухаў вось зараз падарожжа Зьмітра Бартосіка ў сяло Дывін нашага Кобрынскага раёну. Гэта 30–35 кілямэтраў ад Кобрына. Думаю: вось жа, можна было запрасіць Бартосіка ў госьці, пераначаваць, пагутарыць аб усім зь цікавым чалавекам...

Перадачы карэспандэнтаў Беларускай Свабоды цікавыя: бачна, што супрацоўнікі стараюцца. Люблю слухаць Яна Максімюка. Родам зь Беласточчыны, а як па-акторску размаўляе — заслухаешся.

А як Валянцін Жданко вядзе аддзел лістоў — цікава!

І кнігі Аляксандра Лукашука я ад вас атрымаў. Вялікі дзякуй усім. Посьпехаў у новым годзе. Буду пісаць вам і далей.

## *Міхась Лойка, Менск*

***26.12.2012***

Хадзілі чуткі, што ў вашых шэрагах зьявіліся сакрэтныя агенты КДБ, якія кіруюць вамі, пішуць вам праграмы перадач і г.д. Але вось паслухаў я нядаўна перадачу «Свабода бяз гальштукаў» — і пераканаўся, што гэта ня так. Вось гэта здорава, гэта па-нашаму...

Вядома, ня ўсе вашы перадачы цікавыя. Напрыклад, калі пачынаюцца «Нашы дзеці» — мае дамашнія (а мы слухаем Свабоду ўсёй сям'ёй) выключаюць прымач. А калі была неяк нядаўна нейкая перадача аб практыкаваньнях тыбэцкіх манахаў дзеля падаўжэньня жыцьця — дык абураліся: навошта нам гэта? (Сам я, на жаль, быў тады ў адʼезьдзе, дык не магу камэнтаваць таго, што ня чуў)...

А вось некаторыя злабадзённыя тэмы, якія хвалююць людзей, вы чамусьці не кранаеце. Напрыклад, цікава ведаць, чаму ў Менску чарга на жыльлё — каля 300 тысяч чалавек? І чаму тым, хто прастаяў па 25–30 гадоў, крэдыт выдаюць пад 14,5%, 20% і 35%, а амапаўцам, судзьдзям і кадэбістам, у якіх вельмі добрыя заробкі, — пад 3 і 5 працэнтаў і практычна без чаргі?

Таксама людзей хвалююць эканамічныя праблемы. Напрыклад, што будзе зь беларускім рублём пры заробку ў 500 даляраў? Ці варта непакоіцца пра банкаўскія дэпазыты? Колькі будзе каштаваць даляр пасьля Новага году? Тым больш што ў вас гэта могуць камэнтаваць моцныя эканамісты — Жаліба, Злотнікаў, Багданкевіч... І яшчэ тэма: як Ярмошына фальсыфікуе выбары? Бо і казе зразумела: 70–90 працэнтаў галасоў у падтрымку дзейнай улады — гэта проста абсурд.

Прабачце, што выклаў свае думкі сумбурна і з памылкамі. Што думаў — тое і пісаў.

# 2013

*«Мая 90-гадовая маці толькі і чакае,*
*калі на гадзіньніку зьявяцца лічбы*
*18:00 — пачатак перадачаў Свабоды»*

## *Анатоль Чачотка, Менск*

***16.01.2013***

Мае зносіны са Свабодай, як і раней — толькі праз караткахвалевы прымач. Інтэрнэту няма. Спрабаваў, як вы раілі, наладзіць спадарожнікавую антэну. Але спэцыялісты растлумачылі: паколькі мая кватэра на першым паверсе, а каля дому шмат старых вялізных дрэў — то сыгнал са спадарожніка будзе вельмі слабы. Так што адзіны варыянт для мяне — якасны прымач.

З новага году пачаў слухаць успаміны Станіслава Шушкевіча. Цікава. Спадзяюся і на іншыя глыбокія перадачы. Як заўсёды, радуюць сустрэчы з Бартосікам, Сямашкам, Жданко. З задавальненьнем слухаю камэнтары Карбалевіча, Лукашука, усіх стваральнікаў перадач Радыё Свабода. І, вядома, чакаю новых кніг з сэрыі «Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе».

## *Аляксей Лапенка, Менск*

***23.01.2013***

Зь нядаўняга часу я і мае родныя маем магчымасьць слухаць і чытаць перадачы Свабоды на сайце svaboda.org. Не параўнаць з тым, якія перашкоды даводзілася пераадольваць, каб пачуць што-небудзь з дапамогай караткахвалевага прымача. Мы і зараз упэўненыя, што вашы перадачы глушылі — і ў Менску, і ў Расонскім раёне, дзе мы бываем.

Зь цікавасьцю слухаем многія перадачы. Пазнаем галасы Соўсь, Навумчыка, Дубаўца... Чакаем інфармацыі і ад Зянона Пазьняка. Мы цэнім у ім праўдзівасьць, прынцыповасьць, непадкупнасьць, шчырасьць, адданасьць справе беларускага Адраджэньня. На жаль, ня ўсе гэтыя якасьці ўласьцівыя большасьці іншых беларускіх палітыкаў. Некаторыя зь іх (ня кажучы ўжо пра паднявольных чыноўнікаў, прыкарытных гісторыкаў ды палітолягаў) стараюцца прынізіць, замаўчаць ці абылгаць спадара Пазьняка — бо ён кажа ў тым ліку і тую праўду, якая тычыцца іхных непрыстойных ці няправільных (памылковых) дзеяньняў.

На вёсках цяпер, як вядома, засталіся ў асноўным людзі сталага веку. Амаль усе яны гавораць пра Пазьняка адно і тое ж: маўляў, быў паліцаем; прадасьць Беларусь амэрыканцам; пры ягоным кіраўніцтве была галеча. Такі вось вынік афіцыйнай прапаганды.

Моладзь, якая слухае і глядзіць Свабоду праз інтэрнэт (а ён ужо ёсьць і ў невялікіх вёсках), данясе праўду пра Пазьняка і нашу гісторыю да старэйшага пакаленьня.

## *Вера Бабок, Дзяржынск*

***27.02.2013***

Калі дазваляюць час і магчымасьці — заўсёды слухаю Свабоду. Фактычна, гэта ўсё, што засталося ў эфіры і ў інтэрнэце — што можна зь цікавасьцю паслухаць і паглядзець. Дзякуй вялікі за вашу працу. Вы нам вельмі патрэбныя, бо даяце той подых Свабоды Духу, безь якога проста немагчыма жыць у гэтым сьвеце ў гэты час. Будзем і надалей цікавіцца вашымі праграмамі.

## *Ала Кажэра, Менск*

***27.02.2013***

Мая прапанова для Свабоды: часьцей узьнімаць пытаньні беларускай школы. Бо бяз школы, без нацыянальна сьвядомага настаўніка працэс Адраджэньня будзе надта марудны, а можа, і ўвогуле безнадзейны.

## *Юры Кравец, Магілёў*

***06.03.2013***

Часам уключаю прымач і трапляю на вашу хвалю. Адчуваецца: ня мае Радыё Свабода цёплых пачуцьцяў да беларускага народу.

Тыя званкі слухачоў, якія вы пускаеце ў эфір, цалкам адпавядаюць поглядам нашай апазыцыі. Слухаеш іх — і на душы становіцца кепска. Ня дай Бог, каб гэтыя людзі калі-небудзь апынуліся пры ўладзе ў Беларусі. Гэта ж нейкі пячорны нацыяналізм, які ніколі ня здольны нарадзіць любоў — толькі нянавісьць.

Здаецца, пара ўжо даўно зразумець: безь любові да людзей немагчыма стварыць нічога добрага — ні ў краіне, ні ў адносінах з суседзямі. А палітыка дзікага нацыяналізму здольная пасеяць толькі варажнечу паміж народамі. А калі ўспыхне варажнеча, дык нікому не паздаровіцца — у тым ліку і тым, хто яе пасеяў.

Усе ведаюць: апазыцыя варожа ставіцца да Лукашэнкі, бо ён — прамая ёй супрацьлегласьць. Вядома, у яго ёсьць недахопы, як і ў кожнага чалавека, але трэба аддаць яму належнае: ён — інтэрнацыяналіст. Ён ужо амаль 20 год пры ўладзе, і ўвесь гэты час яму ўдаецца захоўваць мір паміж людзьмі розных нацыянальнасьцяў і веравызнаньняў. А гэта — самае галоўнае.

Можна ненавідзець Лукашэнку як асобу, але трэба паважаць выбар народа. Людзі яго выбіраюць — значыць, ён ім падабаецца. Вось аўтары званкоў на Свабоду ўвесь час скардзяцца, што ў нас няма дэмакратыі. Няўжо яны думаюць, што іх цяжка выявіць? Але ж іх не выяўляюць, не арыштоўваюць. Ставяцца паблажліва, паводле прынцыпу: «Сабака брэша — караван ідзе».

## *Данута Крупіца, Ліда*

***06.03.2013***

Я — даўняя аматарка радыё. Неяк задумалася: чаму я так люблю радыё, і ў прыватнасьці — Свабоду? Думаю, цягнецца гэта зь дзяцінства, з таго часу, калі ў нас у мястэчку на плошчы на слупе была прымацаваная вялікая «талерка», зь якой з раніцы да вечара лілася музыка, перадавалі зводкі з палёў і фэрмаў, трансьлявалі радыёспэктаклі... Было гэта ў далёкія 50-я гады. Вядома, гучала на плошчы не Свабода, а казённае савецкае радыё, і ладную частку ўсяго радыёэфіру займала палітагітацыя. Але на прапаганду людзі ня надта зьвярталі ўвагу. Памятаю, заканчваліся перадачы заўсёды гімнам Савецкага Саюзу...

## *Антон Шчучынскі, Шчучын*

***20.03.2013***

Слухаю Радыё Свабода кожную раніцу. Вельмі падабаецца аддзел пісьмаў з вашымі, Валянцін, камэнтарамі. Мяне, як і многіх іншых людзей у Беларусі, ужо даўно «дасталі» хлусьня і нахабства нашага галоўнага хакеіста і ягонага атачэньня. Хочацца хоць як, хоць у якой форме выказаць свой пратэст і свае думкі, якія часта прыходзяць у галаву. Таму часта бяруся за паперу і ручку. Перасылаю ліст праз даверанага чалавека, бо баюся, што з нашай мясцовай пошты ён ня дойдзе да адрасата.

*Каб уладу утрымаць,*
*Давялося ўсё мяняць.*
*Рэфэрэндум аб'явіў —*
*Канстытуцыю зьмяніў.*
*Ня думаў доўгія мінуты —*
*Вярнуў старыя атрыбуты.*
*Ну, а потым, без абкаткі,*
*І саўковыя парадкі.*
*Рубіць словам ён з пляча,*
*Ўспамінайце Ільіча:*
*Вусы чорныя, густыя,*
*Словы доўгія, пустыя…*

## *Васіль Шпак, вёска Варані, Столінскі раён*

***10.04.2013***

Я — удзельнік вайны ў Аўганістане, 49 гадоў. На Свабоду пішу ўпершыню, хоць слухаю ваша радыё ўжо даволі даўно. Раней слухаў праз прымач, цяпер — праз спадарожнікавую «талерку», праз тэлевізар. Афіцыйную прапаганду ня слухаю, не гляджу і не чытаю з 90-х гадоў мінулага стагодзьдзя. Наеўся ёю напоўніцу за гады савецкай улады. Акрамя таго, пэрыядычна выпісваю газэту «Народная Воля». Хацеў напісаць у газэту, але ня ўпэўнены ў адказе. А Свабода ўсё ж бліжэй — так бы мовіць, кожны дзень з намі.

Сутнасьць пытаньня ў наступным. Надоечы хацелі мяне пэўныя асобы ад улады зацягнуць у так званы «Беларускі саюз вэтэранаў вайны ў Аў-

ганістане». Я катэгарычна адмовіўся, бо калісьці, яшчэ пасьля камсамолу, даў сабе слова: ні ў якія саюзы і суполкі болей не ўступаць.

Дый дзе быў гэты «саюз», калі кіроўная прыўладная мафія забірала ў людзей, якія прайшлі празь пекла аўганскай вайны, апошнія льготы?

Дык што — уступаць толькі дзеля таго, каб плаціць складкі, якія невядома куды і на што пойдуць? Хопіць, наплаціліся калісьці ў камсамоле.

І цікава было б даведацца ад Свабоды, колькі чалавек уступіла ў гэты Саюз — у працэнтах ад агульнай колькасьці вэтэранаў-аўганцаў. І ці многа сродкаў ідзе празь бюджэт на гэтую арганізацыю? На якія мэты?

Пра многае яшчэ хацелася б напісаць і спытаць, але ж разумею, што радыё — не бюро даведак. Загадзя дзякую. Да сустрэчы на хвалях Свабоды!

## *Алег Доўгала, Гомель*

Слухаю Свабоду амаль кожны дзень. Часам, калі настройваюся на вашу хвалю, натыкаюся і на іншыя станцыі. Вось нядаўна выпадкова пачуў радыё Паўночнай Карэі. Адразу ўспомнілася дзяцінства. Радыё ў той час было адзінай сувязьзю са сьветам. Я якраз рабіў урокі ў пакоі, дзе амаль увесь час была ўключана «кропка». Тут жа ў рамцы пад шклом вісеў партрэт Сталіна. І ён нібы сачыў за мной кожны дзень. Партрэт павесіў бацька — удзельнік Першай і Другой усясьветных войнаў...

Што да сёньняшніх беларускіх спраў. На жаль, выбары ў нас ператвораныя ў адно вялікае мах-

лярства. Я ўжо чалавек сталага веку, мне 71 год, і ўсе гэтыя штукарствы я бачу і разумею вельмі добра. На маю думку, трэба адмяніць вынікі ўсіх праведзеных пры Лукашэнку рэфэрэндумаў, за якія ў 90-я гады галасавалі пэнсіянэры, што выжылі з розуму, ды маладыя дэбілы.

Таксама неабходна скасаваць кантрактную сыстэму найму на працу — гэта кляп у роце і пятля на шыі працоўнага чалавека.

У дзяржаве патрэбна карэнная рэформа сыстэмы ўлады. Патрэбны падзел паўнамоцтваў: 30 працэнтаў — прэзыдэнту, 30 — ураду, 40 — парлямэнту. А ня так, як у нас, калі ўсё залежыць толькі ад адной асобы.

Трэба, каб людзі выбіралі кіраўнікоў сваіх гарадоў і раёнаў. Трэба значна скараціць армію, сілавыя структуры, непатрэбных чыноўнікаў: вось на што марнуецца найбольш народных грошай.

Ну, і ўсе дзяржаўныя асобы абавязкова павінны валодаць дзяржаўнымі мовамі. Ня ведаеш роднай мовы — няма чаго лезьці ў прэзыдэнты.

## *Уладзімер Лапацін, вёска Пціч, Менскі раён*

***24.04.2013***

Я — чалавек сталага веку. Нарадзіўся на Магілёўшчыне, у Клічаўскім раёне. Скончыў тэхнікум, ваеннае вучылішча лётчыкаў. Зьбіраўся служыць, але трапіў пад хрушчоўскае скарачэньне савецкай арміі (ён тады скараціў больш як мільён вайс-

коўцаў). Вучыўся ў радыёінстытуце, зноў служыў у савецкай арміі. Вайсковы пэнсіянэр з 1990 году.

У 1988-м пад Менскам купіў развалены дом і з 1991-га стала пасяліўся ў вёсцы. Стаў слухаць радыё. Выпадкова натрапіў на Беларускую Свабоду — і вось ужо каторы год рэгулярна слухаю вас. З цалкам русыфікаванага савецкага беларуса ператварыўся ў бел-чырвона-белага ліцьвіна-беларуса. Вялікі дзякуй за вашу працу, за тое, што вы ёсьць. Бяз вашых перадач не ўяўляю свайго жыцьця.

## *Віктар Шкрабаў, Менск*

***01.05.2013***

Лічу сэрыю «Бібліятэка Радыё Свабода» вельмі ўдалай. Гэта прыкметная зьява ў нашым беларускім грамадзкім жыцьці. У свой час пабываў у вас на прэзэнтацыях кніг «Сьлед матылька» і «Гамбурскі рахунак Бахарэвіча» — і асабіста пераканаўся ў гэтым.

## *Уладзімер Цыбенка, Івацэвічы*

***15.05.2013***

Так сталася, што я, чалавек з вышэйшай адукацыяй, трапіў у сумнавядомы ЛПП (лячэбна-працоўны прафілякторый), дзе нібыта лечаць ад алькагалізму. Пабываў я там, што праўда, не з уласнай ахвоты, а дзякуючы намаганьням маёй нябожчыцы-цешчы. Ну, але гэта — асобная гісторыя.

Дык вось, у нялюдзкіх умовах пасьля працы мяне ратавалі валейбол і кнігі. Кнігі, відаць, найперш.

Я маю тры выданьні з вашай кніжнай сэрыі «Бібліятэка Свабоды». Іх чытаюць мае знаёмыя і сябры. Дзякуй вам за іх. Вельмі хацелася б мець вашу новую кнігу — «Турма і здароўе» Юрыя Бандажэўскага. Слухаў урыўкі зь яе і быў вельмі ўражаны.

Зжалем даведаўся пра скарачэньне перадач Свабоды. Трымайцеся і ведайце, што вы нам вельмі патрэбныя.

## *Вацлаў Бедункевіч, Маладэчна*

***05.06.2013***

Летам 1946 году старшыня сельсавету, які жыў у нашай вёсцы, мусіў некуды паехаць па пільнай справе. У хаце заставаўся толькі яго малы 8-гадовы пляменьнік. Начаваць аднаму было боязна, і ён запрасіў мяне: я быў на два гады старэйшы. Усе ведалі, што ў старшыні была вялікая каштоўнасьць — дэтэктарны прымач. Ну, я і не ўтрымаўся, скарыстаў выпадак. Толькі ўключыў яго — як адразу пачуў у навушніках словы, якія назаўсёды ўрэзаліся ў памяць: «Говорит Лондон. Радиостанция Би-Би-Си». Вось такім чынам у свае 10 год я зрабіўся слухачом «варожых галасоў».

Дэтэктар той, дарэчы, быў невялікі, просты ў карыстаньні, недарагі. Але слухаць мог толькі адзін чалавек. І абавязкова была патрэбна антэна.

Пазьней, калі я скончыў будаўнічы тэхнікум у Менску, дык набыў прымач зь сярэднімі хвалямі: можна было слухаць усю Эўропу. А яшчэ пазьней, калі займеў пакойчык па адрасе Ленінскі праспэкт, 44, дык зьявілася радыёла «Sakta». Яна мела аж 5 караткахвалевых дыяпазонаў. Нягледзячы на глушылку, што працавала літаральна «ў агародзе» (за домам 44), я быў у курсе ўсіх сакрэтных для савецкага чалавека навінаў.

Дзякуй Свабодзе за працу. Кожны дзень слухаю вас раніцай і ўвечары.

## *Сьцяпан Арлянін, вёска Запросьсе, Лунінецкі раён*

***05.06.2013***

Мне 64 гады. Карэнны вясковы паляшук. Каталік. Будую касьцёл. Думаю, мне ўдалося сьцерці са свайго, так бы мовіць, «біякампутара» многа ўсялякіх «зомбівірусаў», якія старанна распаўсюджвала і распаўсюджвае афіцыйная прапаганда. З самага пачатку я ў згодзе з ідэямі Народнага Фронту.

Наша Радыё Свабода — гэта цудоўны радыётэатар. Слухаю вас праз савецкі радыёпрымач з аналягавым сыгналам. А ці існуе прылада больш сучасная і якасная, ды з аўтаномнай работай?

Што яшчэ цікавіць — дык гэта якім чынам вас можна слухаць, маючы спадарожнікавае тэлеабсталяваньне?

Яшчэ дазвольце выказаць сваё меркаваньне ў справе камунікацыі мясцовых людзей з заежджы-

мі журналістамі. Як жа хутка вучыцца напужаны тубылец не ўцякаць ад бледнатварага прышэльца зь мікрафонам, а пакрысе набліжацца да яго — хоць з падазронасьцю, але і зь цікавасьцю. Як жа відавочна ён выціскае зь сябе патроху тую самую «тутэйшасьць». Асабліва ўдала атрымліваюцца такія дыялёгі ў нашых слаўных свабодаўцаў — Бартосіка і Сямашкі. Думаю, гэта нялёгкі і нятанны занятак.

## *Андрэй Чарняўскі, Рагачоў*

***05.06.2013***

Дзякуй, Свабода, за вашу працу. Яна вельмі карысная і падтрымлівае нават тады, калі ўжо няма моцы жыць у хлусьні.

## *Андрэй Зязюлін, Віцебск*

***17.07.2013***

Даўно слухаю перадачы Свабоды на старэнькім, але якасным прымачы «ВЭФ-200». Ня так даўно мой сын набыў кампутар, і я змог карыстацца сецівам. Так я адкрыў для сябе сайт Свабоды, атрымаў магчымасьць у любы час мець цікавую інфармацыю. У прыватнасьці, мне неабыякава тое, што цяпер адбываецца ў беларускай і ўвогуле ў постсавецкай эканоміцы. На Свабодзе былі вельмі цікавыя матэрыялы пра вялізныя запасы трактароў на складах заводу МТЗ у Менску. З сайту Свабоды я даведаўся

і пра лёс рыскага заводу «ВЭФ», які разьдзяліўся на некалькі прыватных прадпрыемстваў.

Асабіста для мяне ніколі не было сакрэтам, што мой «ВЭФ», які ўжо даўно стаў для мяне прадметам мэблі і вакном у навакольны сьвет, насамрэч быў маленькім агрызкам мілітарызаванай савецкай прамысловасьці. І лёс гэтага заводу, пасьля таго як Латвія здабыла незалежнасьць, быў цалкам прадказальны. Тым больш што на Захадзе такая ж прадукцыя і больш якасная, і таньнейшая...

Між іншым, цяпер дэіндустрыялізацыя дапаўзла і да нас. Беларусь фармальна пакуль не ўступіла ва Ўсясьветную гандлёвую арганізацыю, але фактычна пасьля ўступленьня туды Расеі вымушана выконваць усе правілы гэтай арганізацыі. Нашы тавары ўсё цяжэй прадаюцца на міжнародным рынку. І гэтыя праблемы, як сьцьвярджаюць многія экспэрты, у бліжэйшыя гады будуць толькі нарастаць. Дык ці патрэбна было гэта Беларусі? Варта было б Свабодзе наладзіць у сваім эфіры дыскусію на гэтую тэму: атрымалася б надзвычай цікавая размова.

## *Мікалай Ермакоў, Гомель*

***17.07.2013***

Шкадую, што не пашанцавала асабіста пазнаёміцца з журналістам Свабоды Юрасём Бушляковым, які заўчасна пакінуў гэты сьвет. Хоць, здаецца, меў пэўныя падставы для знаёмства. Усё маё працоўнае жыцьцё было зьвязана з журналістыкай і нацыянальнай спадчынай нашага народу. Нават

тады, калі больш за тры дзесяцігодзьдзі працаваў уласным карэспандэнтам рускамоўнай «Сельской газеты» («Белорусской нивы») па Гомельскай вобласьці, то па-расейску пісаў толькі матэрыялы вытворчага характару. Усё астатняе выкладаў на паперу словамі сваіх вясковых прашчураў. Дарэчы, і ўсе мае сямейнікі — знаўцы і носьбіты ў народ жывога беларускага слова. Жонка выкладала мову і літаратуру ў школе абласнога цэнтру; старэйшая дачка Алена ўзначальвае катэдру беларускай мовы ва ўнівэрсытэце; малодшая Тацяна, маючы дыплём філфаку, зьвязала сваё жыцьцё з журналістыкай. Спадзяюся, што трое маіх унукаў таксама не застануцца раўнадушнымі да моўнай велічы продкаў. Карацей кажучы, сваю сям’ю і яе пасьлядоўнікаў не магу ўявіць бяз кнігі Юрася Бушлякова «Жывая мова».

Мушу таксама прызнацца, што дыктоўку ў выкананьні Юрася я пісаў ня дзеля доказу веданьня беларускай мовы ці перамогі ў конкурсе, а каб лішні раз услухацца ў голас, маўленьне слыннага маладога журналіста і мовазнаўцы Юрася Бушлякова. Быццам падсьвядома адчуваў хуткі канец яго кароткага, але сапраўды гераічнага жыцьця ў змаганьні зь невылечнай хваробай. Тут у яго, лічу, ёсьць шмат агульнага зь лёсам Кастуся Каліноўскага.

Кароткі век выпаў на долю Юрася, але тое, што ён пасьпеў зрабіць для беларускага мовазнаўства і нацыянальнай журналістыкі, застанецца вечным. У нацыі, якая зьведала глумленьне над самым вызначальным — над мовай — застануцца глыбінныя карані.

## *Алесь Васілеўскі, вёска Клетнае, Барысаўскі раён*

***28.08.2013***

Перадача ў вас добрая і карысная. Спадзяюся, яна мне шмат у чым дапаможа. Слухаю па меры магчымасьцяў, даволі часта. Мая 90-гадовая маці толькі і чакае, калі на гадзіньніку зьяляцца лічбы 18:00. Яна жыве вашым эфірам. «Паштовая скрынка», як і ўвогуле ліставаньне, не павінны адсоўвацца на задні плян пад націскам нахабнай электронікі, інтэрнэту. Яны, можа, і нясуць пэўныя зручнасьці, але адначасова прыводзяць да вялікіх стратаў (пакуль, можа, ня надта відавочных).

Лісты, як і кнігі, прымушаюць думаць, суперажываць, яны робяць нас мудрэйшымі. Не пагаджаюся з блюзьнерскай прапагандай, якая сьцьвярджае, што ўсё, што выкладаецца на паперы, ужо аджыло і толькі вядзе да вынішчэньня лясоў. Ды ня гэта вынішчае лясы, а зусім іншае... Бясконцая прага спажываньня і інтэлектуальная абмежаванасьць — вось што нішчыць прыроду, у тым ліку і лес. Не на кнігі ідзе асноўная частка паперы — а на безьліч упаковак для бясконцых цацак для чалавека, безь якіх лёгка можна было б абысьціся... Кажуць, гэта разьвіцьцё, прагрэс... Але ці сапраўды прагрэс? Разьвіцьцё, на маю думку, — гэта зусім іншае. І ісьці яно павінна найперш з каранёў сваіх нацыянальных. Але тут у нас вялікая бяда. Родны раўчук яшчэ як сьлед не прабіўся з-пад зямлі, а ўжо рака чужыны пануе паўсюль, несучы з сабой часта толькі бруд ды лаянку расейскую...

## *Яўгенія Хаменка, Менск*

***02.10.2013***

Я шчыра ўдзячна ўсяму калектыву Радыё Свабода за сумленную працу ў інфармаваньні нас, звычайных жыхароў Беларусі. Праўдзівая, сумленная і актуальная інфармацыя ў нашых умовах вельмі шмат значыць. А атрымаць яе можна найперш на вашых радыёхвалях, якія і для мяне, і для многіх маіх знаёмых і сяброў даўно сталі роднымі і блізкімі.

## *Ігар Сьцябуля, Менск*

***04.12.2013***

Вельмі падабаюцца мне «Падарожжы Свабоды», якія вядзе Зьміцер Бартосік. Слухаючы адно зь іх, падумаў, што няблага было б вам падрыхтаваць цыкль перадач пра наш савецкі Менск вачыма замежнікаў — амэрыканца, паляка, немца, швэда, італьянца, француза... Карацей кажучы, людзей з заходнім досьведам і сьветаўспрыманьнем. Пра што яны думаюць, калі бачаць нашу савецкую архітэктуру, помнікі бальшавіцкім правадырам, ходзяць па вуліцах, названых у гонар камуністычных дзеячаў, заходзяць у нашы савецкія сталоўкі зь ненавязьлівым сэрвісам... А калі гартаюць праўладныя газэты ў шапіку «Белсаюздруку» (а іншых газэт там і няма — хіба толькі расейскія гламурныя часопісы)? А калі глядзяць наша тэлебачаньне, у якім што ні перадача — дык хваласьпевы мудрай палі-

тыцы нашага нязьменнага прэзыдэнта? І — ніякага іншадумства... Напэўна, для замежнікаў усё гэта выглядае дзікім і нецывілізаваным. Відаць, таму іх у Беларусі так мала...

## *Міхаіл Іваноў, Магілёў*

***11.12.2013***

Увогуле, добра, што існуе такое радыё, як Свабода. Шкада толькі, што надта вы памяркоўныя, нерашучыя. Улада зьнішчае апазыцыянэраў, дзейнічае бязьлітасна і жорстка. А апазыцыйныя партыі, і вы сьледам за імі апэлюеце да законаў, да гуманізму, да памяркоўнасьці... І ня робіце рашучых дзеяньняў у адказ.

Я тут неяк з адным старшынём выбарчай камісіі разгаварыўся. Нібыта неблагі мужык: усё разумее, падтрымлівае дэмакратаў, усьведамляе, куды завёў краіну гэты рэжым. Але як даходзіць да справы — у кусты. «Ну, ведаеце, мне трэба сям'ю карміць», — кінуў ён мне ў адказ на прапанову адкрыта выказаць сваю грамадзянскую пазыцыю... Дык гэтак кожны можа адказаць. І што ў выніку будзе з радзімай?

Сёньняшнія беларускія дэмакраты — гэта лебедзь, рак і шчупак: усе цягнуць воз у розныя бакі. І з гэтым трэба нешта рабіць. Трэба гэтых цялят неяк абудзіць і прымусіць рухацца ў адзін бок.

Я разумею: усе наўкол запалоханыя. Але гэта не падстава, каб не крытыкаваць іх, не клеймаваць за бязьдзейнасьць — асабліва сытых пузатых абібокаў зь ліку лідэраў апазыцыі, якія сваёй бязьдзейнасьцю толькі спрыяюць гэтаму рэжыму.

## *Міхаіл Леках, Рыга, Латвія*

***18.12.2013***

Хачу выказацца наконт некаторых перадач беларускай Свабоды, прысьвечаных эканамічнай тэматыцы. У мяне часам ствараецца ўражаньне, што вы наўмысна ўводзіце слухачоў у зман. Асабліва тых, якія ня маюць поўнай аб'ектыўнай інфармацыі.

Вось, напрыклад, балючае для людзей сталага веку пытаньне — пэнсіі. Насамрэч пэнсіі ў беларускіх пэнсіянэраў нічым ня горшыя, а ў многім нават і лепшыя, чым у дэмакратычнай Латвіі. І ў цэлым людзі ў Беларусі жывуць ня горш за суседзяў-латвійцаў.

Спашлюся на афіцыйную латвійскую статыстыку. У Латвіі за рысай беднасьці — амаль 31 працэнт насельніцтва краіны. Паводле зьвестак Эўрастату, горшыя справы толькі ў Баўгарыі: там беднякоў больш як 43 працэнты. А ў суседняй Літве за рысай беднасьці — 18 з паловай працэнтаў насельніцтва.

Яшчэ адна бяда — беспрацоўе. Паводле афіцыйных зьвестак, працы ў Латвіі ня маюць амаль 10 працэнтаў жыхароў. Сярод моладзі беспрацоўных яшчэ больш — 16 працэнтаў.

У цэлым стан эканомікі — надзвычай цяжкі. Краіна загрузла ў даўгах. Вонкавы доўг складае каля 6 мільярдаў латаў (гэта 11 мільярдаў даляраў). У наступным годзе Латвія павінна аддаць Эўракамісіі больш як 700 мільёнаў латаў.

Асабіста для мяне відавочна: большасьць людзей у Беларусі жыве лепш, чым большасьць людзей у

Латвіі. Натуральна, пры гэтым я ўлічваю кошт камунальных паслугаў, транспарту і г.д.

Так што трэба вам, журналісты Свабоды, казаць праўду. Абуральна, калі чуеш па вашым радыё, як журналіст параўноўвае ўсю Беларусь з турмой КДБ «амэрыканка». Гэта ж трэба так бессаромна хлусіць, так ненавідзець краіну. Хацелася б, каб гэты мой ліст прагучаў па Свабодзе.

## *Валянціна Богуш, Менск*

***25.12.2013***

Шчыра ўдзячныя вам за самаадданую працу, якую вы робіце для нас і дзеля нас. Толькі ад Свабоды мы можам своечасова даведацца праўдзівую інфармацыю пра розныя падзеі ў сьвеце, і асабліва — у Беларусі. Гэта так важна ў наш няпросты час, калі ўлада хлусіць на кожным кроку праз сваю магутную прапагандысцкую машыну.

Вось калі б гэтак жа прафэсійна і плённа, як Свабода, працаваў урад нашай дзяржавы — тады б мы жылі зусім інакш...

# 2014

*«Калі спыніце вяшчаньне ў эфіры — я застануся сьляпая і глухая, бо ня буду ведаць праўду»*

## *Мікалай Волчык, вёска Зіновічы, Пружанскі раён*

***08.01.2014***

На працягу ўсяго мінулага году ня меў (і ня маю цяпер) ніякіх праблемаў з прыёмам сыгналу на ўсіх частотах — і на кароткіх, і на сярэдніх хвалях. Удзячны ўсім за працу на карысьць Бацькаўшчыны. Вашу дзейнасьць не камэнтую: усё робіце як трэба! Трымайцеся так і надалей. Асабіста спадару Жданко — поціск рукі. І ні ў якім разе не выключайце зь вяшчаньня караткахвалевы дыяпазон.

Многія абмяркоўваюць: куды рухаецца беларуская эканоміка, як складзецца ў новым годзе эканамічная сытуацыя ў Беларусі? На маю думку, гэта нейкі караван, які ідзе ці то ў нікуды, ці — у тупік. Чаму так атрымліваецца? Відавочна, таму, што асабістыя інтарэсы кіраўнікоў улады вышэй за нашы... А-а, ды ну іх!

## *Алесь Шустоўскі, Барысаў*

***15.01.2014***

Вельмі мне падабаюцца вашы рэклямныя каляндарыкі з раскладам перадач. Як ні круці, а яны ёсьць сапраўднай візытоўкай Беларускай Свабоды ад Буга і да Курылаў, ад Лісабона і да Ўладзівастоку.

Дзякуй вам за прафэсійную журналісцкую працу на карысьць беларускага народа.

## *Ася Барадзінская, Бабруйск*

***12.02.2014***

Нядаўна пачула па Свабодзе пра цяжкое жыцьцё абяздоленых няшчасных людзей — бамжоў, бяздомных. Многія ў нас ад іх круцяць носам: маўляў, лайдакі, апусьціліся, сьпіліся, ядуць са сьметніка. А мне іх шкада. Жыцьцё складаецца па-рознаму. У большасьці зь іх калісьці былі і дом, і сям'я, і праца, і нават дзеці. А лёс склаўся так, што ўсяго гэтага ня стала. Лягчэй за ўсё абвінавачваць іх саміх: маўляў, самі распусьціліся, падпалі пад шкодную залежнасьць, не змаглі спыніцца... А ці мала якія абставіны сталі прычынай? Невядома яшчэ, як бы мы самі паводзілі сябе, калі б давялося перажыць вялікую жыцьцёвую драму, страту блізкіх людзей, здраду каханага чалавека...

Увогуле, добрую справу робіць Свабода, калі распавядае пра такія гісторыі. Яны дапамагаюць разабрацца ў сабе і ў навакольным сьвеце. Слухаю вас зь вялікім задавальненьнем. Вельмі падабаюцца

галасы вядучых, дыкцыя. Беларуская мова гучыць у іх выкананьні як музыка. Я ў мінулым — музыкант, таму адчуваю гэта душой. Больш ніхто так прыгожа не размаўляе па-беларуску.

## *Ігар Сімашковіч, пасёлак Ула, Бешанковіцкі раён*

***05.03.2014***

Радыё Свабода — гэта сапраўдны прамень хараства і сьвятла ў цемры зла, якая ахутала Беларусь. Слухаць вас я пачаў ад знакамітых падзей сьнежня 2010 году. Раней пра Свабоду ня ведаў: выпадкова натрапіў на хвалю, шукаючы навіны пра разгон Плошчы. Узяў у рукі караткахвалевы прымач, бо ня мог далей глядзець і слухаць бессаромную хлусьню і брыдоту афіцыйных мэдыяў. З таго часу імкнуся слухаць Беларускую Свабоду кожны вечар.

Чамусьці здаецца мне, што больш за іншых цярпіць ад дыктатуры дзейнай улады мая родная Віцебшчына. Таму вельмі пажадана, каб вашы карэспандэнты часьцей прыяжджалі да нас. Асабліва хацелася б убачыць Зьмітра Бартосіка.

Заўсёды дзялюся вашымі навінамі зь сябрамі, знаёмымі і роднымі. Імкнуся пашыраць кола людзей, якія ведаюць праўду, бо слухаюць Свабоду.

## *Алег Мартысюк, Менск*

***12.03.2014***

З 1952 па 1956 год я вучыўся ў Пінску, у электратэхнікуме сувязі. Жыў разам з аднакурсьнікам, які раней працаваў у радыёмайстэрні ў Баранавічах. У яго з сабой быў трафэйны нямецкі радыёпрымач. Вось па гэтым прымачы восеньню 1955 году мы ўпершыню знайшлі і пачулі беларускую Свабоду. Слухаць можна было не заўсёды: яе яўна глушылі. Казалі, што глушылка стаяла недзе пад Баранавічамі. Вельмі цікава было даведвацца пра жыцьцё людзей за мяжой, на Захадзе. У нас пра гэта фактычна не пісалі і не паведамлялі па радыё. А самі мы тады жылі бедна: мінула толькі 10 год, як скончылася вайна.

Я і цяпер слухаю Свабоду, бо яна паведамляе пра тое, пра што не даведаесься больш нідзе. Мяне і сёньня цікавіць жыцьцё простага чалавека ў розных краінах. Напрыклад, што можна набыць на заробак дворніка ці санітаркі ў шпіталі ў вас у Празе — у параўнаньні з нашай Беларусьсю. Зрэшты, магчыма, гэта цікавіць толькі мяне ды маіх знаёмых?

## *Інэса Яхліель, Менск*

***26.03.2014***

Я — пастаянная слухачка Свабоды з 1968 году, з таго моманту, калі атрымала ў падарунак транзыстарны прымач «Нейва». І хоць у той час слухаць

вас было вельмі цяжка, я знайшла ў кватэры такое месца, дзе можна было хоць нешта пачуць — гэта быў ванны пакой. Недзе напрыканцы 80-х гадоў чутнасьць стала амаль нармальная. Слухаць вас стала жыцьцёвай неабходнасьцю, таму што вы — гэта праўда, інтэлігентнасьць, дасьведчанасьць, шчырасьць, чысьцюткая беларуская мова.

Вы аддаяце вялікую ўвагу тэме палітвязьняў, за што вам — вялікі дзякуй і нізкі паклон. І прывітаньне ад Мікалая Аўтуховіча: сёньня атрымала ад яго чарговы ліст.

## *Ганна Ждановіч, Менск*

***16.04.2014***

Вельмі слушна распавядала Свабода пра мінулую выбарчую кампанію. Гэтыя так званыя «дэпутаты» ніколі з намі не сустракаюцца, ня ведаюць ні пра клопаты нашы, ні пра патрэбы. Я жыву ў раёне «Ўручча-2» ужо 25 год. За гэты час ніводзін дэпутат ні мне, ні маім суседзям ды знаёмым нічым не дапамог. Дэпутацтва патрэбна ім толькі дзеля ўласнай кар’еры і ўласнага дабрабыту.

Слухаю Свабоду праз маленькі прымач «Акіян-245». А кампутара ў мяне няма і ўжо наўрад ці будзе. Дык калі спыніце вяшчаньне ў эфіры — я застануся сьляпая і глухая, бо ня буду ведаць праўду.

Ня будзеш слухаць Свабоду — ня будзеш ведаць, як табе жыць.

# *Замест пасьляслоўя*

*Лісты, сабраныя ў гэтай кнізе, напісаныя людзьмі, якія слухалі Свабоду пераважна на кароткіх хвалях. Калі прагучала навіна пра магчымае скарачэньне і адмену караткахвалевага вяшчаньня, рэдакцыя атрымала гэты ліст ад сталага слухача Кастуся Сырэля:*

Шаноўнае спадарства!

Радыё Свабода паведаміла нам, што ў хуткім часе зьбіраецца спыніць вяшчаньне на кароткіх хвалях. Такім чынам, кароткія хвалі, якія былі сябрам многіх маіх суайчыньнікаў, у тым ліку і маім сябрам на працягу многіх дзесяцігодзьдзяў, паміраюць.

Кароткія хвалі першымі данесьлі да нас галасы Эдыт Піяф і Шарля Азнавура, гурту «The Beatles» і залатой трубы Луі Армстронга. Кароткія хвалі адчынялі нам таямнічы і дзівосны сьвет, схаваны ад нас «жалезнай заслонай». Праз кароткія хвалі, на якіх працавалі заходнія радыёстанцыі «Голас Амэрыкі», BBC, «Нямецкая хваля», Свабода, Радыё Швэцыі, мы ўпершыню даведваліся нават пра падзеі ў сваёй уласнай краіне — пра падпал суду ў Слуцку ў 1967 годзе, пра катастрофу на чыгунцы пад Менскам у 1977, пра аварыю на Чарнобыльскай АЭС у 1986. Праз выцьцё глушылак мы ўпершыню слухалі па расейскай

службе радыё Свабода «Архіпэляг ГУЛАГ» Аляксандра Салжаніцына.

Таму жалобны мітынг, прысьвечаны спыненьню вяшчаньня Радыё Свабода на кароткіх хвалях, дазвольце лічыць адкрытым.

Кажуць, што пра нябожчыкаў нельга гаварыць дрэнна. Але яшчэ кажуць, што пра нябожчыкаў нельга хлусіць. Таму скажам шчыра: кароткія хвалі хоць і былі нашым верным сябрам, але мелі непастаянны, шалапутны характар. Яны заўжды імкнуліся разарваць акаляючы Зямлю панцыр іянасфэры і вырвацца на свабоду, у Сусьвет, ці, прынамсі, заляцець як мага далей за далягляд. Першае ім не ўдавалася амаль ніколі, другое ўдавалася амаль заўжды. Бы птушка ў клетцы, яны зноў і зноў біліся сваімі празрыстымі крыламі аб наэлектрызаванае, разрэджанае, халоднае паветра, уверх-уніз, уверх-уніз, і так, скачучы, залятаць на іншыя, невядомыя землі і кантынэнты, а здаралася, аблятаці ўвесь зямны шар. Непастаянства характару выяўлялася ў тым, што вось голас у дынаміку гучыць моцна і выразна, а праз хвіліну некуды зьнікае, бы яго тут наогул ніколі не было; прычым, па закону Мэрфі, зьнікае на самым цікавым месцы. Гэтая зьява, уласьцівая кароткім хвалям, завецца «заміраньнямі сыгналу». Мы лаяліся і чартыхаліся, мы ліхаманкава круцілі ручку настройкі, але ўсё роўна зачаравана прыпадалі вухам да прымача, каб паслухаць перадачу да канца. Недасьведчаныя слухачы Свабоды дагэтуль абвінавачваюць у гэтай прыроднай

зьяве тэхнічны пэрсанал радыёстанцыі. Але, як вядома, няведаньне законаў фізыкі не вызваляе ад адказнасьці толькі такіх слухачоў, і больш нікога.

Кароткія хвалі ўступалі ў няроўную бойку з глушылкамі, прамысловымі і атмасфэрнымі перашкодамі, ды што казаць — з самім усёмагутным і неператможным Сонцам, якое прыціскала іх да Зямлі тоўстай коўдрай іянасфэры і зацята душыла. Толькі глухімі зімовымі начамі яны адчувалі сябе вальней і ляцелі, бы пералётныя птушкі, усё далей і далей за далягляд, дасягаючы тонкіх мядзяных нітак і срэбных стрыжняў нашых антэн…

Хачу ўзгадаць добрым словам тыя тэхнічныя прылады, што даносілі да нас праз кароткія хвалі галасы плянэты — радыёпрымачы і радыёлы Менскага радыёзаводу, Рыскага заводу «ВЭФ», Талінскага заводу «Пунанэ-РЭТ», Бердзкага, Днепрапятроўскага, Іжэўскага радыёзаводаў. Гэта лямпавыя і транзыстарныя радыёпрымачы і радыёлы «Родина», «Мінск», «Беларусь», «Сакта», «Латвия», «Чайка», «Промінь», «Рекорд», «Rigonda», «Симфония», «Рапсодия», «Спидола», «ВЭФ», «Океан», «Меридиан» і многія, многія іншыя. Амаль усе яны адышлі ў нябыт, але памяць пра іх будзе жыць у нашых сэрцах.

Прашу ўшанаваць іх уставаньнем і хвілінай маўчаньня.

Прашу садзіцца.

Шаноўнае спадарства!

Адышлі ці адыходзяць у нябыт паравоз, параход, прымус, патэфон, арытмомэтар, магнітафон, стужачны фотаапарат, дыскавы нумаранабіральнік, лямпачка напальваньня, et cetera, et cetera, et cetera. Як кажуць філёзафы і паэты, «усё цячэ, усё мяняецца», «река времён в своём стремленьи уносит все дела людей». Сыход кароткіх хваляў рана ці позна павінен быў адбыцца. Але нам усё роўна шкада, бо гэта — балючы ўдар па інтарэсах многіх людзей сталага веку. Ня ўсе яны могуць набыць і асвоіць кампутар, інтэрнэт. Таму спыніць вяшчаньне на кароткіх хвалях для іх — гэта бы зачыніць акенца ў вялікі сьвет, бы пазбавіць сьвежага паветра.

Давайце пашкадуем іх, шаноўнае спадарства. Праз радыёпрымачы вас слухаюць самыя небагатыя людзі, часта пакрыўджаныя лёсам і сваёй краінай. Яны — самыя верныя вашы сябры, нават тыя, хто часам сварыцца на вас. Даруйце ім гэта, не пазбаўляйце іх радасьці паслухаць Свабоду, пакуль яшчэ сяк-так працуюць іх старэнькія «Акіяны» і «ВЭФы». Працягніце вяшчаньне на кароткіх хвалях яшчэ хоць на якіх пару год, хоць да заканчэньня прэзыдэнцкіх выбараў 2015 году. А там будзе відаць.

Калі ласка.

Зь вялікай павагай — Кастусь Сырэль з маленькага мястэчка Ўшачы, што пад Полацкам.

*Гэтым прыгожым вершам у прозе мы завяршаем кнігу, але не вяшчаньне.*

*Радыё будзе жыць. Яно проста мяняе свой адрас — пераяжджае з кароткіх хваляў і радыёпрымачоў у кампутары, мабільныя тэлефоны, іншыя прылады, дзе цяпер жыве інтэрнэт.*

*І яно стане лепшым ня толькі паводле якасьці гуку — але і паводле здольнасьці выконваць усе жаданьні слухачоў. Вы можаце слухаць калі хочаце, перапыняцца, вяртацца, выбіраць толькі тое, што цікавіць вас, выбіраць любімых аўтараў, ізноў слухаць перадачы, якія некалі ўразілі, і пасылаць іх сваім унукам, дзецям, знаёмым.*

*Вы самі будзеце радыёперадатчыкам, які ніхто не заглушыць — нават Сонца.*

*Рэдакцыя Свабоды*

# *Паказьнік асобаў*

**А**



**Б**

**В**



**Г**

**Д**



**Е**

**Ё**



**Ж**



**З**



**І**



**К**

**Л**

### Н



### О



### П

**Р**



**С**

# *Паказьнік аўтараў водгукаў на «Галасы салідарнасьці»*

# *Ад рэдакцыі*

Паважаныя сябры,

Гэтая незвычайная кніга выходзіць да 60-годзьдзя Радыё Свабода.

Тут сабраныя толькі вашы выказваньні пра Радыё. У папярэдняй кнізе нашай бібліятэкі, «Лісты на Свабоду», зьмешчаныя вашыя лісты пра жыцьцё ў сучаснай Беларусі і адказы на іх аўтара перадачы «Паштовая скрынка 111» Валянціна Жданко.

У абедзьве кнігі ўвайшло менш за 5% ад агульнай колькасьці допісаў, якія прагучалі ў перадачы. Так, вы прачыталі правільна — толькі тры-чатыры з кожнай сотні лістоў, якія патрапілі ў эфір за апошнія паўтара дзясятка гадоў.

Каб выдаць толькі вашы пажаданьні, ацэнкі, прапановы, меркаваньні пра Свабоду, спатрэбілася б некалькі такіх кніг, як гэтая.

Думкі слухачоў таксама пастаянна гучаць у эфіры — штогод рэдакцыя атрымлівае многія тысячы камэнтароў па электроннай пошце, у сацыяльных сетках, праз тэлефон. Яны дапамагаюць нам працаваць і зьяўляюцца неад'емным складнікам радыёпраграмаў і публікацыяў у інтэрнэце.

Усе лісты на Свабоду, як і іншыя водгукі — бясцэнны гістарычны матэрыял эпохі, летапіс народнага духу, жыцьця, яго радасьцяў, расчараваньняў і надзеяў.

Дзякуй за вашу ўвагу. Заставайцеся са Свабодай!

# *Пра Радыё Свабода*

Першая праграма Радыё Вызваленьне выйшла ў эфір 20 траўня 1954:

«Тут Радыё Вызваленьне. Вы слухаеце голас сваіх суродзічаў-Беларусаў з вольнага сьвету... Наш голас ёсьць вашым голасам, бо мы зьяўляемся часткай вас, часткай усіх Беларусаў...»

Першы склад супрацоўнікаў на просьбу амэрыканскага кіраўніцтва зьбірала Рада БНР, першым дырэктарам стаў Вінцэнт Жук-Грышкевіч (пазьней старшыня Рады БНР). Далей радыё ўзначальвалі Ўладзімер Дудзіцкі, Уладзімер Цьвірка, Масей Сяднёў, Юрка Сянькоўскі, Вячка Станкевіч, ад 1998 — Аляксандар Лукашук.

Беларусь — адзіная эўрапейская краіна вяшчаньня, дзе Радыё Свабода ніколі ня мела рэтрансьляцыі і заўсёды працавала на кароткіх і сярэдніх хвалях з-за мяжы. Эфірны час вырас ад паўгадзіны на пачатку вяшчаньня да васьмі гадзінаў у 2001; ад 2013 — 4 гадзіны. У 1998 быў заснаваны інтэрнэт-сайт svaboda.org; у 2002 заснавана выдавецкая сэрыя «Бібліятэка Свабоды. ХХІ стагодзьдзе»; у 2008 пачалася тэлеперадача Свабоды на канале «Белсат». Сёньня радыё — мультымэдыйная інфармацыйная ўстанова, якая працуе на разнастайных дыгітальных плятформах, у тым ліку ў сацыяльных сетках.

Беларуская служба — ляўрэат найвышэйшай прафэсійнай узнагароды Амэрыканскага

замежнага вяшчаньня «Прыз Дэвіда Бэрка за выдатную журналістыку» (2011).

Упершыню ў гісторыі ўзнагарода была прысуджана не асобнаму журналісту ці праекту, а ўсёй рэдакцыі. Грашовую частку ўзнагароды супрацоўнікі рэдакцыі перадалі сем'ям беларускіх палітвязьняў.

Архівы Радыё Свабода захоўваюцца ў Гувэраўскім інстытуце пры Стэнфардзкім унівэрсытэце ЗША.

Радыё фінансуецца Кангрэсам ЗША праз незалежную Раду кіраўнікоў вяшчаньня.

# *Summary*

Letters On Liberty – Listeners of congressionally-funded RFE/RL Belarusian-language “Liberty” broadcasts offer their feedback on the station’s programming.  Audiences living in Europe’s last dictatorship, as Belarus is often called, offer words of advice and gratitude for the accurate, timely and objective information the station has provided through the years, as well as for its rich selection of features, commentary and analysis, and investigative journalism.  As one listener wrote:  “If you don’t listen to Liberty, you just won’t know how to live!” For the most part, this book is a collection of love letters.

Quotes:

“It’s while listening to ‘Liberty’ that I feel most like a free man.”

“I want to thank the American people as it is because of them that for decades we have been listen to ‘Radio Liberty’ and hear the voice of truth.”

“Without ‘Liberty’ one merely exists but does not live!”

“It’s like a shot of vodka after a steam bath: One feels refreshed, clearer, more content.”

“…It’s why I omit the quotation marks around the station’s name:  For me liberty is not merely the name of a radio station.  It is a word that defines the foundation of my existence as a person.  It is an expression of my inner soul.”

**«Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе» —**
кніжны праект Беларускай службы Радыё Свабода.
Чытайце ў інтэрнэце: **www.svaboda.org**




**Верш на Свабоду.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2002. — 464 с.




**Дарога праз Курапаты.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2002. — 464 с.: іл.




**Poems on Liberty: Reflections for Belarus.**
*Пераклады Веры Рыч.*
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004. — 312 с.




**Быкаў на Свабодзе.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004. — 536 с.: іл.




**Быкаў на Свабодзе.**
Збор выступаў клясыка беларускай літаратуры ў этэры Радыё Свабода. Аўдыёдыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004.




**Дуліна ад Барадуліна.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004. — 254 с.: іл.




*Аляксандар Лукашук.*
**Прыгоды АРА ў Беларусі.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2005. — 500 с.: іл.




**Быкаў на Свабодзе.**
2-е выд., дапоўненае.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2005. — 662 с.: іл.




*Сяргей Дубавец.*
**Вострая Брама.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2005. — 520 с.




*Вячаслаў Ракіцкі.*
**Беларуская Атлянтыда.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2006. — 504 с.: іл.




**Плошча, 19.03—25.03.2006.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2006. — 400 с.: іл.




*Вінцэсь Мудроў.*
**Альбом сямейны.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2007. — 232 с.: іл.



**Начная чытанка. 50 аўтараў з этэру Радыё Свабода.**
Мультымэдыйны дыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2007.




*Уладзімер Арлоў.*
**Імёны Свабоды.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2007. — 576 с.: іл.




*Івонка Сурвіла.*
**Дарога. Стоўпцы – Капэнгаген – Парыж – Мадрыд – Атава – Менск.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2008. — 144 с.: іл.




*Пётра Садоўскі.*
**Мой шыбалет.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2008. — 426 с.: іл.




**Начная чытанка 2. 50 аўтараў з этэру Радыё Свабода.**
Мультымэдыйны дыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009.




**Адзін дзень палітвязьня.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 364 с.: іл.




*Юры Дракахруст.*
**Акцэнты Свабоды.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 430 с.: іл.




*Сяргей Дубавец.*
**Як? Азбука паводзінаў.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 252 с.: іл.




*Міхась Скобла.*
**Вольная студыя.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 554 с.: іл.




**Барды Свабоды.**
Зборнік гутарак і песень 50 удзельнікаў аднайменнай перадачы Радыё Свабода. Мультымэдыйны DVD-дыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2010.




**Васіль Быкаў. Доўгая дарога дадому.**
Чытае аўтар. Мультымэдыйны дыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2010.




*Вячаслаў Ракіцкі.*
**Беларуская Атлянтыда. Кніга другая.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2010. — 352 с.: іл.




**Сто бардаў Свабоды.** Зборнік гутарак і песень 100 удзельнікаў перадачы «Барды Свабоды». Мультымэдыйны DVD-дыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011.




*Галіна Руднік.* **Птушкі пералётныя.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 192 с.: іл.




**Галасы Салідарнасьці.** Міжнародная падтрымка беларускай дэмакратыі. Мультымэдыйны DVD-дыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011.




*Вячаслаў Ракіцкі.* **Сто адрасоў Свабоды.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 330 с.




**Саўка ды Грышка. Год першы.** Калекцыя 50 песьняў – падзеі году ў сатырычным дуэце Лявона Вольскага з самім сабой на Радыё Свабода. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011.




*Альгерд Бахарэвіч.* **Малая мэдычная энцыкляпэдыя Бахарэвіча.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 320 с.: іл.




*Аляксандар Лукашук.*
**Сьлед матылька. Освальд у Менску.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 390 с.: іл.




**Адзін дзень палітвязьня. 2009–2011.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 328 с.: іл.




*Уладзімер Арлоў.*
**Пакуль ляціць страла.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 400 с.: іл.




*Уладзімер Арлоў.*
**Імёны Свабоды.**
Аўдыёкніга.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012.




*Сяргей Дубавец.*
**Майстроўня. Гісторыя аднаго цуду.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 464 с.: іл.




**Слоўнік свабоды.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 516 с.




*Альгерд Бахарэвіч.*
**Гамбурскі рахунак Бахарэвіча.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 428 с.: іл.




*Валер Каліноўскі.*
**Справа Бяляцкага.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 364 с.: іл.




*Юры Бандажэўскі.*
**Турма і здароўе.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 250 с.: іл.




*Алег Грузьдзіловіч.*
**Хто ўзарваў менскае мэтро?**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 354 с.: іл.




*Юрась Бушлякоў.*
**Жывая мова.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 294 с.: іл.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста першы.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 536 с.: іл.




*Анатоль Лябедзька.*
**108 дзён і начэй у засьценках КДБ.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 434 с.: іл.




*Альгерд Бахарэвіч.*
**Каляндар Бахарэвіча.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 464 с.: іл.




*Валянцін Жданко.*
**Лісты на Свабоду.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 428 с.